


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĈYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkaušĉyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка л...іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за па...ойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkaušĉyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 16 (500) — Вялікдзень, 1960 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


# Божай Міласьцю

## Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне

**ДА ЎСЯЧЭСНАГА ДУХАВЕНСТВА, ПРАПАДОБНАГА МАНАСТВА Й УСІХ БАГАЛЮБНЫХ ВЕРНІКАЎ НАШЫХ НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ПРАБЫВАЮЧЫХ.**

## Вялікоднае Архіпастырскае Пасланьне

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**«Сяньня спасеньне сьвету, бо: ХРЫСТОС УВАСКРОС!»**

(Вялікодны Канон).

**УЛЮБЛЕНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!**

За многа вякоў наперад Прарок абвесціў: «Вось дзень, што яго стварыў Гасподзь: будзем радавацца й весяліцца ў ім!» (Пс. 117, 24). І сталася. Дзеля Свае бязьмежнае любові да нас Гасподзь наш Ісус Хрыстос дабравольна ўзяў на Сябе грахі й немачы нашыя, за нас дзеля іх памёр на Крыжы, і гэтым дараваў нам збаўленьне. Хто можа апісаць бязьмежнае гора, нявымоўныя цярпеньні Прачыстае Маці Яго? Горка плакала Яна пад Крыжам пакутаў Сына Свайго, і ручаі сьлёзаў абмывалі Прачыстае аблічча Яе вось ужо трэйці дзень.

Аж раптам, яшчэ ня ўзыйшло сонейка ў Нядзельку, як Ёй зьявіўся Ангел і абвесьціў: «Радуйся, Дзева, радуйся! Радуйся багаслаўленая, радуйся прапраслаўленая: Твой бо Сын УВАСКРОС на трэйці дзень ад гробу!» (Вялікодняя Сьціхіра). Уваскрос? Я ізноў пабачу Яго? О, што за радасьць! І вось ужо Марыя Магдалена радасна цалуе Яе й абвяшчае: Так, ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС! Калі я сяньня раніцою прыйшла да Гробу, каб намазаць Прачыстае Цела Яго, я пабачыла там двох Ангелаў, якія запыталіся ў мяне: Жанчына, чаго плачаш? Я аглянулася і бачу: стаіць якісь мужчына. Я падумала, што гэта садоўнік, і кажу яму: Дабрадзею, калі ты вынес Яго, скажы мне, дзе ты Яго палажыў? А Ён кажа мне: Марыя! І я пазнала Яго, і зь нявымоўнай радасьцю ўсклікнула: Раввуні-Вучыцелю! (Лк. 20, 13-16). Уваскрос! Уваскрос! — радасна паўтарала Прачыстая. ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС! паўтаралі ўжо ўсе іншыя Жоны Міраносіцы й сьв. Апосталы, бо й яны ўжо пабачылі Яго!

Гэта быў першы радасны Вялікдзень на зямлі: Вялікдзень малой, але найслаўнейшай грамады за ўсе часы, бо-ж Прачыстай Маці Божай, Жонаў Міраносіцаў і Апосталаў на чале з Самым Уваскросшым Хрыстом. Толькі цяпер яны зразумелі словы Яго: На трэйці дзень Я ЎВАСКРЭСНУ! Уваскрэсну, бо: «Я вашае Ўваскрасеньне й Жыцьцё, і хто ўверыць у Мяне, хоць памрэ, жыць будзе!» (Іо. II, 25). Так споўніліся прадсказаньні другога Прарока: «Сьмерць! дзе тваё джала? Пекла! дзе твая перамога?» (Ос. 13, 14). І напоўніліся ўжо сьв. Апосталы нязломнаю Вераю ў Господа нашага Ісуса Хрыста, і гатовыя былі ўжо памерці за Яго, бо-ж сьмерці ўжо няма для веруючага, а ёсьць ужо толькі жыцьцё вечнае, бо-ж Ён, Хрыстос, як Першы з нас, УВАСКРОС, і нам жыцьцё вечнае дараваў! (I кар. 15, 20).

Вось чаму, дарагія дзеці нашыя, Вялікдзень такое велічнае, слаўнае й радаснае Сьвята нашае! Бо-ж Хрыстос — Бог наш, любячы нас Айцец наш Нябесны! Таму Ягоная Перамога над злом, пеклам і сьмерцю — нашая перамога! Таму Ягонае Ўваскрасеньне, гэта пачатак нашага ўваскрасеньня й радасьці вечнае разам зь Ім! Вось чаму пры сьпеве: ХРЫСТОС УВАСКРОС ізь мертвых . . ., радасьць душаў нашых ужо такая вялікая, што мы ня можам паўстрымаць яе! У радасьці й любові мы ўжо гатовыя абняць, да сэрца прытуліць, навет няпрыяцеля гатовыя абдарыць чыстым Вялікодным пацалункам, натхнёна абвесьціць яму: ХРЫСТОС УВАСКРОС!



І некалі нашыя вёскі на Вялікдзень былі адным суцэльным морам радасьці й весялосьці! У гэтыя слаўныя дні яны запраўды тварылі адну цудоўную грамаду дзяцей Божых на чале з Уваскросшым Хрыстом! І запраўды Ён тады між імі па зямлі хадзіў, цешыўся й радаваўся зь імі, багаслаўляў іх, сэрцы іхныя напаўняў Сваім Божым мірам-супакоем, задаваленьнем.

А Ён-жа, Бог і Спас наш, Сам сказаў: «Вось Я з вамі ўва ўсе дні да скончэньня веку. Амінь.» (Мц. 28, 20). Таму Ён і цяпер з намі. І цяпер Ён ходзіць сярод нас, асабліва-ж сярод нашага церпячага народу ўдома ды сярод тых на катаргах і высылках, і цяпер пацяшае, узмацняе, надзеяй напаўняе. Таму й яны там радуюцца й весяляцца на Вялікдзень, натхнёна вітаюць сябе, цалуюць, прамаўляюць: ХРЫСТОС УВАСКРОС! АЛЕЛЮЯ! Бо асабліва яны прамаўляюць разам з Прарокам: «Прыйдзе час, і праведнікі ўзрадуюцца й узьвесяляцца» (Пс. 68, 4), ды: «Пабожныя ўсьцешацца ў славе Яго» (Пс. 149, 5). Тым болей мы тут будзем радавацца й весяліцца, сардэчна вітаць адзін аднаго Вялікодным пацалункам і натхнёна прамаўляць: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Бо-ж мы тут усюды з Ласкі Яго будуем асновы Ягонага Царства Божага на зямлі: нашыя сьв. Праваслаўныя Цэрквы! А гэтая вялікая Ласка Яго да нас сьветчыць нам, што неўзабаве ўстане з гробу свайго нашая любая пакутніца Маці-Беларусь, і зазьзяе ў славе Божай!

І з гэтаю Вераю, Любоўю й Надзеяй на нашае скорае вызваленьне, і шчасьце вечнае вітаем вас, усячэсныя Айцы, Браты й Сёстры й увесь Беларускі Народзе зь Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам, перамогаю й трыумфам Неба й зямлі — УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ! З цьвёрдаю Вераю, палымянаю Любоўю і непахіснаю Надзеяй будзем славіць Яго, Бога й Спаса нашага, і Ласка Ягоная нам памножыцца: неўзабаве ўсе мы ўжо на Вольнай Зямельцы нашай будзем натхнёна вітаць сябе: ХРЫСТОС УВАСКРОС! — ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС! Уваскрос, усякае зло й сьмерць паканаў, і нам шчасьце й свабоду на зямлі, і радасьць вечную на Небе дараваў!

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прысутнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі. АМІНЬ.

**Пакорны АРХІЯПІСКАП СЯРГЕЙ Галава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Пакорны АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне.**

Дана Году Божага 1960,
месяца красавіка,
Аўстралія-Амэрыка.

# Сьвяты непераможны кансэрватызм

Штогодны сьвяткавальны настрой пераносіць нас у тое мілае роднае асяродзьдзе, у якім маладая ўражлівая душа піла калісь салодкія перажываньні, у якім чысты, яшчэ не перагрызены іржою зьняверу, розум запладняўся жыцьцямудрымі, хоць простымі, думкамі, а воля шчырым жывым прыкладам радзімага-хрысьціянскага быту.

Вялікдзень! Вытужаны доўгай зьняморваючай зімою й вымалены вялікапоснай пакутай! Вялікдзень раззвонены расьсьпевамі аж да экстазы радасным Алелюем ды рассмакаваны-разгавелы аж да вясёлага падхмельля «сьвянцоным» . . .

Каго-ж, на самы толькі ўспамін, не кранае ды не распрамяняе ён! Сапраўды, каго раз авеяў ён сваім глыбоказьмястоўным існа райскім чарам, той ня здольны забыць яго духова-падымаючай адраджаючай сілы.

Колькі бо адраджэнскай дынамікі будзіць ужо самая веснавая рэзоннасьць, калі так можна сказаць, гэтага існа **вялікага дня.** Але веліч яго мы хрысьціяне мерым перадусім нескангчатнай велічча й сьвятасьцю самога Сына-Бога, Усемагутнага Трыумфатара над сьмерцю й Адрадзіцеля вясны ня толькі гэтай прыродна-фізычнай, але й надпрыродна-духовай, мерым велікаважнасьцю фактаў нашага маральнага, а ў канцы й фізычнага, згробуўстаньня, запаручанага Хрыстовым згробуўстаньнем.

Так яго разумна-пабожныя дзяды й бацькі нашы разумелі й мерылі ды галоўна з такіх матываў сьвяткавалі й перадавалі патомнасьці. І сапраўды, трэба дзівіцца тэй здольнасьці шляхотнага ўтылітарызму, вычуваньня вышэйшай карыснасьці, нашага прастанародзьдзя болей, чым асьвечаных сучасных слаёў народу. Як-жа прыгожы верны ды вымоўны абразок гэтага малюе нам Якуб Колас у 24-ым разьдзеле свае паэмы «Новая Зямля». У ім навет бальшавіцкая цэнзура ня здолела зацерці акцэнтаў, дабітна сьветчаных аб тым, што шчырахрысьціянскія народныя масы нашыя сьвяткавалі — у прыклад нам — Вялікдзень «не самым толькі хлебам (жыватом), але і ўсякім словам, паходзячым з вуснаў Божых . . .», г. зн. і душою. Як не камэнтуй гэты абразок, то ўсё-ж відно ў ім нешта большае за абыдную ўцеху традыцыйную, відна ў ім пашана й перажываньне разважаных рэлігійных Тайніц ды вера ў тую ўшляхотніваючую **сілу сьвята**, падчас якога:

*І ліхія людзі падабрэлі,*
*Бо сьвятам Божым зусюль вее,*
*З нажом разбойнік не пасьмее*
*Залегчы ў лесе срэдзь дарогі,*
*Бо і заможны і убогі*
*Сьвяты Вялікаднік сьвяткуюць . . .*

А сьвяткуюць яго не таму толькі, што

*«Ужо вялось так год ад году»,*

не для якой інэртна-забабоннай голай традыцыі, а перадусім таму, што ў гэтым кульце найсьвяцейшых Божых тайніц, ідэялаў, бачыцца прыгожая культурызацыя чалавечага жыцьця, надаваньне яму сэнсу, дамэтнасьці ды красы, безь якіх яно марнее.

*«Абрусам новым стол накрыты,*
*Усё мае выгляд самавіты:*
*Мужчыны добры і прыветны,*
*Ніякай цені не заметна . . .»*

Што сьвяткавальнікі шукалі іменна гэткіх духовых ідэялаў, дык гэта відно хоць-бы й з таго, як яны перш, чым жывату даць разгавецца, для душы пажывы стараліся ў сьвятыні дый вярнуўшыся дадому вось:

*«На бэльку кінуў бацька вочы,*
*Бярэ кантычку і гартае,*
*‚Васолы нам дзісь дзень' шукае»,*

каб упрытомніць сабе (хоць мо й ня лёгка было ў чужой мове) ды нацешыцца гісторыяй таго цуду над цудамі — **Трыумфальнага Згробуўстаньня Збавіцеля.** Хата папросту абярталася ў набожню!..

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# У імя праўды

Можа й ня варта зьвяртаць увагі на асіплую брахню з усходнябэрлінскага заканурку, дзе паволі канае так званы «Комитет за возвращение на Родину» ды ягоная газэціна на беларускай мове пад тэй-жа мянушкай? Ужо пяць год, як сьпярша «генэрал» Міхайлаў, а потым «генэрал» Вішнеўскі ўсяляк шантажуюць палітычных эмігрантаў, каб яны вярнуліся ў СССР, а вынікі іхняе прапаганды, асабліва сярод Беларусаў, жалю годныя. Пэўне-ж таму й шкумаціна «За вяртанне на Радзіму» зьмяніла сёлета сваю шыльду на «Голас Радзімы» (г. зн. — «Благі мат Масквы»), што сьветчыць толькі аб банкроцтве леташніх «завяртанцаў», або сёлетніх «благіматаўцаў». Дык навошта чапаць тых, хто самых сябе цураюцца? Аднак даслаў мне суродзіч з Аргентыны № 95 (384) падкінутае яму Вішнеўскім газэціны і ветліва просіць выказацца наконт ейнае перадавіцы «Шакалы блукаюць сярод вас». Бракуе мне вольнага часу, але выконваю ягоную просьбу.

Распачынаецца перадавіца вытрымкай з майго артыкулу «Шакалы блукаюць па лясох», надрукаванага 19 травеня 1942 г. у віцебскай газэце «Новы Шлях». Паводля сьцьверджаньня «завяртанцаў», я ў гэтай вытрымцы называю партызанаў шакаламі, а між тым напачатку 1942 г. яшчэ ніякага масавага партызанскага руху на Віцебшчыне ня было.

Агульнавядома, што ў першыя дні вайны ўсе буйныя партыйныя й савецкія ваяводы, ратуючы сваю скуру, панічна ўцякалі на ўрадавых аўтамашынах на ўсход. Першым тут прыгадваецца генэральны сакратар ЦК КП(б)Б Панамарэнка, пра якога ў нашым народзе існуе красамоўная прыказка: «Пантэляймон — дух зь цябе вон!» Ахоплены жывёліным жахам, ён у шасьці кілямэтрах ад Менску пераехаў машынай чатырохгадовую дзяўчыну Насту Бульбянік і навет не затрымаўся, каб дапамагчы ёй. Што Панамарэнкам да сьмерці «нейкае» там Насты Бульбянік у параўнаньні з наступнай сьмерцю кінутых імі ў вабдымкі страшнае вайны тысячаў і тысячаў Беларусаў і Жыдоў, аб якіх цяпер у сваёй перадавіцы праліваюць кракадылавыя сьлёзы «завяртанцы»? Першы сакратар Віцебскага абкому КП(б)Б Стулаў уцёк зь Віцебску аж на самалёце, калі Немцы былі яшчэ пад Барысавам. Пэўне-ж, камуністыя баяліся ня толькі фашыстаў, але й беларускае народнае распravы. Усё-ж работніцы ільнопрадзільнае хвабрыкі «Дзьвіна» пасьпелі затрымаць свайго дырэктара Бепяціпудовую Ханіну, што ўцякала на трохтонавым аўтагрузавіку зь мяшкамі мукі і цукру, з кадушкамі сала і масла, навет — селядцоў і гуркоў.

Калі чаловыя бальшавікі ў большасьці пасьпелі, на жаль, даць драпака, дык драбнейшыя, якім забракла дзяржаўнага сала, каб падмазаць свае адказныя пяты, захаваліся ў лясох. Яны, палохаючыся зайцоў, блукалі па Сянькоўскаму бору, Цёпламу лесу, Скрыдлёўскай пушчы і г. д., хаваючыся за тыя часы і ад Немцаў і ад Беларусаў. Гэта былі — другія ды трэйція сакратары райкомаў і гаркомаў, старшыні ды сакратары райвыканкомаў, гарсаветаў і сельсаветаў, паасобныя каты — энкавэдэшнікі, камісары тых савецкіх арміяў, што ўжо «прагаласавалі за Сталіна», здаючыся ў палон, і розныя іншыя «товарищи». Для Немцаў яны аніякае пагрозы не ўяўлялі, але рабавалі мірнае насельніцтва, адбіраючы ў жанчын і дзяцей апошні кавалак хлеба. Хіба гэта запраўды не шакалы? І таму з асаблівай прыемнасьцю я ахарактарызаваў іх тады 19 травеня 1942 г. «як — «зьдзічалы, стрыкаты зброд».

Далей ў «завяртанскай» перадавіцы зазначаецца, што гітлераўцы разбурылі ў Віцебску:

«усе фабрыкі, заводы, школы і палацы культуры, бібліятэкі і жылыя дамы. Дзесяткі тысяч людзей пры дапамозе гітлераўскіх пасобнікаў накшталт Віцьбіча былі вывезены на катаржныя работы ў Германію, закатаваны ў гестапо і лягерах сьмерці».

А ў запраўднасьці яшчэ за два дні да прыходу 9 ліпеня 1941 г. Немцаў у Віцебск, ён уяўляў зь сябе суцэльнае вогнішча, зарыва якога было відаць уначы аж з аддалёнага на 80 кілямэтраў Вялікжу. Паводля загаду Сталіна аб «голай зямлі», тутэйшы гарком КП(б)Б стварыў адмысловыя зьнішчальныя брыгады. Яны разбуралі і падпальвалі ня толькі ваенныя аб'екты, як — вагзал, казармы, масты, склады і г. д., але й жыльлёвыя вялікія і малыя дамы, панчошна-трыкатажныя хвабрыкі імя Кляры Цэткін і «КІМ», ільнопрадзільную хвабрыку «Дзьвіна» імя Кагановіча, машынабудаўнічыя заводы імя Кірава і «Камінтэрн», іголкавы завод і акулярную хвабрыку, гарбарны завод імя Яўсьцігнеява і абутковую хвабрыку «Чырвоны Кастрычнік» і дзесяткі іншых прамысловых прадпрыемстваў, трамвайны парк і вадакачкі, клюбы чыгуначнікаў, трыкатажнікаў, мэталістаў і гарбарнікаў, бальніцы і бібліятэкі, мэдычны і пэдагагічны інстытуты, драматычны тэатр і кінатэатры, мастацкую галярэю Ю. Пэна і гістарычны палац, перароблены перад вайной у катавальню НКВД. Гэтак бязьлітасна разбурае ўсё толькі той, хто згубіў усякую надзею на зварот назад. Зьнішчальныя брыгады не пашкадавалі навет тысячагадовую царкву Дабравешчаньня, за колькі год перад тым прыстасаваную бальшавікамі пад абласны архіў. Між іншым пасьля вайны, на Нюрнбэргскім працэсе, прытрымліваючыся палітыкі — Трымай злодзея! — камуністыя закідалі фашыстым, нібы гэта апошнія спалі ў Віцебску царкву Дабравешчаньня. А можа гэта таксама нацыстыя ў Віцебску з 1918 па 1940 год зьнішчылі ўсе выдатныя помнікі архітэктуры, як Усьпенскі сабор, «Чорную Тройцу», Уваскрасенскую царкву, Тройцу Маркавага манастыра і г. д., якімі цяпер савецкі навуковец М. Кацар захапляецца ў сваёй працы «Беларуская архітэктура» і сарамяжліва піша аб іх гэтак, нібы яны існуюць дагэтуль?

Мы не забываема, што фашыстыя ў часе вайны закатавалі тысячы віцеблянаў, але камуністыя за мірны час зьнішчылі ня менш іх. Немцы вывозілі Беларусаў на катаржную працу ў Нямеччыну, а Расейцы, з дапамогай беларускіх калябарантаў, вывозілі Беларусаў на катаргу ў Варкуту, Калыму, Караганду і ў іншыя нязьлічоныя канцлягеры. Не дарма паэта зь Віцебску, які на сабе вызнаў бальшавіцкую катаргу, піша пра чыгунку за Байкалам, што на ёй:

> Амаль пад кожнай шпалай
> Ляжыць замучаны
> У выгнаньні Беларус.

Фашыстыя катавалі віцяблянаў за часы вайны ў Ілавайскім лесе, у загарадных кар'ерах, на Юр'евай горцы, а камуністыя за мірны час перастраялі іх бязь ліку ў Духаўскім рове, блізу Мазурына, на Пескавацiку. Што лепш — гестапаўстая шыбеніца, або НКВД-шняя куля ў патыліцу? Дзе прыемней — у Дахаў, або на Салаўкох? Што горай — Гайль Гітлер, або Слава Сталіну? Мы беларускія палітычныя эмігранты аднолькава ставімся і да фашыстых і да камуністых. І першыя і другія ворагі беларускага народу.

Асабліва абыйшло «завяртанцаў» нашае зацікаўленьне на эміграцыі — чаму сучасны Віцебск налічвае ўсяго 128 тысяч жыхароў, калі ў 1940 г. іх было 181 тысяча. Іхняя спасылка ў перадавіцы на страты за часы вайны ня вытрымлівае крытыкі, бо Менск, які пацярпеў ад вайны крыху менш за Віцебск, мае цяпер 412 тысяч жыхароў замест 238 тысяч у 1939 г. І адказ мы знойдзем у кніжцы — «Беларуская ССР» — выдадзенай ў 1957 г. Інстытутам Эканомікі Акадэміі Навук БССР. У ёй, чорным па беламу, шчыра зазначана:

«Працоўнымі рэсурсамі Віцебская вобласьць забясьпечана горш за іншыя» — і гэтае тлумачыцца далей тым, што — «у пасьляваенны час адбываецца значны адток насельніцтва за межы вобласьці, у тым ліку ў зноў асвойваныя раёны на ўсходзе краіны».

Кажнаму былому падсавецкаму грамадзяніну вядома, што кіравала ды кіруе ў СССР значнымі адтокамі насельніцтва на ўсход толькі ЧК-ГПУ-НКВД-МГБ. Сьпярша адразу пасьля звароту саветаў 26 чэрвеня 1944 г. у Віцебск, СМЕРШ расстрэльваў штоноч на вуліцы імя газэты «Віцебскі Рабочы», блізу хвабрыкі «Сьцяг Індустрыялізацыі», сотні Беларусаў, потым НКВД на працягу пяці год павысылала ў канцлягеры Сібіру тысячы віцяблянаў за іхняе нявольнае сужыцьцё зь Немцамі, а цяпер яны нібы дабраахвотна едуць у дзікі стэп Казахстану на цаліну, на новыя савецкія каляніяльныя плянтацыі. І з рабаўласьніцкім маскоўскім цынізмам наш беларускі народ называецца тут «працоўнымі рэсурсамі», г. зн. — «работніцкім быдлам», як за часы царскага прыгону.

Сваю перадавіцу «завяртанцы» канчаюць зваротам да Беларусаў на чужыне:

« — Шакалы блукаюць сярод вас за мяжой. Сьцеражэцеся шакалаў!»

І акрамя Юркі Віцьбіча яны пераймяноўваюць у сувязі з гэтым зваротам яшчэ дзесяткі два суродзічаў, адданых дарэшты беларускай вызвольнай справе. Ну што-ж — пэўне даліся мы раней бальшавіком у знакі ды маем гонар і надалей да скону свайго жыцьця змагацца ўсімі залежнымі ад нас сяродкамі з адвечным ворагам беларускага народу — Масквой. А «завяртанцы» — гайдукі Масквы, беларускія калябаранты навет і не заслугоўваюць нашае асаблівае ўвагі. Ім адказваю можа й празаічна, але фігуральна словамі нашага добрага Альгерда Абуховіча:

> Буду вольным ваўкалавкам,
> Ты-ж — на прывязі сабакам!

**Юрка Віцьбіч**

# Тэмір-Таў і бальшавіцкія злачынствы

Да апошняга часу няшмат хто ведаў, што недзе ў Савецкім Саюзе існуе мясцовасьць Тэмір-Таў. Толькі цяпер, калі на Захад вярнулася некалькі рэпатрыянтаў з Савецкага Саюзу, тут даведаліся, што на пачатку кастрычніка мінулага году ў Тэмір-Таў каля Караганды мела месца паўстаньне. Паўстаньне ўзьняла моладзь пераважна зь Беларусі і Украіны, якая была загнаная ў Казахстан і працавала ў тэміртаўскім мэталюргічным заводзе. Прычынай яго былі цяжкія, эксплятатарскія ўмовы працы. Паўстаньне трывала тры дні і было крывава здушанае аддзеламі савецкай арміі. Каля 100 чалавек было забіта і 1000 паранена, Пасьля адбываліся суды — пасыпаліся жорсткія кары. Бальшавіцкая дыктатура бязьлітасна расправілася зь юнакамі, якія, даведзеныя да роспачы эксплятацыяй дзяржавы, выступілі супраць эксплятатараў.

Гэта ня першае і, напэўна-ж не апошняе паўстаньне працоўных у Савецкім Саюзе. Весткі аб іх вельмі позна прасочваюцца за мяжу. Маскоўскія тыраны трымаюць у сакрэце свае злачынствы.

А злачынствы гэтыя немалыя. Ужо дзесяткі гадоў дыктатары — аднаасобныя, калектыўныя — валодаюць лёсам і жыцьцём мільёнаў падпарадкаваных сабе людзей паводля свае́й, не заўсёды здаровай, фантазіі. Досыць, каб нейкі сатрап тыцнуў пальцам на мапе і сказаў: «Тут мае быць мора, а тут — канал!» — а ўжо дзесяткі тысяч людзей з усіх куткоў Савецкага Саюзу мусяць пакідаць свае куты і сем'і ды ехаць выконваць загад тырана — капаць мора ці канал.

Але пакуль зганяць людзей на гэтыя работы, дыктатары не падумалі аб тым, каб даць ім там нейкія людзкія ўмовы жыцьця й працы. А гэтыя ўмовы былі заўсёды жудасныя. Ня толькі шматмільённая армія вязьняў, але і вольныя людзі жылі й працавалі, як у канцэнтрацыйных лягерах.

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

Так на картах Савецкага Саюзу зьявіліся «моры», каналы, на далёкай Поўначы паўстала індустрыя, асвойвалася цаліна ў Азіі.

Ня думаем, што ўсе гэтыя «ленінскія», «сталінскія», «сацыялістычныя» новабудоўлі былі неабходныя для шчасьця падсавецкіх людзей і народаў. Затое з упэўненасьцяй можна сказаць, што яны каштавалі шмат жыцьцяў, поту і здароўя гэтым людзям.

А вось яшчэ адзін сьвежы прыклад злачынства бальшавіцкай дыктатуры.

3-га красавіка «Правда» паведаміла, што ў гэтым годзе пачынаецца пабудова каналу «Іртыш-Караганда». Канал будзе 500 кілямэтраў даўжыні і дасьць ваду зь Іртыша аж у трагічны для беларускай моладзі Тэмір-Таў каля Караганды.

Пашто-ж патрэбны гэты канал?

Вось-жа на загад дыктатуры ў пустынных стэпах Казахстану вырасьлі буйныя індустыяльныя цэнтры: Караганда, Тэмір-Таў, Балхаш, Джэзказган і шмат іншых. Людзей сагналі, індустрыю пабудавалі і выйшла гладка, але... на паперы... Бо выявілася, што шмат якіх з гэтых цэнтраў ня могуць працаваць: няма вады! Таму, каб апраўдаць нязьлічоныя ахвяры бязглуздага савецкага плянаваньня і даць ваду пабудаванай індустрыі — трэба капаць канал. Але, як гэта пераважна бывае ў савецкім плянаваньні, не пачалі спачатку, не падумалі, што «без вады, ні туды, ні сюды...»

Газэта «Правда» дакладна падае, колькі мільёнаў кубамэтраў трэба выкапаць зямлі, колькі палажыць бэтону. колькі вады будзе пераплываць праз канал, нават колькі будзе каштаваць кубамэтар вады. Аднак бальшавіцкія плянавікі забыліся аб адным: колькі людзкіх ахвяраў будзе каштаваць пабудова каналу. Гэта іх ня так цікавіць. Гэта — драбніца для дыктатараў...

Канал Іртыш-Караганда будзе будавацца 5 год. Прадбачваецца, што ў 1965 годзе ў Тэмір-Таў даплывуць воды Іртыша. Але пакуль іртыская вада, далёка пярвей у Тэмір Таў палілася беларуская й украінская кроў. Яшчэ адно злачынства на рахунак дыктатараў, а гэтакіх злачынстваў народазабойстваў на іхным рахунку нямала. Нялёгка будзе расплачвацца...

**пс**

# Сьвяты непераможны кансэрватызм

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

Ці-ж ня прыгожы, ці-ж ня годны насьледаваньня кансэрватызм гэткіх практык рэлігійных нашага шчыраверучага сялянства? Ці-ж ня будзіць ён даверу й надзей на перамогу над бязбожніцтвам? Як-жа брутальнымі дый дарэмнымі выглядаюць у сьвятле гэтых думак усе прасьледныя натугі таго бязбожніцтва! На якую блазноцкую кавярзу выглядае тое значаньне, якое даюць гэтаму кансэрватызму бальшавіцкія слоўнікі, акрэсьлюючы яго, як «рэакцыянэрства», «адсталасьць», «цемрашаласьць»! Ня выкараняць аднак яго! Ён глыбока жыве ў перакананьні й сэнтымэньце народу! Ён трымаецца ня толькі таму, што практыкавалі яго (гэты кансэрватызм) слаўнай памяці іхнія дзяды й бацькі. Не! Ёсьць у ім нешта глыбейшае, да чаго натура сваёй уроджанай сілай цягне, а ласка Божая пабуджае. Бачаць тое (інтымна) і самі навет бальшавікі, таму й намагаюцца на месца яго ўводзіць **свой,** праз практыкаваньне (прымусовае) сваіх «сьвят». Гэта аднак ім не ўдаецца, бо разумеюць і трактуюць чалавека занадта аднабока, адкідаючы ў ім духовую частку зь ейным уроджаным пачуцьцём свае саманявыстарчальнасьці людзкое ды імкненьнем да вышэйшасьці.

Верма — прыдзе ўрэшце такі **вялікдзень,** калі нашыя перасьледаваныя абязбожваньнем сяньня браты-кансэрватыстыя сьвятых родных абычаяў з цэлай сатысфакцыяй запяюць, гледзячы на другі цуд Божай усёмагутнасьці й справядлівасьці над валадарамі бязбожнымі — запяюць

> *Ўладар Нябесны к нам прыбыў,*
> *Як цьвет на сонейку зацьвіў,*
> *Па сьмерці з намі зноў зажыў!*
> *Бязбожну нетру зваяваў,*
> *Усенькіх злыдняў паканаў,*
> *А грэшным ласку даравай!*
> *Алелюя!..*

**Т.**

# Аб тым, што мусіла-б быць але не адбылося

На XXIV партзьезьдзе КПБ і сакратар ЦК КПБ К. Мазураў і старшыня Саюзу Пісьменьнікаў БССР П. Броўка, зноў успамянулі ня добрым словам «рэвізіяністаў» у беларускай савецкай літаратуры А. Кулакоўскага («Дабраселыцы») і А. Макаёнка («Каб людзі ня журыліся»). З гэтай рацыі П. Залужны ў «Бацькаўшчыне» № 11, 1960, зусім слушна заўважае, што на матар'ялах з дакладу на паказаным зьезьдзе сакратара ЦК К. Мазурава **«можна было-б напісаць шмат іншых антыпартыйных аповесьцяў ды п'есаў».**

Запраўды, пазыцыі савецкага пісьменьніка (асабліва пісьменьніка беларускага, над якім, апрача ўсяго іншага, як гэта ні дзіўна, вісіць «дамаклавым мечам» беларускі нацыяналізм) хісткія і няпэўныя. З аднаго боку, партыя патрабуе ад пісьменьніка iсьці **«у нагу з савецкім жыцьцём»,** з другога, як толькі пісьменьнік пачынае намацваць пульс гэтага жыцьця, чуюцца з усіх бакоў крыкі: «куды? збочыў!», быццам пісьменьнік вінаваты, што жыцьцё гэтае дае ня тыя абразы, якіх жадае партыя. У такіх умовах, правідлова зазначае той-жа П. Залужны, пісьменьніку **«застаецца толькі ўсхваляць злоўжываньні партыйных бюракратаў, тады можна, навет, спадзявацца й на ленінскую прэмію».**

Пісьменьнікі, найменш устойлівыя й найменш сумленныя ў дачыненьні да свайго народу, асабліва тыя, хто прайшоў «добрую сталінскую школу», ня думаючы аб выніках свае працы, так і робяць. Паводля ўстаноўленых «сацыялістычным рэалізмам» прыпісаў, яны штампуюць вершыкі, апавяданьні, аповесьці, раманы ды п'есы, адмовіўшыся ад высокага званьня змагара зь няпраўдай, злом, бюракратызмам, эксплятацыяй чалавека чалавекам, незаконнымі й несправядлівамі ўчынкамі ўлады, ашуканствам і г. д. Але найбольш таленавітыя ня сталі на гэты шлях; іх не дапусьціла да гэтага **іскра іхнага таленту** і яны, звычайна, гінуць, як пісьменьнікі, як грамадзкія дзеячы, — толькі некатарым, з прычыны вылучна шчасьлівага для іх зьбегу акалічнасьцяў, удалося выплыць наверх, як, напрыклад, расейскаму пісьменьніку М. Шолахаву. Аднак і ягонаму таленту дзікая дыктатура не дазволіла разгарнуцца на ўсю шырыню.

Гэтымі абставінамі й тлумачыцца тое, што на працягу астатніх трыццаці год (ад 1929 да 1957) на міжнароднай арэне не адчувалася абсалютна ніякага ўплыву з боку савецкае літаратуры. Ды і ў самым СССР, чытач менш за ўсё цікавіўся творамі савецкіх пісьменьнікаў, глядзеў на іх, як на партыйную прапаганду, і шукаў або старыя дарэвалюцыйныя творы («Сымон музыка» і інш. творы Я. Коласа» ды «Раськіданае гняздо» й вершы дарэвалюцыйных і нэпаўскіх выданьняў Я. Купалы ды іншых у нас, на Беларусі).

Вось чаму, кароткатрывалая «адліга» пасьля сьмерці Сталіна, адразу-ж высунула цэлую пляяду таленавітых аўтараў у літаратуры якраз або з маладых і малаведамых, або і з зусім нябраўшых пяра ў рукі, і іхныя імёны прагучэлі на ўвесь сьвет да самага цёмнага куточка, гэта — у РСФСР: У. Дудзінцаў, Еўтушэнка, Гранін, Алігэр, Казакевіч ды інш. (аб Е. Пастарнаку можа быць гутарка асобная); а ў Беларускай ССР: А. Кулакоўскі, А. Макаёнак, М. Ларчанка ды інш. Здавалася, савецкая літаратура, урэшце, зламала лёд, якім яна была скавана, і імчыцца заняць сваё мейсца на міжнароднай арэне. Бясспрэчна, мейсца гэтае ёй было ўгатавана, самой гісторыяй, вельмі высокае: гарантныяй гэтаму былі, папершае, сама шляхотная ідэя шуканьня больш справядлівых формаў будовы грамадзтва; падругое — тая самаахвярнасьць ды высокая напружанасьць, на якую народ адважыўся пайсьці ў гэтым шуканьні. Для гэтага неабходна было прызнаць катэгарычным: Сталін збочыў з таго шляху, які вядзе да гэтага новага і ўсё, зьвязанае з сталіншчынай, паддаецца перагляду.

Гэтага зроблена ня было. Ня было яно зроблена толькі ў сваіх асабістых, скурных, а не народных, інтэрасах тымі, хто разам із Сталінам рабіў злачынствы. І зламаны лёд застаўся не растопленым, крыгі яго сталі поперак вясновай плыні й запрудзілі яе, а тое сьвежае і жыцьцёвае, што зьявілася ў літаратуры, як водбліск грамадзкай сьведамасьці падсталінскіх часоў, атрымала назоў «рэвізіянізму».

Але ці сацыялізм ёсьць безаглядны гвалт над чалавекам, ператварэньне яго ў нейкі бяздушны мэханізм, які дзейнічае па націсканьню гузічка з ЦК партыі? Адзін, досыць выдатны заходня-эўрапейскі, камуністы некалі сказаў: «калі сацыялізм ёсьць гэтакім, якім яго разумее Сталін, дык хай бы яго (сацыялізму) ня было ніколі!»

«Рэвізіянізм», пра які так шмат крычыць прапаганда на чале з сакратарамі ЦК ды старшынямі саюзаў пісьменьнікаў, ёсьць ня што іншае, як падземны голас народу, падслуханы пісьменьнікамі, не зрадзіўшымі яго. «Рэвізіянізм» гэты скіраваны на ліквідацыю вынікаў жудаснай сталіншчыны ў эканоміцы, культуры, нацыянальнай палітыцы СССР. Выдаленьне гэтых вынікаў магло-б азначаць не заняпад савецкага грамадзтва, а ўзьняцьце яго на вышэйшую ступень. У міжнародным значэньні, яно садзейнічала-б прыцягненьню на свой бок сымпатыяў працоўных усяго сьвету. Ніякія шуканьні «ведзьмаў» і заклінаньні Мазурава, падобныя тым, якія былі паўтораны ім можа ў соты раз на XXIV Партзьезьдзе КПБ, не **аздаровяць** гаспадарку й культуру Беларусі. Можна забараніць пісьменьнікам не кранацца гэтых недахопаў, але нельга загадаць ім даць беларускаму народу больш мяса, хлеба, гародніны й іншых прадуктаў. Да таго часу, пакуль будзе існаваць сталіншчына, гэтыя недахопы будуць ускладняцца, — неадкладныя рэформы і толькі яны могуць палепшыць становішча з гэтым і вывесьці гаспадарку й культуру Савецкага Саюзу з таго тупіку, у які завёў іх Сталін сваёй пахопнай «сацыялізацыяй». Калі гэтага ня будзе зроблена, «камунізм» паступова зачахне, а разам зь ім зачахнуць і тыя групы камуністых, якія існавалі за межамі СССР за кошт працы савецкага працаўніка.

**М. Самасевіч**

# На 500 нумар „Бацькаўшчыны“

На 13-ым годзе свайго існаваньня «Бацькаўшчына» сяньня дасягнула 500-га нумару свайго выданьня. У нармальных умовах жыцьця й працы на бацькаўшчыне гэта ня было-б нічым нязвычайным, што варта было-б адзначаць, як нейкае асаблівае зьявішча. Але ў нашых цяжкіх і ненармальных умовах жыцьця й працы на эміграцыі ўжо сама справа выданьня свайго прэсавага воргану зьвязаная часамі зь неперAможнымі цяжкасьцямі, а каб пры тыднёвым, а нярэдка й нярэгурярным выданьні дайсьці да 500-га нумару, зьяўляецца дасягненьнем бясспрэчна важным і вялікім.

Гісторыя «Бацькаўшчыны» ў вялікай меры зьяўляецца гісторыяй жыцьця й дзейнасьці нашае палітычнае эміграцыі. На ейных балонах ня толькі шырака адлюстроўваўся наш эміграцыйны рух, але вакол «Бацькаўшчыны» гэты эміграцыйны рух у значнай ступені тварыўся й разьвіваўся. І калі сяньня гаварыць аб ролі й значаньні «Бацькаўшчыны», выходзячы з трынаццацёхгадовай пэрспэктывы ейнага існаваньня, дык гэтыя абодвы мамэнты заўсёды трэба браць на ўвагу.

«Бацькаўшчына», як ведама, пачала выходзіць пад канец 1947 году (ейны першы нумар выйшаў 31-га кастрычніка 1947 г.). Гэта былі яшчэ гады нашай эміграцыйнай расьцярушанасьці й палітычнай незарыентаванасьці, калі агульная лінія нашай нацыянальна-вызвольнай дзейнасьці знаходзілася яшчэ ў працэсе свайго фармаваньня й крышталізаваньня, калі ў нашых собскіх радох энэргічна яшчэ дзеіла чужацкая дывэрсія з мэтаю нас арганізацыйна разьбіць, ідэялягічна аслабіць і ўвесь наш нацыянальны рух на эміграцыі ськіраваць у чужое палітычнае рэчышча. Гэта былі часы цяжкага змаганьня за чысьціню нацыянальнае ідэі й найбольш адпаведныя для нас арганізацыйныя формы нацыянальна-вызвольнай дзейнасьці.

Вакол «Бацькаўшчыны» згуртаваліся тады найбольш ідэйныя, адважныя, станоўчыя й актыўныя элемэнты нашае эміграцыі, якія ў часы палітычнага хаосу, варожых наступаў і нацыянальнай расьцярушанасьці паставілі сваім галоўным заданьнем стварыць цьвёрдую нацыянальную базу для дзейнасьці нашае эміграцыі, як цэласьці, гэтак і для лякальнай дзейнасьці ўсіх нашых эміграцыйных асяродзьдзяў. Незалежна ад таго, што роўналежна з «Бацькаўшчынай» паяўляліся й іншыя беларускія прэсавыя ворганы, пераважна каротка-трывалыя, «Бацькаўшчына» толькі адна сталася ворганам цэнтральным і агульнаэмігранцкім і такім-жа астаецца й да сяньняшняга дня.

Нашая газэта за ўвесь час свайго існаваньня імкнулася па магчымасьці як найшырэй асьвятляць і адлюстроўваць на сваіх бачынах дзейнасьць усяе беларускае эміграцыі незалежна ад краінаў і мясцовасьцяў ейнага расьсяленьня. Ува ўсіх беларускіх эміграцыйных асяродзьдзях паявіліся людзі, якія знаходзіліся ў сталым кантакце з газэтай, сыстэматычна распаўсюджвалі яе ў сваіх пунктах і старанна інфармавалі яе аб жыцьці й дзейнасьці нашых суродзічаў. Такім чынам на бачынах «Бацькаўшчыны» зафіксаваўся за ўвесь гэты час найбольш поўны дакумэнтальны матарыял, неабходны для азнаямленьня з жыцьцём і дзейнасьцю кажнага беларускага эміграцыйнага асяродзьдзя ды ўсяе эміграцыі ў цэлым. Для будучага гісторыка беларускае эміграцыі пасьля апошняе вайны гадавікі «Бацькаўшчыны» будуць служыць найважнейшым жаралом інфармацыяў.

Інфармуючы аб усіх нашых эміграцыйных асяродзьдзях і шырака асьвятляючы іхную дзейнасьць, «Бацькаўшчына» адначасна адыгрывала ролю найлепшага ўзаемнага лучніка між імі й у значнай меры прычынялася да каардынацыі ўсяе нашае палітычнае, грамадзкае й культурнае дзейнасьці на чужыне. А гэта было вельмі важным фактарам для паўставаньня лякальнае ініцыятывы, бо адны асяродзьдзі маглі браць гатовыя ўжо прыклады зь іншых, адныя ў другіх вучыцца й загарацца здаровай амбіцыяй не аставацца з заду ад іншых.

Незалежна ад таго, ці нашыя суродзічы ў вольным сьвеце жывуць большымі ці меншымі групамі, усе яны зьяўляюцца кінутыя на чужыне на чужую нацыянальную глебу й псыхалягічна акружаныя чужой атмасфэрай. Ня трэба й даводзіць, што ўсе нашыя людзі, будучы такім чынам адарваныя ад родных карэньняў, апынуліся ў спэцыфічных ненармальных умовах, якія вельмі лёгка спрыяюць дэнацыяналізацыі й асыміляцыі.

Разумеючы гэтую небясьпеку й стараючыся яе зьменшыць, «Бацькаўшчына» зьвяртала асаблівую ўвагу на нацыянальнае ўзгадаваньне беларускага эміграцыйнага грамадзтва й на ўмацаваньне ў ягонай нацыянальнай сьвядомасьці вынесенай яшчэ з бацькаўшчыны беларускай нацыянальнай патэнцыі. З гэтаю мэтаю, апрача матарыялу палітычна актуальнага, інфармацыйнга й практычна разьясьняльнага, у ёй спэцыяльна адводзілася шмат месца найважнейшым мамэнтам зь гісторыі нашага нацыянальнага руху, вызвольнага змаганьня, беларускай літаратуры й мастацтва, этнаграфіі й навукі. Здаючы сабе справу з таго, што найлепшым сяродкам нацыянальнага ўзгадаваньня й прывіцьця глыбокай любові да бацькаўшчыны ёсьць лектура найлепшых твораў мастацкае літаратуры, у ўмовах эміграцыі нашым людзям амаль недаступнай, у «Бацькаўшчыне» адводзілася шмат мейсца для друкаваньня новых і перадрукаў старых найлепшых узораў нашага літаратурнага мастацтва. Пачынаючы з 1952 году пры газэце зарганізавалася Беларускае Выдавецтва «Бацькаўшчына», якое, ня гледзячы на цяжкія матарыяльныя абставіны, кажны год выпускала па некалькі добра афармленых найбольш патрэбных і цэнных беларускіх кніжак, зь якіх ужо сяньня злажылася цэлая бібліятэчка. Ніякая іншая беларуская арганізацыя ці ўстанова на эміграцыі ня ў стане пахваліцца такім дасягненьнем на выдавецкай ніве.

З мэтай нацыянальнага ўзгадаваньня й навучаньня роднага беларускага слова нашага маладога пакаленьня, якое бацькаўшчыны ўжо ня помніць або й радзілася на чужыне, пры «Бацькаўшчыне», пачынаючы таксама з 1952 году, выходзіць добра рэдагаваны й багата ілюстраваны беларускі часапіс для дзяцей «Каласкі», які паяўляўся адзін раз у месяц, пасьлей раз у два месяцы, але ў здвоеным разьмеры, а ў вапошні мамэнт часова выходзіць няпэрыядычна. Ён сатўся карысным лектурай і добрым дапаможнікам для вывучаньня роднае мовы ня толькі для дзяцей, але яго, з гледзішча на ягоны фальклёрны зьмест і жывыя абразкі з нашага сялянскага быту, ахвотна чытаюць і старэйшыя.

На сяньняшнюю беларускую эміграцыю, падобна як і на эміграцыі ўсіх іншых паняволеных бальшавізмам народаў, узложаная выняткава вялікая й адказная місія. Справа ў тым, што ўсякая нацыянальная думка нашага народу, усякая нацыянальная ініцыятыва і ўсякая нацыянальная дзейнасьць можа свабодна праяўляцца толькі на эміграцыі, бо бацькаўшчына знаходзіцца ў бяспрыкладнай у гісторыі татальнай няволі. Таму на долю эміграцыі выпала адказнае заданьне захаваць і прадаўжаць на чужыне нашую нацыянальна-вызвольную ідэю й будаваць асновы для ейнага будучага ажыцьцяўленьня ў вольнай бацькаўшчыне.

Выходзячы з такога выняткавага нашага палажэньня, «Бацькаўшчына» мусіла паставіць у цэнтры сваей увагі ўсебаковае ідэялягчінае азбраеньне нашага грамадзтва, каб у наш цяжкі й складаны гістарычны мамэнт было яно з гледзішча ідэялягічнага й палітычнага поўнацэнным. Зусім тады ня прыпадкова на бачынах «Бацькаўшчыны» адводзілася шмат месца для дыскусіяў на нацыянальна-ідэялягічныя й палітычныя тэмы, распрацоўваліся тэарэтычныя канцэпцыі будучага дзяржаўнага, палітычнага й сацыяльнага ладу Беларусі, пытаньні эканамічныя й культурныя, а так-жа справы ўзаемадачыненьняў з нашымі суседзямі.

Цьвёрда й непахісна стоячы на прынцыпе дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі, паложаным у васнову гістарычнага Акту 25-га Сакавіка, «Бацькаўшчына» ў меру сваіх сілаў і магчымасьцяў намагалася вырабляць і разьвіваць у нашым грамадзтве ўсе нацыянальныя якасьці, якія з гэтым ідэялам былі-б сугучныя. З другога-ж боку, нашая газэта старалася заўсёды даваць належны адбой памкненьням нашых ворагаў адабраць ад нас гэтую ідэю, аслабіць ейную сілу, накіраваць яе ў неадпаведнае для нашага руху палітычнае рэчышча. Змаганьне з варожымі для нашай нацыянальна-вызвольнай справы сіламі нярэдка было нязвычайна цяжкое й вымагала шмат настойлівасьці й цярплівасьці. Удары паходзілі ня толькі ад нашых беспасярэдных адкрытых ворагаў, але й наносіліся за пасярэдніцтвам людзей несьвядомых, незарыентаваных палітычна й слабых маральна, што знаходзіліся ў нашых собскіх радох. Ня гледзячы на ўсё гэта, у канчальным выніку трыумфавала нашая нацыянальная справа й перамога аставалася за намі.

Мы палітычныя эмігранты зьяўляемся маленькай, але неадлучнай часткай усяго нашага народу, разам зь ім глыбака перажываем усе ягоныя няшчасьці й нядолю, разам зь ім шчыра цешымся ягонымі дасягненьнямі. Мы не ўяўляем сябе нейкай адарванай ад народу й роднай глебы замкнутай у сабе кастай людзей, але ў сваіх думках і імкненьнях творым з нашым народам адно неразрыўнае й арганічнае цэлае.

Заўсёды маючы гэта навўвеце, «Бацькаўшчына» шырака інфармавала сваіх чытачоў аб цяжкім паднявольным жыцьці нашага народу, аб праступнай бальшавіцкай палітыцы фізычнага вынішчэньня нашага народу, ягоным бяспрыкладным эканамічным вызыску й руйнаваньні, сацыяльных крыўдах, нацыянальным паняволеньні й прымусовай русыфікацыі. Нашая газэта старалася ў дастатковай колькасьці падаваць аўтэнтычныя факты злачынных бальшавіцкіх экспэрымэнтаў над нашым народам і дэмаскавала ўсе бальшавіцкія антынародныя намеры. З другога боку, «Бацькаўшчына» ня менш старанна інфармавала на канкрэтных фактах і аб зьявах нацыянальнага супраціву й розных спэцыфічных у нявольніцкім палажэньні формах народнага змаганьня. Такім чынам нашыя чытачы на падставе матарыялаў «Бацькаўшчыны» маглі заўсёды мець перад сабой больш менш дакладны абраз усяго, што дзеіцца ў іхнай бацькаўшчыне.

Найлепшым довадам аб вялікай ролі й значаньні «Бацькаўшчыны» ў жыцьці беларускае эміграцыі ёсьць шалёная на яе рэакцыя бальшавікоў, у прыватнасьці тых бальшавіцкіх ворганаў, беспасярэднім заданьнем якіх ёсьць весьці змаганьне з эміграцыяй. Ворган усходнябэрлінскага бальшавіцкага камітэту «За вяртаньне на Радзіму», ад некаторага часу перайменаваны ў «Голас Радзімы» амаль у кажным сваім нумары скланяе на ўсякія лады і назоў нашай газэты, і прозьвішчы людзей, што яе выдаюць, намагаючыся ўсімі сіламі й спасобамі скампраматаваць іх перад эміграцыйнымі масамі і для сваей праступнай дзейнасьці іх абясшкодзіць. Ніводная іншая беларуская арганізацыя ці ўстанова на эміграцыі не ўдастоілася стацца прадметам такіх частых і гістэрычна злосных нападаў з боку гэтага бальшавіцкага воргану, як «Бацькаўшчына». Гэта найлепшае пацьверджаньне, якую вялізарную ролю выконвае «Бацькаўшчына» ў змаганьні з бальшавіцкай праступнай акцыяй, у якой вялікай ступені разьбівае яна бальшавіцкія намаганьні ў кірунку спараліжаваньня антыбальшавіцкай дзейнасьці нашае эміграцыі ў вольным сьвеце і ў некаторай меры так-жа й на бацькаўшчыне, куды рознымі каналамі нашае свабоднае слова пранікае.

Мы далёкія ад самаўпэўненых цьверджаньняў, што ўсе пастаўленыя перад намі заданьні былі намі ў дастатковай меры выконваныя. Пэўна-ж, у нашай працы з розных залежных і незалежных ад нас прычынаў бывалі й вялікія недахопы. Розныя аб'ектыўныя прычыны нярэдка моцна тармазілі нашую дзейнасьць і непамерна звужалі ейны размах. Нярэдка й нашыя суродзічы некаторыя, замест памагчы нам у цяжкай працы, сваей абыякавасьцяй й недаацэньваньнем ролі роднага друкаванага слова ахаладжвалі наш энтузіязм. Ня гледзячы на ўсё гэта, тое, што прарабіла «Бацькаўшчына» на бачынах 500 сваіх нумароў, астанецца бясспрэчна вялікім укладам у цэлым нашым нацыянальным дасягненьні на эміграцыі.



**Кнігі Беларускага Выдавецтва «Бацькаўшчына» (фота: І. Каваль)**

# Чарговы наступ расейшчыны

Нядаўна ў Савецкім Саюзе закончыўся цыкль зьездаў кампартыяў нацыянальных рэспублік. Апрача «мабілізацыі» ўсіх магчымых сілаў на выкананьне й перывыкананьне ўсесаюзнага сямігадовага пляну народнай гаспадаркі, на гэтых зьездах вялікая ўвага была прысьвечаная таксама нацыянальнаму пытаньню, праўдзівей змаганьню з нацыялістычнымі ўхіламі й нацыянальнай апрычонасьцяй у іх.

Ведама, гэтая чарговая антынацыянальная кампанія Масквы зьяўляецца ня новым зьявішчам, але наступным і пасьлядоўным крокам у плянавай ейнай дэнацыяналізатарскай і русыфікатарскай палітыцы. Яна беспасярэдна зьвязаная з пастановай ЦК КПСС з 9 студзеня бягучага году «Аб задачах партыйнай прапаганды ў сучасных умовах», у якой, як ужо падавалася ў «Бацькаўшчыне», шмат гаварылася пра неабходнасьць «выкараненьня» найменшых праяваў «буржуазнага нацыяналізму», і праводзіцца, быццам-бы, з двух матываў: з гледзішча захаваньня «чыстаты» марксізму-ленінізму ў нацыянальным пытаньні й з гледзішча «паступовага» зьбліжэньня савецкіх народаў. Аднак каму ня ведама, што як першы быццам-бы ідэялягічны матыў, так і другі, ці практычнае ягонае ажыцьцяўленьне, зьяўляюцца чыстай ліпай, прыкрыцьцём брутальнае русыфікатарскае палітыкі партыі. Пра гэта сьветчаць хоць-бы й у першую чаргу той факт, што ў СССР адсутнічае гэтае змаганьне з праявамі расейскага «буржуазнага нацыяналізму», а названае «зьбліжэньне народаў» праводзіцца мэтадам нацыянальнае й культурнае русыфікацыі нерасейскіх народаў СССР.

У нацыянальным пытаньні на ўсіх гэтых зьездах моцна адчуўся антынацыянальны дух канца 1940 — пачатку 1950 гадоў, адчуўся той-жа жудасны наступ партыі на нацыянальнае жыцьцё падсавецкіх нерасейскіх народаў. Апрача таго, што тут усьцяж паўтараліся такія абабітыя фразы, як «нецярпімасьць да буржуазнага нацыяналізму», на іх неаднаразова выказвалася «шкадаваньне» таго, што XX зьезд КПСС дапусьціў вялікую памылку, рэгабілітаваўшы некаторых нацыянальных палітычных і культурных дзеячоў, у свой час засуджаных партыяй і Сталінам, даў некаторыя магчымасьці для адраджэньня нацыянальнага жыцьця ў рэспубліках і зактавізаваньня нацыянальнае дзейнасьці культурнага актыву. У сувязі з гэтым пачаліся адзывацца пастановы рэспубліканскіх кампартыяў аб рэгабілітацыі ахвяраў сталінізму, як, прыкладам, гэта зрабіла кампартыя Кіргізыі, адмяніўшы «памылковае рашэньне» ў вацэнцы творчасьці «рэакцыйнага» паэты М. Кылыча й аб рэгабілітацыі дзейнасьці «віднага ідыялёга буржуазнага нацыяналізму» К. Тыныстанава.

Пра наступ Масквы супраць спробаў адрадзіць нацыянальную культуру, нацыянальныя традыцыі, супраць спробаў больш аб'ектыўнага насьвятленьня нацыянальнае гісторыі сьветчаць ня толькі такія патрабаваньні, як «строго следить за тем, чтобы под покровом „национальных традиций“ искусственно не возрождались отсталые реакционные обычаи», але й простая забарона займацца вывучэньнем нацыянальнае гісторыі й гісторыі культуры, калі толькі тут будуць разьбежнасьці з расейскімі канцэпцыямі (у іншым выпадку, г. зн. калі нацыянальная гісторыя й культура будуць насьветлены так, што супадуць зь інтарэсамі расейшчыны, — дык гэта можна рабіць).

У сувязі з гэтым цікава зьвярнуцца хоць-бы да рэцэнзіі на «Украінскі гістарычны часапіс» галоўнага рэдактара «Вопросов истории» С. Ф. Найды, што была апублікаваная яшчэ ў пачатку мінулага году. Аглядаючы матарыял названага часапісу, аўтары (іх было два, апрача С. Ф. Найды пісаў яшчэ й Б. Г. Верхавень) рэцэнзіі проста папярэджвалі, што часапіс павінен займацца ў першую чаргу сучаснай гісторыяй. Калі-ж час-ад-часу ён будзе прыбягаць да мінулае гісторыі ўкраінскага народу, дык у такім выпадку ён павінен насьвятляць гэтую гісторыю так, каб паказаць, што нацыянальна-вызвольнае змаганьне ўкраінскага народу праходзіла ў цеснай сувязі зь імкненьнем далучыцца да Расеі. Украінскія гісторыкі павінны змагацца з «буржуазнымі» канцэпцыямі ўкраінскіх «буржуазных нацыяналістых» і «не нацыяналізаваць» ні гісторыі Запароскай сечы, ні гісторыі руху Хмяльніцкага й г. д.

Ведама, пра гэта неаднаразова гаварыла і кампартыя БССР, і кампартыі іншых савецкіх нацыянальных рэспублік, пра гэта гаварылася таксама й пад час працы апошніх рэспубліканскіх партыйных зьездаў. Аднак у сувязі з гэтым тут цікава зазначыць пра другі бок гэтага партыйнага наступу й змаганьня — пра змаганьне з нацыянальнымі навуковымі й культурнымі кадрамі. Як ведама, гэтае змаганьне цяпер пераходзіць межы крытыкі й партыйнага спаганяньня ці пакліканьня да партыйнае дысцыпліны. Яно, калі яшчэ не дайшло да адкрытага фізычнага вынішчэньня, дык прыводзіць да адхіленьня шматлікіх нацыянальных кадраў ад працы й дзейнасьці. Усім ведамыя тыя чысткі, што пастаянна праводзяцца ў нацыянальных рэспубліках на вярхох партыйных і дзяржаўных працаўнікоў. Яны праводзяцца з нацыянальных матываў, пра што гаворыць адкрыта й партыя. Але такія чысткі цяпер становяцца нармальным і штодзенным зьявішчам і ў васяродзьдзі культурных працаўнікоў. Варта тут успомніць хоць бы той факт, што за «нацыяналістычныя ўхілы» ў Летуве былі адхіленыя ад працы рэктар Віленскага ўнівэрсытэту Ю. Булавас, заступнік рэктара пэдагагічнага інстытуту Лаўжыкас і прафэсар Лушкене. Бяручы пад увагу апошні антынацыянальны наступ партыі, трэба спадзявацца, што падобная практыка набярэ яшчэ большага разгулу й ахопіць усе нацыянальныя рэспублікі.

У гэтым змаганьні Масквы з нацыянальнымі асьпірацыямі нерасейскіх народаў шмат прыбягаецца да змаганьня з нацыянальнымі эміграцыямі ды зь іхнымі сувязямі ці ўплывамі на бацькаўшчынах. На названых партыйных зьездах часта ўспамінаўся гэты «вораг», які быццам нясе вялікую небясьпеку «камуністычнаму будаўніцтву» ў СССР ды ўскармлівае парасткі нацыяналізму. Гэта, ведама, пацяшальнае прызнаньне, але, з другога боку, гэтая ссылка на «буржуазна-нацыяналістычную эміграцыю — агентаў імпэрыялізму можа прыгатаваць розныя працэсы над «буржуазнымі нацыяналістымі» тыпу 1930-х гадоў. А да гэтага й ідзе згодна ўсіх прыкметаў.

Нарэшце ўспомненыя зьезды кампартыяў нацыянальных рэспублік унесьлі яснасьць у савецкую рэформу навучаньня й паслугоўваньня расейскай і роднымі мовамі. У «Бацькаўшчыне» вельмі часта паведамлялася пра ейную небясьпеку, як чарговага мосьціка да

Заканчэньне на 10. бач.)

# Да 40-гадовага юбілею Натальлі Арсеньневай

**Сёлета прыпадае 40-годзьдзе паэтычнай творчасьці ведамай беларускай паэткі на эміграцыі Натальлі Арсеньневай. Натальля Арсеньнева пачала друкаваць свае першыя паэтычныя творы ў 1921 годзе, але ўпяршыню ўзялася пісаць іх, і то адразу з добрымі й шмат абяцаючымі вынікамі, роўна 40 год таму назад — у 1920 годзе.**

**Будучы тады вучаніцай Першай Віленскай Беларускай Гімназіі, гэтай запраўднай, як называе сама паэтка, кузьні беларускага духа, ёй пашчасьлівіла тады знайсьці нязвычайна карысных для сябе вучыцялёў і праваднікоў у літаратурным мастацтве — пісьменьніка Максіма Гарэцкага, у той час свайго гімназіяльнага настаўніка, і ўжо тады памерлага выдатнага паэту Максіма Багдановіча, дасканалыя з мастацкага гледзішча вершы якога былі для яе першымі літаратурнымі ўзорамі.**

**Паэтка, абдараваная няштодзённым мастацкім талентам, не задзержывалася на спачатных сваіх літаратурных узорах, а ўсьцяж разьвівала й мадэрнізавала сваё паэтычнае майстэрства. Сярод сучаснага старэйшага літаратурнага пакаленьня Арсеньнева займае адно з найбольш выдатных месцаў у беларускай паэзіі. Дасюлешнія ейныя паэтычныя дасягненьні як з гледзішча колькаснага, гэтак і іхнай мастацкай якасьці творац цэнную й прыгожую балону ў гісторыі разьвіцьця нашай паэзіі. Ня гледзячы на сваё этнічна небеларускае паходжаньне, паэтка ў сваёй творчасьці, апрача асабістае й агульналюдзкае лірыкі, яна заўсёды чула рэагуе на праявы беларускага нацыянальнага жыцьця, шчодра выкарыстоўвае матывы беларускага фальклёру, шукае натхненьня ў прыгожых зьявах беларускае прыроды, з асаблівай пяшчотнасьцяй захопліваючыся імі. Такім чынам паэзія Арсеньневай зьяўляецца наскрозь нацыянальнай і глыбока патрыятычнай.**

**Выдатна дадатняй рысай ейнае творчасьці ёсьць няспыннае імкненьне йсьці з духам часу й стараннае дбаньне пра мастацкую якасьць верша й ягоную тэхнічную беззаганнасьць. Гэтыя якасьці ставяць вершы Арсеньневай у радзе лепшых твораў сучаснай беларускай паэзіі.**

**Апрача арыгінальных літаратурных твораў, Арсеньнева нямала займалася й перакладамі на беларускую мову найлепшых твораў сьветавай літаратуры. Спасярод значнае колькасьці ейных перакладаў на асаблівую ўвагу заслугоўваюць старанныя паэтычныя пераклады II-ой часткі «Дзядоў» Адама Міцкевіча й драмы «Затонуты Звон» Г. Гаўптмана.**

**Вітаючы нашую Паважаную Паэтку з 40-годзьдзем ейнай паэтычнай творчасьці, мы шчыра жадаем яшчэ многіх год такой-жа няўпыннай і плённай далейшай дзейнасьці для карысьці й славы беларускае літаратуры.**

**Рэдакцыя**

# Як я сталася паэтам

**(ЖМЕНЬКА ЎСПАМІНАЎ)**

**. . . . . . . «Пачын**
**яшчэ ня ўсё,**
**— канцы ўсяму карона.»**

**Натальля Арсеньнева**

Быць паэтам — нялёгка. Бо паэта-ж таму й паэта, што адчувае й бачыць тое, чаго ня ўмеюць заўважыць іншыя. I слых у яго гастрэйшы, і вочы больш відучыя, і думкі — сьміглейшае маюць крыльле. Ды побач з гэтым, паэта — і звычайная людзкая істота. Мусіць есьці, спаць, прыймаць крыўды, шмат крыўдаў, ды й сам, часам, рабіць крыўды іншым. Мусіць узгарацца, гаснуць, расьці, красаваць, дацьвітаць, а нарэшце — памерці. Таму ў вадчуваньнях і перажываньнях кажнага паэты ўсячасна змагаюцца цела й дух. Змагацца-ж усё жыцьцё — цяжка...

Я, адылі, яшчэ ніколі ня ўгнулася гэтак перад жыцьцёвымі нягодамі, каб наракаць на кон, што прысудзіў мне быць паэтам. Хай адно ймгненьнямі, а кажны паэта, бясспрэчна, узносіцца панад жыцьцёваю роўняю ў часіны натхненьня, дакранаецца нечага няўхопнага, дзіўнога й безназоўнага, чаго ніколі не краналі й не крануць іншыя. Не... Я глыбака ўдзячная свайму «старому крывіцкаму кону» за ўсё, чым ён мяне надарыў. «Багаслаўлёны й ён, і вечны чар жыцьця»!

Пісаць я пачала ня вельмі рана, у кажным выпадку ніякім «геніям» ні ў пяць, ні ў дзесяць навет год я ня была. Праўда, маючы пяць год я ўжо зусім гладка, хоць усё яшчэ ў голас, чытала дзіцячыя кніжкі, пераважна казкі; маючы шэсьць год, пачала вучыцца граць на піяніне, а яшчэ раней — псаваць паперу, крэмзаючы ламлівымі каляровымі алавікамі дамкі з комінамі, круглыя сонцы й чалавечкі на цененькіх ножках... Але хто-ж зь дзяцей ня робіць гэтага!

Пісаць вершы я пачала, маючы ўжо год чатырнаццаць. Вучылася я тады ў Кацярынінскай жаночай гімназіі ў Багдановічавым месьце Яраслаўлі, што над Волгай. Памятаю, як сяньня, што я вельмі зайздросьціла маім сяброўкам, якія зьмяшчалі ў нашым вучнёўскім часапісе свае вершы. Ці раз, застаўшыся адна ў хаце, я марнавала гадзіны, сілячыся выліць на паперу хоць пару радкоў, — нічога неяк не ўдавалася. Аж раптам, зусім нечакана, удалося! Памятаю, што быў гэта верш пра неба й аблокі, якія так лена плылі ў той дзень над яблынамі саду, куды выходзілі вокны нашага пакою, ды што пачынаўся ён словамі «Па сініх нябёсах аблокі плывуць, бліскучыя, белыя горы»... Верш гэты быў, пэўне-ж, яшчэ мала да запраўднага вершу падобны, але радасьці маёй і ганарлівасьці ня было межаў!

Тымчасам, рэвалюцыя 1917 году, «кастрычнік», Яраслаўскае паўстаньне супроць бальшавікоў улетку 1918 году ды іншыя падзеі прымусілі маіх бацькоў пакінуць Яраслаўль і спрабаваць падавацца на захад, бліжэй да роднае Вільні. Цяжкія, нясталыя ўмовы жыцьця, што зусім ня спрыялі паэзіі, перапынілі на нейкі час разьвіцьцё маіх паэтыцкіх здольнасьцяў. Зімку 1918 году й увесь 1919 год мы пражылі ў мястэчках і вёсках Дрысеншчыны й Полаччыны, чакаючы моманту, каб перайсьці ваенную мяжу й вярнуцца ў Вільню. У гэтых вось мястэчках і вёсках я, дзіця места, упяршыню шчыльна сутыкнулася ізь сялянскай Беларусяй, зь ейнаю прыродаю, бытам, моваю, песьнямі, казкамі... Мая маладая й рамантычная душа прагна ўспрыймала ўсё гэта й недзе глыбака, у самой нетры, пачало нараджацца новае нейкае пачуцьцё — шчырая любасьць да ўсяе гэтае прыгожасьці.

Неўзабаве пачалася польска-бальшавіцкая вайна. Узімку, недзе пасьля Каляд, польскія легіянеры занялі былі Краслаўку, недалёка якое, над возерам, мы тады жылі. А колькі тыдняў пасьлей, у прамерзлым, набітым хворымі жаўнерамі і ўцекачамі таварным вагоне — нашая сям'я накіравалася нарэшце, этапамі, у Вільню.

Зіма 1919-1920 году была вельмі маразяная й сьнежная. Памятаю, на станцыі ў Краслаўцы, куды мы ледзь дацягнуліся з нашае вёскі, балюча ўсхвалявала мяне відовішча сьнежных гурбаў ля пэрону, а ў іх — жудасныя горы на камень замерзлых трупоў у зялёных жаўнерскіх шынялёх, пасkладаныя, як дровы. Стоцьма ўзьнятая ў шэрае зімовае неба рука аднаго сьнілася мне яшчэ гады пасьлей... Памятаю й Дзьвінск. Лютую сьцюжу... Пешую пераправу, з хатомкамі, праз замерзлую Дзьвіну (чыгуначны мост быў зьнішчаны вайною), чаканьне на іншы цягнік у халоднай, напоўразбуранай станцыі, дзіўную млявасьць у стомленым хворым целе, стукат колаў, страшэнную смагу...

Нарэшце, недзе ў студзені 1920 году, цяжка хворыя на гішпанку, мы прыехалі ў Вільню, пакіненую блізу пяць год таму...

Ня памятаю ўжо, як далі сабе рады бацькі з намі, чацьвёркаю няпрытомных ад гарачкі дзяцей, як знайшлі начлег, як прывезьлі нас на новую кватэру... Ачуняла я ў нейкім незнаёмым пакоі, каб даведацца, што мая сястра Галя памерла папярэдняе начы ад запаленьня лёгкіх, якім ускладнілася ейная гішпанка... Мы-ж, г. зн. я, малодшая сястра й брат, пачалі пакрысе ачуньваць.

Гэтак трапілася, што дачка гаспадароў кватэры, нанятае маймі бацькамі ў першы дзень нашага звароту ў Вільню, Люба Русецкая, вучылася ў Першай Віленскай Беларускай Гімназіі, кагадзе заснаванай. Яна дала мне чытаць, здаравеючы, у ложку, колькі беларускіх кніжак, між імі «Рунь» Максіма Гарэцкага. Кніжка гэтая вельмі глыбака, чамусьці, увайшла мне ў душу. Была гэта першая беларуская кніжка, якую я трымала ў руках. Праўда, гэткія апавяданьні зборніку, як «У лазьні», ня зусім мне падабаліся, бо ўражалі маё, перачуленае цяжкой хваробай адчуваньне, грубаватымі словамі й занадта рэалістычнымі вобразамі. Затое апавяданьне «Патаёмнае» ды іншыя, цалкам апанавалі мае пачуцьці. Яны — і ня менш патаёмнае для мяне імя аўтара «Патаёмнага» Максіма Гарэцкага, урасьлі моцным карэньнем у маё маладзенькае сэрца.



Натальля Арсеньнева

А неўзабаве й мы — я, сястра й брат, таксама апынуліся ў старых Базыльянскіх мурох, у Першай Віленскай Беларускай Гімназіі, я — у сёмай клясе, сястра Вольга — ў пятай, а брат Сяргей — у чацьвертай. Вучыцца нам было спачатку цяжкавата. Мне, прыкладам, трэба было ад пачатку «зубрыць» лацінскую граматыку, бо лацінкае мовы ў Яраслаўскай гімназіі ня вучылі, мусіла падагнаць матэматыку, узяцца за беларускі правапіс. Але я з прагай кінулася да навукі й неўзабаве была аднэй зь лепшых вучаніцаў у сваёй клясе.

Цяжкія гэта былі часы... Галодныя й халодныя... Неставала блізу ўсяго. Шмат хто і з настаўнікаў і з вучняў галадавалі... Ня было нястачы толькі ў адным — у вагні, у навазе, у вахвярных сэрцах, у людзёх, якія, дарма што холад і голад, аддана працавалі з аднэю думкаю — дапамагчы Беларусі й гэтак жорстка пакрыўджанаму вайною беларускаму народу стацца незалежнымі й шчасьлівымі. Людзей гэтых было ня шмат, але іхны агонь дзіўна лёгка перакідаўся на іншых і ад самага пачатку надаў быў Першай Віленскай Беларускай Гімназіі, дзіцяці нябожчыка Івана Луцкевіча, народжанай апошнімі намаганьнямі ягонага духу, дарма што цела канала ўжо ў вапошняй стадыі сухотаў, той кірунак, які спрычыніўся да пасьлейшае ейнае характарыстыкі — «кузьня беларускіх дзеячоў», а памойму — «кузьня беларускага духа».

Людзі, якія вучылі тутка беларускую моладзь у 1919, 1920, 1921, 1922 ды пасьлейшых гадох, навучылі мяне на ўсё жыцьцё горача любіць Беларусь, пакрыўджаную, падзеленую й паняволеную, але гэткую прыгожую й чароўную. Уцелаўленьнем-жа гэткага ўспрыйманьня стаўся для мяне, блізу зь першых дзён навукі ў гімназіі, настаўнік беларускае мовы й літаратуры, аўтар «Руні» й «Патаёмнага» — Максім Гарэцкі. Памятаю, калі я пабачыла яго ўпяршыню на лекцыі ў нашай 7-ай клясе, мяне самперш уразілі ягоныя вочы — вялікія, цёмныя, гарачыя, быццам два чорныя зьнічы (я гэтак і падумала тады — «зьнічы») на худаватым, асцэтычным, крыху татарскага складу твары. Іншых вачэй, падумала я, аўтар «Патаёмнага» мець і ня мог... Зразумела я тады таксама й тое, што я мушу цяпер якнайхутчэй дасканала апанаваць беларускую мову й заўсёды, заўсёды, найляпей за ўсіх у клясе, ведаць задаваныя нам Гарэцкім лекцыі зь беларускае літаратуры.

I я дапяла свае мэты, як заўсёды ў жыцьці патрапіць дапяць яе кажны, хто запраўды шчыра нечага хоча. У восьмую клясу я перайшла з добрымі адзнакамі і зь беларускае мовы й зь літаратуры.

Тымчасам, мінула лета 1920 году, трывожнае, поўнае падзеяў і зьменаў. Вільню занялі былі на колькі часу, а тады ў пасьпеху пакінулі, бальшавікі... Аднак, заняткі ў Беларускай гімназіі, якую я ўжо моцна пасьпела палюбіць, пачаліся ў сваім часе й я ўзноўкі сустрэлася зь сябрамі й настаўнікамі, між імі й з Максімам Гарэцкім. На вялікі мой жаль, ён ня быў ужо выкладчыкам літаратуры ў нашай клясе. Ды сувязь мая зь ім дзеля гэтага не пайрвалася, а яшчэ памацнела. Бо цяпер я займела зь ім гаркое й салодкае злучво — пачала ўзноў пісаць вершы, зь якімі пільна сьпярша хавалася, а нарэшце, перамагаючы нясьмеласьць, наважылася аднойчы паказаць Гарэцкаму. «Паказаць» — гэта было: высачыць Гарэцкага пасьля званка на лекцыю ў пустым калідоры, калі ён накіроўваўся паўз дзьвярэй нашае клясы на лекцыю ў суседнюю, тыцнуць яму ў рукі запісаныя аркушы, прамармытаць нявыразна нешта накшталт: «вось я... напісала вершы...» і — рынуцца наўцёкі. Але дарма што мае дзіўныя паводзіны, Гарэцкі зразумеў, у чым справа, моўчкі ўзяў вершы, глянуў на іх і, не сказаўшы нічога, пайшоў. Памятаю, як сяньня, было гэта ў сыботу, недзе ў канцы верасьня ці ў пачатках кастрычніка 1920 году. Увечары ў нас у гімназіі была чародная вучнёўская вечарына. Пачыналіся яны звычайна рэфэратам, выступам вучнёўскае самадзейнасьці ці тэатральнай пастаноўкаю, а канчаліся — агульнымі танцамі.

Гэтага памятнага для мяне вечару, першым выйшаў на сцэну Гарэцкі. Памаўчаўшы, ён абвесьціў прысутным, што мае для іх добрую навіну: «У нас зьявілася новая Буйлянка», сказаў ён, «новая паэтка, якая ўжо сяньня ці не перавышае Канстанцыю Буйлу сваім талентам. Вось паслухайце...» I Гарэцкі пачаў чытаць... дадзеныя яму нараніцы мае вершы. Было іх два: «Восень» і «Сьветлы дзень дагарае над сумнай зямлёю». Даю тутка адзін зь іх, як «узор» маіх самых першых «твораў».

**ВОСЕНЬ**

Хай жаўцее, сьціхае сад з кажнай [гадзінай,
Сонца ласкі гарачыя ўсюды ня сее,
Хай гарыць, як заход, лісьць чырвонай [асіны,
Хай апошнія кветкі у садзе бялеюць, —
Будзем чакаці вясны!

Хай паўзуць паласою калматыя хмары,
Хай цямнее рака, хай жыцьцё замірае, —
Не агорнуць нас восені горкія мары,
Кажны з нас яшчэ сьветлае шчасьце [пазнае, —
Будзем чакаці вясны!

Хай у душах надзея на долю канае,
Ўсё мінецца, бы ў летні дзянёк [навальніца.
Прыйдзе час — сонца сіняй вышою [зазьзяе,
Закрасуець зялёнаю руньню зямліца...
Будзем чакаці вясны!

Калі я пісала гэтыя вершы, мне было 17 год. Тады, хіба, і пачалася мая літаратурная «кар'ера». Месяцаў шэсьць пасьлей, мае вершы, якія я пякла ў тыя гады, як бліны, пачалі друкавацца ў беларускіх часапісах і газэтах, а праз колькі год, у 1927 годзе, у Вільні выйшаў друкам першы мой зборнік «Пад сінім небам», да якога я адважылася ўзяць, як мотто, радкі з Гётэўскага «Фаўста» — «Ins hohe Meer werd' ich hinaus geniesen». Пішу «адважылася», бо разумею сяньня, як словы высокадасьпелага Гётэўскага твору не пасавалі да школьнае лірыкі тагачасных маіх вершаў (зусім, як тая славучая «кветка да кажуха»!).

Зборнік «Пад сінім небам» хай і вельмі шчыры, але гэткі яшчэ недасканалы, быў адылі прыхільна сустрэты беларускаю крытыкай. Літаратуравед А. Навіна (Антон Луцкевіч) і іншыя вельмі навет хвалілі яго. Перагортваючы бачынкі «Пад сінім небам» сяньня, я выразна магу прасачыць па вершах зборніку шлях майго паэтычнага разьвіцьця, узбагачаньня мовы. Якая розьніца, прыкладам, паміж некаторымі зусім яшчэ школьнымі вершамі, напісанымі ў 1920 годзе, але датаванымі 1921 годам (калі яны былі ўпяршыню надрукаваныя), і вершамі, датаванымі, скажам, 1925 годам! Ды што-ж зробіш? Якім-бы мой першы зборнік ня быў, і сама кніжка й ейны аўтар маюць адно выбачэньне — сваю тагачасную зялёную маладосьць!

Але вернемся да Першае Віленскае Беларускае Гімназіі, да Максіма Гарэцкага й іншага яшчэ чалавека, які меў таксама ці малы ўплыў на разьвіцьцё мае творчасьці — да настаўніка беларускае літаратуры ў нашай 8-ай клясе Антона Луцкевіча.

Гарэцкі быў вельмі суровым, маламоўным настаўнікам і крытыкам. Ён блізу ніколі не правіў слабейшых месцаў маіх вершаў, бо здараліся-ж і гэткія, а проста аддаваў іх мне, зацеміўшы: «гэтак пабеларуску не гаворыцца» або «гэтае месца раджу перапрацаваць» ці штосьці іншае. Неўзабаве я навучылася разумець яго ня толькі з паўслова, а гледзячы адно на ягоныя шырокія, цёмныя бровы, якія то насупліваліся, то ўзьнімаліся ўгару, залежна ад уражаньня. Рух гэтых броваў, нячастая ўсьмешка на вузкіх вуснах, — былі тым стымулам, што вёў мяне наперад, прымушаў упарта працаваць над сабой, над моваю... Узорамі маймі ў беларускай мове й вершаскладаньні былі ў тыя часы Алесь Гарун (зборнік «Матчын Дар»), некаторыя вершы Купалы, прыкладам, улюблены мой «Гімн Сонцу» («Вольным гоманам хвойках высокіх»), а крыху пасьлей — і ўжо неад'емна — Максім Багдановіч, другі Максім у маім жыцьці, мой недасяглы ў творчасьці ўзор на даўгія гады.

Максім Гарэцкі вельмі высака цаніў вершы Багдановіча, асабліва аснаваныя на беларускім народным фальклёры творы апошніх год. Але запраўды разумець, любіць і цаніць Багдановіча навучыў мяне Антон Луцкевіч. Я магла гадзінамі слухаць і вельмі злавала, што званок перапыняў лекцыю, калі А. Луцкевіч апавядаў нам пра паэту, пра свае сустрэчы й гутаркі зь ім, чытаў нам ягоныя творы, у тым ліку шмат з тых, што не ўвайшлі ў «Вянок» (пераклады з Вэрлена), даваў нам у рукі ягоныя лісты, тлумачыў, захапляючыся, будову Багдановічавых вершаў, выкрываў іхныя «схаваныя скарбы». Я так прасякла была тады наскрозь Багдановічам, што вельмі дзіўлюся, як гэта адзіным у маёй творчасьці вынікам гэтага была вязанка вершаў «Зачараваны Кут», зьмешчаныя, як апошні разьдзел, у зборніку «Пад сінім небам» і аснаваныя, маўляў апошнія творы Багдановіча, на беларускім народным фальклёры, але якія-ж незарадныя, раўнуючы да ягоных!

Максім Гарэцкі ніколі не хваліў мяне, хіба, за вочы, што-б я не напісала. Але ганіў часта. За русыцызмы ў мове, за памылкі ў правапісе. Аглядаючыся назад, я думаю, што гэны мэтад узгадаваньня паэткі Натальлі Арсеньневай быў ня зусім правільны. Хай я й заслугоўвала суровае крытыкі, ня можна нікога адно ганіць, не падбадзёрваючы часад-часу хай сабе маленькаю пахвалой. Я, прыкладам, адчувала вынікі гэнага

(Заканчэньне на 5-ай бач.)

*Натальля Арсеньнева*



# Сама аб сабе



### АХРЫСЬЦІЎ МЯНЕ НЕХТА Ў ЗЯЛЁНАЙ ДУБРОВЕ

Не ў царкоўцы малітвай, сьвятою вадой, —
Ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.
Як паганін, я пушчы пяю залатой,
Разумею палёў васільковых размовы.
Да мяне ня зь імглой, ня з мутой ручаін
Падыходзіць вясна, не са сьнегам счарнелым, —
Мне сьмяецца яна жоўтым пухам вярбін,
Срэбным звонам жаўронка ў палёх зарунелых.
Не сьпякотаю й лета мне дыхае ў твар,
Не вятрамі красу абівае з чарэсьняў, —
Каласістая ніва — адвечны пясьняр —
Залатыя, гарачыя сьпеліць мне песьні.
Восень зноў — не залой, ня сьцюдзёным [дажджом,
Ня тугою цягучай душу маю раніць, —
Мне яна павуціньне пляце над мяжой,
Сном ціхім на сівое кладзецца аўсяньне.
І зіма — не марозамі страшыць мяне,
Не сьляпою мяцеліцай засьціць мне вочы, —
Над сьнягамі, на сінім нябёс палатне
Распаляе яна серабраныя ночы.
І заўсёды,
заўсёды паганскай жудой
Маё сэрца сьціскаецца ночай зімовай...

— — — — — — — — — — —

Не ў царкоўцы малітвай, сьвятою вадой, —
Ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.

1936 г.

### ЗАМЕСТ МЯНЕ

Я —
ня жыву вясной...
Рунеюць сенажаці,
курэй сіні дым над кратамі палёў,
І за мяне
цьвіце над шэрай пасмай гаці
празрысты, белы пух вярбін і тапалёў.
Я —
й летам ня жыву,
бо за мяне сінеюць
у полі васількі й хінуцца каласы,
і жаліцца — пяюць на жоўтых пожнях жнеі,
маёй, маёй тугой дрыжаць іх галасы.
А ўвосені узноў —
замест мяне — асіны
чырвоны гасяць жар у рэдкім тумане.
І плача дробны дождж так нудна, нясупынна,
па сонцу і вясьне, але...
замест мяне!

1936 г.

### НЯ ЎМЕЮ Я ТУЖЫЦЬ

Як ня круці, —
жыцьцё
свой собскі мае шлях...
Не навярнуць яго да нашых разважаньняў
і ўпадабаньняў...
Зноў на душы назаляць
пляцецца лістапад, а зь ім — пакут ражанец.
Іх болей, чым лістоў, праедзеных іржой
асеньняй,
нават больш, чым тэй гразі на бруках...
Ня хочацца усё-ж прызнацца, што ужо
так хутка ў сонцы мы не апалошчам рукі,
што трэба прытаптаць нагой чырвоны жар
хаценьняў,
адаслаць із буслам у вырай,
каб залатых, сівых, і сініх міль цяжар
пачулі яны досьвіткам на крылах.
Ды ўсё-ж ня ўмею я тужыць і распачаць
паводле ўсіх людзкіх нязломных
[«прапісаньняў»:
зьялчэлы сум хаваць у згашаных вачах
ці на пялёстках губ я тыднямі ня стану.
Жыцьцё —
заўсёды чар, няхай сабе з кляноў
ня капае ужо густы і жоўты солад,
а валаўяны пот,
і нудна пад вакном
глухая ноч рудой ваўчыцаю скуголіць.
Не,
для мяне жыцьцё — шуканьне выйсьця,
[шлях
для сілаў, што інакш —
мне рассадзілі-б грудзі.
Зноў пылам залатым яны пыляць, пыляць...
Іх —
нават лістапад ня згасіць, не астудзіць!

1943 г.

### ХАЙ САБЕ І ШЭРА

Парудзелым стогам у сівых імшарах
Я ня ўмею, рукі апусьціўшы, стыць.
Мае дні згараюць залатой пагарай
нат калі у вочы й едкі есца дым.
Ува ўсім знайду я хоць пылінку сонца,
з кажнай студні вып'ю кроплю хараства.
І пасвойму радасьць в бяру ў вабоймы,
І пасвойму
ўмею радасьць аддаваць.
Не асьлеплы лернік-лёс мяне цягае, —
ён ідзе за мною ўдаль на паваду.
Ці-ж
абы назоле — ўжо са мной параіць?
Ці-ж абы нягодзе — так мяне й падкуць?
Хай сабе і дымна, хай сабе і шэра, —
неагляднa шчасьця я шукаю скрозь.
Хоць і сотні вёрстаў трэба перамераць, —
вечнае імкненьне
мой
раўнуе
крок.

1943 г.

### ПЕРАЖЫТАЕ

Заўсёды знаю я куды ісьці манюся,
хоць часам праз жыцьцё і вобмацкам брыду...
Няхай!
Чаго-ж чакаць, аж сонца твар апусьціць
І цені на душу далоні пакладуць?
Ужо-ж і так, няўзнак, з упэцканай палітры
нябёсаў сьцёрла ноч чырвоны цёплы тон,
і адкаціўся ў змрок хмурын мядзяных зьлітак,
за сонцам і за днём кароткім наўздагон.
Ужо-ж і так, і так, зімовае зьмярканьне
паблытала ніты далёкіх пуцявін,
і адпаўзла стаўляць нам пасткі нечаканасьць,
і неадцяты шлях застаўся нам — адзін...
А трэба йсьці далей...
Бо толькі тое наша,
што нам само яшчэ пад ногі не лягло,
што зьзяе нам здалёк, што нас і цягне
й страшыць...
А пераажытае — хай ноч прысыпле ймглой!

1942 г.

### СІВОЙ ВЯРБОЙ

Слата і змрок... Душа пустуе,
Ў смузе маркотнай далячынь...
Сівой вярбой, хіба, пайду я
Над плёсам цішу сьцерагчы.

Ўрасту карэньнем моцна ў гліну,
Карой адзенуся рудой,
Шырока рукі разгаліню
Над шэрай, соннаю вадой

І буду жыць, як жыў спрадвеку
Увесь вакольны, вольны сьвет:
Піць туманоў надрэчных лекі,
Пух белы сеяць па траве,

І брацьі, раскінуўшы галіны,
Із прагай сонца і цяплынь,
У гуд услухвацца пчаліны
І ціха зерняты сьпяліць...

Ці раз вярбу упесьціць лета,
Ці раз да сну утуліць сьнег, —
І я забуду ўсё, што ў сьвеце
Мяне змушала палымнець.

І пад карой маёй, на ветры,
Ня будзе біцца ўжо й званіць
Нямоўчны звон —
людзкое сэрца,
Крыніца праўды і маны.

1944 г.

### ДОЖДЖ

Срэбрам тоўчаным асыпаў дождж
шыбы задымелага бараку.
З гэткай шчырaю, пякучаю жадой
ён даўно, даўно ужо ня плакаў.
Плач удосыць...
Я — я не з такіх
із табой напоўна не заплачу.
Я ня плачу, я раблю, калі
мяне жаль агортвае гарачы.
І тады...
мой кожны крок — сьляза,
Кажны ўчынак —
кропля залатога ляку,
вось, як тыя, што дні два нізаць
ня сьціхае дождж на шыбінах бараку.

1947 г.

### МОЙ СКАРБ

Мне лёс даў можа болей, чым каму.
Жыцьцё мне дорыць сны блізу на кажным
кроку.
Што для адных
нуда і каламуць, —
мяне пранізвае балюча і глыбока.
Ды я, мауляў скупы, пад скрыняй ня дрыжу
і золата сваё пад ключам ня трымаю.
Мой скарб —
і ў шуме веснавым дажджу,
і ў голасе гальля, умаенага маем,
і ў колерах, якімі дагарае дзень,
і ў сініх сьценях на зімовых сьцежках...
У дробных радасьцях,
будзённасьці,
бядзе, —
угледжу я усюды нешта.
Вось і сягоньня...
Слоць... Нанізваюць вянкі
бліскучых пацеркаў драты паміж слупамі,
рукамі мокрымі у шыбы б'юць сукі
сацьмелых ліп,
і цешыцца — ня ў памяць.
А я —
стаю ужо гадзіну ля вакна,
заклясьці ў словы ймкнуся
і мігценьні
празрыстых кропляў,
і мутны туман,
і сутунелыя на бруку сьцені...
Мне хочацца навечна, назаўжды,
няўхопны чар слаты расплесьці з тайніц
сяньня,
як той Тамаш Няверны, зьверадзіць
сусьвету незагоеныя раны.

1952 г.

### ДЗІЎЛЮСЯ Я САМА

Адробленае ўсё...
Я маю трохі часу...
Хоць гэта й дзіўна —
часу для сябе.
Пакуль сутоньне сіню дню пагасіць,
суцішуся й сягну ў душу якнайглыбей.
А мо'пайсьці глядзець, як сонца сеці топіць
над шэрым плёсам хмар,
плысьці зь людзьмі ў туман?
Навошта?
Гоман, рух, і вуліцы й натоўпы —
усё ўва мне,
іх жаль ці радасьць — я сама.
Я ведаю усё, што не заўсёды й сьніцца,
што ўсьцяж жане людзей аднеткуль ці
кудысь.
Дзіўлюся я сама,
ці ёсьць яшчэ крыніца,
зь якое-б я ня чэрпала вады?
І часам, як цяпер,
кажу я проста: досыць,
што можа мне жыцьцё пад ногі 'шчэ пасласьць?
Ды дзень міне...
І ўзноў імкну я ў золь і восень
шукаць крыніц,
зь якіх вады я ня піла!

### ЗАЛАТОЕ

Шалее вецер...
плешчуць у далоні
і скачуць крыжачка й лявоніха лісты,
рудыя... залатыя... у палоне
асеньніх песьняў,
пэўне-ж, залатых...
І нешта і мяне ўзьнімае закруціцца,
заплёўшы рукі — гнуткае гальлё —
мяцеліцай асеньняю над ніцай
імглою залатой пустых, рудых палёў.
Але зашмат, відаць,
я збаразьніла сьцежкаў
жыцьцёвых,
ня рудых, і, ўжо-ж, не залатых,
а шэрых
ад штодзённасьці ... і рэшты...
Мне ў залатую высь ня ўзьняцца, як лісты.

1952 г.

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

чыся яе, ня вытрывае ўсё большых і большых чыншаў дзяржаве, — з гаркотаю й сумам за родны палетак гаварыў Базыль Спалахоўскі. Алесь уважліва слухаў і чытаў у гэтых словах вялікую праўду аб народнай бядзе, што прыйшла разам з прымусовай калектывізацыяй у беларускую вёску.

Адкрыты характар іх размовы спрыяў шчырай прыязьні і замацоўваў сяброўскую лучнасьць. І хаця Базыль і быў не адзіным ягоным сябрам, аднак Алесь вылучаў яго сярод іншых магчымасьцяў падзяліцца ўсім, чым абуралася неспасаваная самотная душа.

Гэтая лучнасьць не парапынялася й тады, калі Алесь паедаўся за вышэйшаю асьветаю ў Маскву. Базыль лістоўна паведамляў яму аб усіх найноўшых падзеях на літаратурным фронце ў Менску. Вельмі быў уразіў апошні Базылёў ліст, у якім той апісваў чарговы разгром, які ўчыніла партыя ў беларускай літаратуры. Базыль чытаў аб войстрай крытыцы новых твораў. Ува ўсіх іх знайшлі чарговы выступ ваяўнічага нацыяналізму. Сам партыйны бос Беларусі накінуўся на гэтыя творы, як на контррэвалюцыйныя. Гэта распачало новую кампанію супраць беларускіх нацдэмаў. Чытаў Алесь аб гэтым, зьдзіўляўся жорсткасьці ідэялягічнага разбою партыі, але ня думаў, што ўжо з гэтага разгарыцца запраўдны пажар. І ўжо ніяк ня мог падумаць Алесь, што ўся гэтая гісторыя, гэтак далёкая ад Масквы, будзе мецъ хоць якія-небудзь вынікі ці ўплывы на ягоны асабісты лёс. Не ўяўляў тады Алесь, што ўжо заставаліся лічаныя дні волі як для беспасярэдных аб'ектаў гэтага наскоку, гэтак і для яго самога. Не прайшло й месяца, як Алесь быў арыштаваны, прывезены ў Менскае ГПУ й далучаны да тых, хто ўжо запаўняў да рэшты ўсе камары «Амэрыканкі» й лёхі сутарэньняў нутранае турмы гэтае страшное ўстановы.

Гэтак толькі арышт і перапыніў лучнасьць сяброў ды раськінуў іх па розных бакох непераходнае мяжы.

«Гэта-ж колькі гадоў сіганула, — думаў цяпер невядомы нікому ў дарозе пасажыр на верхняй паліцы, — як я ўжо ня бачыў Базыля. От было-б радасна сустрэць цяпер яго ды паціснуць яму ягоную мужную руку. А магчыма ўжо выслужыўся да высокага становішча ды не захоча знацца зь нядаўнім выгнанцам!» — аж узрыгануўся ўсёю істотаю Алесь ад гэтае сваё думкі.

«Ня можа быць... З Базылём гэтага ня здарыцца»... — разважаў далей Алесь. — «Хіба зь кім-небудзь іншым, але ня зь ім».

Ён зноў прыгадаў восеньскія ночы, калі за вокнамі ў садзе вецер зьбіваў старое сукавіньне, гулка стукаліся аб зямлю запозьненыя антонаўкі, а яны сядзелі ўдвух за шклянкаю ўкраінскае сьлівянкі й ня гэтак пітвом, як вінoм шчырай сяброўскай гаворкі ўпіваліся да асалоды.

«Не-не! Зь кім, зь кім, але ня зь ім толькі магчыма такое перaтварэньне», — станоўка й наважана абагуліў Алесь свае развагі.

Аднак нейкі сумлеў усёж-ткі залёг на сподзе ягонай сьвядамасьці. Ён час-па-часе зноў і зноў наводзіў думкі аб чалавеку й ягоных зьменах у вабставінах часу й асяродзьдзя. Гэтыя два фактары вызначаюць паводзіны абы якога чалавека. Ды чаму, нарэшце, яму цяпер павінна залежыць на нашым старым сяброўстве. Яно-ж было ўжо даўно. Паміж імі паўстаў прорву паміж імі. Нарэшце, і, магчыма, гэта галоўнае, яму-ж трэба абараняць недатыкальнасьць свае асобы ў савецкіх умовах. А што яму можа даць наша сустрэча? Ды яшчэ зь кім — учарайшым вязьнем і небясьпечным нацыянал-дэмакратам?! Адны толькі магчымыя прыкрасьці ды падазраньні адносна собскага палітычнага твару. А ён-жа цяпер пэўна партыец, калі ў выдавецтве пасаду займае, як падавала газэта. Жывёмжа, на самай справе, мы ўсе ў савецкім «раю» зь ягонымі спакусамі. Добра калісь паэта казаў:

«Ходзім мы пад месяцам высокім
Ды яшчэ пад ГПУ.»

Асьцярожны чалавек цяпер ніколі ня зробіць такога небясьпечнага кроку, як спатканьне з былым «контраю». А хіба-ж да таго Базыль ужо тады ня выяўляў, пад усім напластаваньнем сяброўскасьці, шчырасьці й прыязьні, рысы прыстасавальніка? Хіба ня выглядала зь ягонага нутра жаданьне прымайстравацца ў гэтым воўчым грамадзтве? Хіба ні імкнуўся ён уверх да літаратурнае славы? «Праўда, гэта рыса кажнага літаратара», — апраўдваў Базыля ў думках Алесь. — «Хто-ж ні імкнецца да вышэйшасьці становішча? Жывы чалавек пра жывое думае. Кажны хоча жыць лепш ды сякойтакой вядомасьці прыбдаць у людзях. Зусім натуральная зьява». Але за колькі гадоў сяброўства Алесь ня меў ніякае падставы паскардзіцца на абы-якое парушэньне сяброўскіх абавязкаў ці недатрыманьне сяброўскага гонару.

«Няўжо-ж ён цяпер ужо забыўся аб нашых юнацкіх трызьненьнях і страціў адчуваньне духовай тоесамасьці? О, не, не! Прэч, зрадлівая думка! — ледзь ня голасам выгукнуў Алесь. — Гэта ня ён, мой дарагі сябра Базыль, а я сам дайшоў да такога падзеньня. Яшчэ й не пабачыў яго, а ўжо зраджваю нашаму сьвятому, плямлю яго такімі нізкімі меркаваньнямі. Не, чалавек лепшы, чым я цяпер яго ўяўляю сабе. Гэта гады змрочнага лягернага жыцьця пасеялі ў маёй душы гідкія чорныя думкі. — Прэч, д'ябал-спакусьнік! Ні табе, хціві хапуга заплямленых душаў, цягнуць сваімі кашчавымі даўгімі пальцамі з бруднымі пазногцямі да чыстае, як сонца, душы. Ні табе, шчарбаты выскалянец, зацемрыць вечнае зьзяньне красы няўміручай вернасьці дружбе. Я памятаю й ніколі не забуду сябрукоў мае маладосьці. Яны засталіся вернымі ёй таксама. Ні засланіць яе ніякім напасьцям часу, ні злым падзеям ліхой эпохі.

Павольна думкі сталі агартацца нявыразным туманам, рэчы губляць свае абрысы. Алесям завалодаў і адолеў да рэшты непераможны бацька-сон.

### III

... Цягнік раптоўна здрыгануўся, заенчылі колы па рэйках, зустукалі вагон аб вагон буфэрамі. Паравоз азваўся колькімі працяглымі галасьнікамі выпушчанае пары. Увесь састаў

*Г. Няміга*

# „ЗА ЧЫМ?, — Я ЗА ВАМІ“

**(АБРАЗОК ІЗ «ШЧАСЬЛІВАГА» ЖЫЦЬЦЯ 30-Х ГАДОЎ У СССР.)**

Выпярэдзіў Алеся ягоны найлепшы сябра Аўгуст — жэніцца. Хай сабе... Крыху цярплівасьці і... «на нашай вуліцы будзе кірмаш!» Яшчэ адзін год — чакаць ня Бог ведае колькі. Аўгуст старэйшы — яму даўно пара. Добра што з Валяй. Яна дзяўчына добрага пакону, пілаваць ня ня стане, а гэта грунт!

Натупаўся Алесь даволі з прычыны гэтага жаніцтва. Хацеў падараваць карыснае штосьць, каб доўга ў памяці маладзенцам трымалася. Адно букет красак — ня выпадала. Кветкі — прыемнасьць пераходная. Завянуць і толькі таго было...

Хіба што чайны сэрвіс, гэтак асобаў на шэсьць... Чаму якраз на шэсьць?... Вельмі проста: стаўчэцца нешта з часам, а там дзеці, госьці... прыкладам, ён сам зойдзе з жонкай...

З жонкай?... Але — з жонкай! Хіба што Зося перадумае, але пашто забягаць наперад? Цяпер галоўнае падарунак, а яго як-раз яшчэ й няма.

Дзе толькі не пабываў Алесь, і ўсё пшык! За тое, як жартаваў пазьней, «геаграфію места вывучыў дасканала». Праўду кажучы, дык толькі тае ўцехі й было. Здабыць што трэба не ўдалося. То ня было, то некамплектнае, то спэцыяльныя талёны давай. Калі-ж здаралася штоколечы больш-менш сходнае ў вольным, г. зв., камэрцыйным гандлі, дык ад цаны палысець можна было. Адно што там было прыемнае — ніхто ня душыўся. Радовак ня было. Падыйдзе бывала сёй-той да вітрыны, пацмокае ды й ходу.

— Абыйдзецца й бяз гэтага. Абы ў рот было што пакласьці, а запіць — з бляшанай конаўкі можна, — прыкідаў кажны.

Вывяла зь бяды Алеся ягоная гаспадыня Раіса. Дзесь у прыгарадзе мела яна самотную старушку, добрую калішнюю прыяцельку сваёй нябожчыцы-мацеры. Ліпела старая сяк-так перш з «Таргсіну», пакуль не зьявіліся пярсьцёнкі, брошкі, срэбныя падсьвечнікі, а цяпер збывала, калі ўдавалася, рэшткі тых рэчаў, што захаваліся яшчэ ад «лепшых часоў». Захавалася ўжо ня шмат. Не кранўты стаяў толькі на відавочным месцы ў хаце, ніколі ня ўжываны, вельмі арыгінальны, мастацкага выкананьня, чайны сэрвіс зь кітайскай парцэляны. Раіса даўно яго мела на воку, але кіданыя ёю нібы так, між іншага, намёкі пазбышца й гэтага, чым галадаваць, старая перацінала коратка: «хай стаіць, ня вечна гэтак будзе!»...

На ўсё на сьвеце свая пара. Якраз надовечы Раіса наведала старушку, падкінула ёй, што магла з прадуктаў, чым моцна яе рашчуліла, і тая ня зьдзержыла: паказваючы любоўна на свае кубачкі, плачліва загаласіла — «... забяры гэта сабе, дачушка... прадавацць сэрца не дазваляе... Каб-жа добраму чалавеку ў рукі, а то... ня кажны разумее, а гэта-ж... Мне ўжо усёадно... колькі таго жыцьця асталося...» і залілася сьлязьмі. Сэрца Раісы не дазволіла выканаць гэнай просьбы зь месца. Пакінула старэнькай час, каб тая магла звыкнуцца з тым, што ўжо раз наважыла. Абяцала забраць сэрвіс іншым разам.

Цяпер, калі Алесь прагладжаецца тады-сяды дапамагаць старой. то Раіса паедзе да яе й скажа, што «адпаведны чалавек знайшоўся, які разумецца на гэтакіх рэчах».

Перад гэтым-жа даволі і Алесю хварэць адно за іншых. Аб сабе пара падумаць. Заўтра ў «Пасажы» чаравікі на скуранай падэшве даваць будуць! Сорам глядзець на ягоныя атопкі, хіба-ж ня ў іх жаніць сябру пойдзе?

Алесь з практыкі ведаў, што азначае «даваць будуць». Ён ня зносіў нялюдзкае цісканіны ды лаянкі радовак у такіх выпадках. Таму й хадзіў у ватопках. Гэтым разам аднак выладзіўся яшчэ надсьвітку, каб быць у ліку першых. Тое-ж практычнае жыцьцёвае дазнаньне падказвала яму, што чым раней, тым лепш. Ён быў перакананы, што пра «даваньне» ведала не адно Раіса. Як і адкуль — ніхто сказаць ня мог, толькі пантаплёвая пошта звычайна працавала бездакорна. Прыйшоўшы на месца, пераканаўся ў гэтым навочна.

Уздоўж працягвала на колькі кварталаў крытага шкляным дахам ды вузкаватага калідору Пасажу, паабапал катарага былі крамы, цягнулася бясконцая з выкрутасамі істужка яшчэ больших за Алеся разумнікаў, што дагадаліся з поўначы, а мо і ўчарайшага вечара заняць «пазыцыі».

Алесь толькі тут даведаўся, што радоўка запраўды фармавалася яшчэ ўначы. Пасаж зачыняў свае крамы рана. Ахвотнікаў на камэрцыйныя тавары было ня шмат. Ня вытрымоўвала цэнаў кішаня «працоўных гораду Леніна» ды самае патрэбнае, найбольш ходкае, бывала рэдка. У такіх менавіта выпадках і працавала пантаплёвая пошта. Узьнімалася тады на ногі й міліцыя. На радоўкі зь вечара не дазваляла. Нельга было дапускаць гэтакай зьнявагі «калысцы рэвалюцыі», як паэтычна цяпер называлі былы Петраград.

Ленінград — места эўрапэйскага пашыбу, другая сталіца краю. Што скажуць чужынцы, а іх тут круціцца ня мала. Ведама, гордасьць горад партовы, музэі, палацы, гістарычныя будынкі... Усё гэта прыцягвае турыстых. Не дарма-ж і Таргсінаў тут як грыбоў!

Ленінградцы перахітрылі міліцыю. Перасталі станавіцца ў радоўкі зь вечара, а высыпалі проста на «праходку», але туды, дзе найбольш пахла якім-небудзь «даваньнем». Гэткія мэтанакіраваныя шпацыравальнікі мелі надзвычай войстрае вока. Заўсёды безпамылкова вылаўлялі ў людзкім натоўпе сабе падобных, каб няўзнак, мімаходзь, кінуць каму трэба кароткае: «За чым? — Я за вамі!» ды рушыць далей.

Каля поўначы ў гэтакім раёне заставаліся пераважна адны яны й тады справа хто за кім была лягчэйшай, аднак шпацыр ня спыняўся. Міліцыянеры, хоць і ведалі аб чым тут ход, прычапіцца не маглі ды й навошта? Ходзяць людзі гэтак позна, хай ходзяць. Гэта-ж жыцьцё вялікага места!

У дазволены час, маланкава, як спад зямлі, вырастала перад адпаведнай крамай вялізарная радоўка.

Алесю, што ня ведаў гэтага, як і шмат яшчэ іншых мудрасьцяў новага «сацыялістычнага» ладу жыцьця, давялося апынуцца ў найбольш аддаленым ад дзьвярэй крамы канцы хваста. Да адчыненьня крамы яшчэ было далёка ды й дакладна нямаведама калі яна адчыніцца, таму ўсе трымаліся пакуль што спакойна.

Алесь сьпярша хацеў завярнуцца дахаты. Перамагла развага: а далей што? Ужо і Раіса нічога ня выдумае, а чаравікі на гвалт патрэбны. Пастанавіў стаяць, хоць да вечара, абы не варочацца з пустымі рукамі.

Народ усьцяж прыбываў. Алесь радаваўся, што хоць ня ён апошні, а з гэным апошнім дык выйшла камэдыя. Нехта за ім запытаўся быў у шырокатварай бабы, ці мітусілася й не мала ўстоіць на месцы, ці не яна прыпадкам апошняя ў радоўцы. Відаць хацеў чалавек упэўніцца, ці добра стаў. Тая, пачуўшы слова «апошняя», падскочыла, як ад укропу:

— Сам ты дурань апошні! Якая я табе апошняя, га?! Зьбіты з панталыку «дурань апошні» выпраўдваўся, як мог, а баба ня ўнімалася:

— Культурна захавацца другі ня ўмее! Ня ведае, што «**хто крайні**» пытацца трэба... А яшчэ — у акуля-аа-рах!...

Знайшліся й другія войстрыя на язык, што ніяк не маглі прапусьціць нагоды, каб не далажыць і свае тры грошы. Павесялела крыху, а неўзабаве пачаўся новы гармідар. Нехта зь пярэдніх пусьціў чутку, што краму даўно пара адчыняць, а не адчыняюць знарок,... каб сваякі ды прыцелі крамнікаў управіліся павыносіць лепшы тавар чорным ходам.

Узьняўся такі вэрхал, што нельга было разабраць, хто што крычаў ды чаго дамагаўся.

Нямаведама адкуль зьявілася міліцыя. Міліцыянеры стараліся перакрычаць разбушаваную масу, суняць агульнае ўзрушаньне.

— Грамадзяне! Не хваліюйцеся!... Не паддавайцеся правакацыі. Тавару хопіць усім! — гукалі яны. Памагала ня дужа. У вадказ на гэта разьлягаліся выгукі недаверу. Найгаласьней дзёрлася тая, «крайняя»:

— Хопіць, а як-жа! Табе то хопіць, трасца вам у бок! Жонка даўно пад прылавам вынесла, а заўтра на таўкучку!... А нам, бедным пралетарам, што?... Фіга!...

— Праўду баба кажа!...

— Націскай...

— Адчыняць, ня дзе дзенуцца!.. — уторылі злосныя галавы. І націскалі. Складная дагэтуль істужка радоўкі зблыталася, разарвалася. Усе пхаліся наперад. Алеся, міма ягонай волі, шуганулі ледзь не да самых дзьвярэй крамы, дзе капашылася зьбітая маса целаў. Націскалі з усіх бакоў.

Чуўся стогн прыдушаных. Адчайна галасіла «крайняя». Яе валаклі ў вучастак.

Наступіла часовае адпружаньне: зь міліцыяй жарты благія! Як на тое ліха, раптоўна рашчыніліся дзьверы крамы. Новая, яшчэ горшая каламутня. Людзі падалі сапелі, як кавальскія мяхі, пракладалі дарогу локцямі, кухталямі, рваліся далей, наперад... Алеся, сьціснутага з усіх бакоў, разьюшаны натоўп унёс у сярэдзіну крамы ды распластаваў на прылаўку...

Падасьпела сьвежая група міліцыянераў. Пусьціўшы ў ход кулакі ды дзяржаныя пісталетаў, ім удалося сяк-так зачыніць дзьверы, стрымаць напор.

Алесь, прыціснуты да ляды, ня мог паварушыцца, заліваўся потам ды ў духу маліўся, каб хоць з цэлымі рэбрамі выраваца адгэтуль. Празь яго ды яму падобных галовы прасьціраліся дзесяткі рук да крамнікаў. Усе стараліся перакрычаць адзін другога, тыцкалі зьмятыя ў жменях рублі, абы толькі дарвацца першымі. Прайшло добрых паўгадзіны, пакуль крыху адлягло. Новых цяпер ня пушчалі, хоць навонкі катлавалася. Міліцыя заняла пазыцыі ля дзьвярэй крамы ды наводзіла парадак.

Давялося і Алесю выносіць сваю вымучаную пакунку гэным чорным ходам, праз які і ўвесь сыр-бор разгарэўся. Адчыняць галоўны ўваход, пакуль не расплывуцца тыя, што ўварваліся, было немагчыма.

Апынуўшыся на вуліцы, Алесь з асалодай удыхнуў поўныя грудзі сьвежага паветра і адчуў запраўдную радасьць жыцьця... Не зьвяртаў навет ніякай увагі на свой вонкавы выгляд, што патрабаваў шмат большага... Мокры, расхрыстаны, з пааблупліванымі гузікамі, п'яны ад шчасьця уладаньня новенькай парай, ды не абы якой!... на скуранай падэшве чаравікаў!.. ён весела крочыў дадому...

Дома радасны настрой выветрыў: чаравікі былі цеснаватыя. У Пасажы было не да прымерак. Хапай барждкэй, што даюць ды іншым месца дай!

Гаспадыня пацяшала: — Нічога, разыйдуцца. Гэта ногі змучаныя. Нанач добра выпхайце газэтамі...

Гэтак і зрабіў. Памагло, як кашаль у хваробе. Калі трэба было ісьці ў сьветку Аўгусту да ЗАГС'у, ледзь узьбіў на ногі, і ўвесь той вясельны вечар чуў, як гарэлі падэшвы ног, моршчыўся ад болю і ступаў паважна, бы пава.

Ягоныя мукі зьмякчаліся адно сьведамасьцю таго, што хоць дагадзіў прыяцелю: ад чайнага сэрвіса і ён і ягоная маладая жонка былі ў захапленьні...

### МАГНОЛІЯ

Цьвіце магнолія...
мільлёны матылёў,
бялейшыя за сьнег, трапечуць на галінах.
Замерла ў пешчах белых крыл гальлё,
салодкай млоснасьці на брук ня сьвіне.
Ён — чорны і брыдкі, як, зрэшты, тут усё,
ды б'юць, бы ў бубна дно ў яго людзкія ногі
па годзе год,
аплёў, аблытаў, як драсён,
той бруд ня толькі брук, але й хаценьні,
змогу...
А ўсёткі,
за сьнягі бялейшая, усьцяж,
ледзь красавік,
цьвіце магнолія пад мурам.
Зялезнай лёгкі адвечнага жыцьця
нішто відаць, што людзкае, — ня збурыць.
Ну, а па мне —
усё, як ёсьць, і мае быць.
Маленства... вёсны... восені... магільнік...
Сяўба бяз жніваў... Жнівы без сяўбы...
Узвышшы ўсьцешныя... Туга, якой ня
выліць, —
Я дзякую табе за іх, за ўсё,
мой кон,
хоць мо' й нязвыклы ты ціхой людзкой
падзякі.
Пайду... ды ведай —
рэшту сініх дзён
маіх дап'ю я ўсё-ж із смакам!

1954 г. **Натальля Арсеньнева**

---

яшчэ прабег колькі адрэзкаў чыгункі свавольным ходам і раптам стаў, як закапаны. Пачуліся ажыўленыя чалавечыя галасы. Натоўпы пасажыраў высыпалі з вагонаў за варам. Далёка раздаваліся бразганьне кацялкоў ды бляшанак. Народ, што карыстаў з нагоды размінуць ногі ўздоўж каляінаў, ствараў уражаньне нязвычайнай сумятні й беганіны.

Ад раптоўнага прыпынку стрэсласа адкінутая ў бок галава Алеся, і ён ачуўся. За момант ён ачухаўся ад часінкавае няпэўнасьці, зьлез з савіго седзішча ды з вагону. І ён адразу ўбачыў справа даўгую, прыгожую, як на гэты вялікі Сібірскі шлях, пахварбаваную ў жаўтавата-белы колер станцыйную камініцу. За ёю-ж, пасля колькіх драўляных хатаў, зноў стала тая-ж адвечна-зялёная сьцяна хвойна-піхтавага лесу. — Га, Дык гэта-ж ужо станцыя Тайга, дзе ад галоўнае сібірскае чыгункі адгаліноўваецца каляіна на Томск. Значыць адгэтуль ужо недалёка да Новасібірску, дзе пачынаў калісьці сваё лягернае жыцьцё, — узрадавана прагаварыў сабе Алесь. Значыць, ужо добрую палову дарогі дакакана. За Новасібірскам неўзабаве будзе і Омск,а там, глядзіш, і Сьвярдлоўск на Прыуральскім узвышшы. За ім-жа пачнецца Эўропа. Хай сабе і ня тая яшчэ, па якой смутуе душа, але-ж пачатак нечага больш роднага, чымся гэты бясконцы Азіяцкі кантынэнт.

... Цягнік мінуў каменныя гмахі, акаймаваныя россыпам драўляных хацінаў Новасібірску, і далей пабег па шырачэзнай таежнай прасторы, усё часьцей і часьцей перабіваная роўнадзьдзю пажаўцелых палёў. Праз пару дзён несласа на ўсход вялізарная Омская даліна. За ёю з Прыуральскіх узвышшаў і высокіх лясоў абдало прыемным водарам горных рачулак і зялёных лугоў.

«Вось яна тая мяжа паміж Азіяй і Эўропай. А недзе там далёка ў імгле туманаў ляжыць і мая родная зямля», — радаваўся. Алесь, мераючы вачыма адлегласьці праз вагоннае вакенца. Зморана доўгім назіраньнем маляўнічых уральскіх краявідаў, ён нарэшце зноў здаўся моўкнай дрымоце. Гэтак прабеглі яшчэ колькі дзён і начэй, калі абраз бачанага чужога краю зьмяняўся ўявамі родных палеткаў, гораду ягонага дзяцінства й юнацтва, прыходзілі відовішчы бацькі й маці за родным парогам. Дзённая ціхая дрымота чаргавалася з ночнымі салодкімі мроямі на чужыне па сваіму краю душы. Пад грохат цягніковага руху ды вагонную трасяніну сон рабіўся ўзрушлівым. Вярэзьліся розныя здані, часамі прыходзілі незразумелыя постаці й так-жа раптоўна зьнікалі, не пакідаючы па сабе выразнага ўспаміну. Вось Алесь з утрапёным зьдзіўленьнем змагаецца зь нейкімі ліхімі напасьцямі. Ён зваліўся ў глыбокую студню. Бясконца ляціць да ейнага нябачнага дна. Галава б'ецца аб сьцены, ногі чапляюцца за ўкрытыя бросьнявы бярвеньні. А калі ён дасягае нарэшце тога таямнічага споду і яго паглынае халодная цьмяная вадкасьць, ён прасынаецца. Рука намацала халодныя кропелькі на лобе. Рукавом кашулі правёў па твары, сьцёр з большага гэта насланньнё й зірнуў ў вакно.

— Якая цудоўная раніца! — уголас, ня вытрымаўшы змоўчаць, прагаварыў у зьдзіўленьні ад бачанага Алесь.

І запраўды, надвор'е было цудоўнае. Паабапал чыгункі сталі поўныя зялёнае роскашы лясы рослых асінаў, бялявых бярозаў, ружаватых клёнаў. Пад жніўенскім сонечным цяплом цёмна-зялёныя сасонкі й хвоі пераліваліся буйнымі адценьнямі й несьлі ў вадчыненыя вокны вагонаў гаючы хвойны водар. Хутка прабегла яшчэ колькі станцыяў і прыстанкаў. Уважлівы Алесяў зірк злавіў іхныя назоў. Сьведамасьць радасна занатавала, што гэта ўжо Падмаскоўе. Тут ужо лясы й дубровы ня гэтак блізка падыходзілі да станцыйных будынкаў, але яны былі буйна-зялёнымі. Высокія дрэвы адкідалі далёка ад сябе цені й вабілі пад іхнюю ахалоду вандроўніка.

Пасьля перасядкі ў Маскве, іншы цягнік імчаў Алеся на поўдзень. Тут ужо людзкая гаворка ў вагонах нагадвала Алесю мову ягоных суродзічаў. Надта-ж акцэнт і вымаўленьне скрозь з аканьнем, а часамі навет і зь дзеканьнем, выдаваў колішняе паходжаньне нездагадлівых носьбітаў гэтых моўных асаблівасьцяў.

І вось тады душа яшчэ мацней пацягнулася туды на захад, да родных берагоў Сьвіслачы. Сумавала ўся істота Алесява па мінаных цяпер недалёка адгэтуль старых бацькоў у Менску. Але нічога ня зробіш, браце, мусіш ехаць, куды ў цябе выпісаны маршрут — у далёкі й чужы Крым. У маркоце прапушчаў вачыма Алесь пшанічныя прасторы Ўкраіны, шырокія стэпы разнакаляровых красак. На прыпынках выходзіў з сходаў вагону ў мора стэпавых кветак, вяртаўся назад з букетам красак, падносіў да носу й доўга не адрываўся ад цудоўнага водарнага бальзаму, што несьлі ў ягоную змучаную дарогаю душу гэтыя палявыя анёлчыкі. Прыйшлі ў голаў зноў цудоўныя радкі з «Слуцкіх ткачых» —

> «І тчэ, забыўшыся, рука
> заміж пэрсыдзкага узору
> цьвяток радзімы васілька.»

Алесь да канца дарогі мала аддаваў увагі станцыям, поўным малочных гандлярак, сёлам, дзе дзяўчаты адна перад адною стараліся збабіць пасажыра, каб той купіў і ў іх ягадаў або садовіны. Чым бліжэй падвозіў яго цягнік да канечнага прыпынку, тым больш аддавалася ягоная думка турботе аб тым, што яго чакае ў нязнаным Сымфэрополе. А калі ён вынесься зь Перакопскіх валаў ды Азоўскіх ліманаў на шырокі прастор парыжэлага, выгарэлага Крымскага стэпу, сум ні з таго, ні зь сяго стаў яшчэ гарчэйшым. Ён абыякава азіраў рудыя палі сабранае пшаніцы і ажыўіўся толькі перад таямніцамі нязнанага гораду, які раптам сярод стэпу вырас перад вачыма чарадою колькіх камяніцаў сьветлага, вясёлага тону, залітых бляскам дзённага сонца.

Самотным бесхацінцам ішоў Алесь ходнікамі Крымскае сталіцы. У той-жа дзень ён пасьпеў залагодзіць усе справы з дакумэнтамі, атрымаў часовае асабістае пасьветчаньне замест пашпарта, пачаў шукаць працу. Але ніводзін чорт і слухаць не хацеў аб вогнай кандыдатуры на пасаду, як толькі даведваўся скуль і хто такі Алесь. Таму ім яшчэ мацней завалодала жаданьне ехаць на адведзіны бацькоў у родны Менск. На кажную няўдачу ўва ўстанове і адмову ў працы ягонае нутро аж калацілася ад унутранага голасу: — Ні тут тваё шчасьце.

*Нататкі чытача*

# I

# Паланянка расейшчыны

У першай сёлетняй кнізе «Маладосьці» была зацемка навуковага супрацоўніка Купалавага літаратурнага музэю ў Менску Карбекі «Ці так мы гаворым». Выглядае, надрукавалі яе адно дзеля адчэпнага й каб ня кідалася ў вочы — у пазадзьдзі «З нашай пошты». У зацемцы ў вельмі асьцярожнай форме закранаецца заўсёды пякучае пытаньне чысьціні беларускае літаратурнае мовы ў БССР — чысьціні ад расейшчыны. Падаюцца прыклады моўнае пачварнасьці, якую дзеля палітычнае злагоджанасьці абазначаюць спэцыфічным савецкія тэрмінам — калька з расейскае мовы.

Вось як гаворыць да вучняў нейкае школы настаўніца беларускае мовы й літаратуры: **«Здраствуйце, рабяты...** Дастаньце свае **цятрадзі,** і мы зараз праверым **дамашнія ўпражненьні...** Сядай, **пажалуста».** Ня ведаем, колькі гэткіх людзей завіхаецца ў гэтак званай сувэрэннай БССР пры адбіраньні ад вучняў роднае мовы. Але ведаем з савецкага друку, што ад гэтых няпісьменных, рыхтаваных у савецкіх пэдагагічных установах настаўнікаў не адбіраюць права зьдзеквацца зь беларускае мовы.

Аўтар зацемкі сьведама абмежаваў сябе «ці так мы гаворым» і зусім не закранае друкаванага падсавецкага беларускага слова. А тут, каб адвесьці ўвагу ад афіцыйнае лініі, ужо нельга было-б вінаваціць адно «некаторых асобаў».

Мяркуем, што літаратурны часапіс найперш належыць да «сейбітаў літаратурнага слова». Прыкладам, тая-ж «Маладосьць». Здавалася-б, яна мусіць дбаць пра ўзгадаваньне ў маладых літаратараў пашаны да роднае мовы, ейнае чысьціні, нявычэрпнага багацьця народнага слова, як асновы самое працы пісьменьніка. А тымчасам на балонках «Маладосьці» гэных самых «пажалуста» цэлая процьма.

Рэдакцыя казённага часапісу, занядбаўшы беларускую мову, садзіць вучня не на школьную лаўку, а **«за парту.., на ўроку».** Дае яму ня пісьмовую працу, а **«сачыненьне»,** у якім ён мусіць ужываць гэткія славэчкі: **зьнешні, скорасьць, станок, навес, прыбор, клятва** ды безьліч іншых замест нашых — вонкавы, хуткасьць, варштат, павець, прылада, прысяга. А чаго вартая фразэялёгія: «каштоўнасьць **уяўляе** вывучэньне», **«ажыцьцявімы** шлях», «месячная ноч **атрымаецца»,** «заходзіў **за** канспэктам», «пакойчык **зьняў»** — нібы ён вісеў на цьвіку або **«усадзіў** за пісьмовы стол», нераўнуючы, як тапор у пень. Русыфікуючы слоўнік ды пераймаючы чужую фразэялёгію рэдакцыя руйнуе прыродную самабытнасьць нашае мовы.

Уявіце, што выходзіць, калі гэтак навучаныя людзі, няведаючы жывога народнага слова падаюцца ў пісьменьнікі. Вось п'еса Гутковіча й Казсўскай з таго-ж нумару «Маладосьці», названая «Праўда й шчасьце». Пэрсанажы п'есы, ад якіх адабраныя навет беларускія імёны, трупеюць пад цяжарам расейшчынай засьмечанага канцылярскага жаргону. У іхнай памяці, хоць яны й маюць вышэйшую асьвету, не захавалася ні трапных народных выслоўяў, ні ўзораў роднага мастацкага слова, каб пры патрэбе імі карыстацца. Сваю адукацыю яны выяўляюць у іншы спосаб. Калі іх апануе пачуцьцёвая млявасьць або жаданьне выкінуць каленца, каб зьвярнуць на сябе ўвагу, яны пераходзяць на расейскую мову, дэклямуючы, як ім здаецца, гэткае незаступнае харавство: «О, не буди меня дыхание весны» або «ставил я на пиковую даму, а сыграл бубнового туза». Казыраньне «бубновымі тузамі» ў літаратурных тэкстах сталася адзнакаю добрага тону, прыхваткам выяўленьня вышэйшасьці, як і належыцца ў правінцыі, якую русыфікуюць, гонам гоняць на пераймальнасьць усяго чужога, каб усьмерціць ейнае роднае.

Прыклады моўнага жаргону можна бясконца памнажаць. Ён ёсьць і ў іншых часапісах, мінаючы ўжо газэты начале з партыйным ворганам «Зьвяздою» — гэтай галоўнай пачынальніцай і апрабатаркай усяго небеларускага.

Падсавецкі аўтар у найлепшым выпадку можа зачапіць адно «некаторых асобаў», што ператвараюць нашу літаратурную мову ў зрасейшчаны жаргон. Але ягонае выказваньне, калі пашчасьціла яму зьявіцца ў друку, ніколі не стаецца грамадзкай думкаю ў дзеі, бо натыкаецца на суцэльную навалу дакладна распрацаванае сыстэмы моўнага руйнаваньня. На гэта заклікана школа, дурк, да гэтага сьціраваныя ўсялякія партыйныя «рэформы», абмежаваньне афіцыйнага ўжываньня беларускае мовы. А розныя кандыдаты ад філялёгіі, бяручы гвалтам створаную моўную каламуту за жывую вадзіцу, на партыйны загад майструюць нейкі навуковы грунт, цьвердзячы, што беларуская мова нібы на моц свайго натуральнага разьвіцца ідзе да «няўхільнага зьбліжэньня» (чытай — зьліцьця), ведама, — «зь вялікай расейскай мовай».

Усё гэта даводзіць, што нашу літаратурную мову ў БССР афіцыйна трымаюць на штораз большай залежнасьці ад мовы расейскай, на становішчы паланянкі, зь якое зьдзіраюць ейную прыродную красу, каб ператварыць у пачвару, нявартую жыцьця. Публічна, на ўвесь голас бараніць моўную самабытнасьць даўна забаронена пад пагрозаю залічэньня ў буржуазныя нацыяналістыя, змагацца зь якімі патрабуе кажная партыйная пастанова.

Аджа і ў БССР наўсуперак партыйнаму адбіраньню самабытнасьці ад беларускага слова ёсьць літаратары, якія і ў задушлівай атмасфэры берагуць ягоную красу й чысьціню. Робіцца гэта маўкліва. Адабраныя публічныя выступленьні заступленыя тут штодзённай творчай працай. Праўда, не абыходзіцца без падкопаў з боку ахоўнікаў «зьбліжэньня» хоць-бы ў форме закідаў пра залішняе захапленьне «рознымі дыялектызмамі», якімі абазначаюць усё тое што адхіляецца ад устаноўленых нормаў.

# II

# „У кіпцюрах ГПУ”

У друку БССР адзначалася колькі літаратурных юбілеяў. Сярод іх было й 60 год народзінаў казённага пісакі нябожчыка Клімковіча. Завіхаўся ён з аднолькавай графаманскай адубеласьцяй у розных жанрах. А якім ён быў спрыяльнікам беларускае літаратуры, выявілася на ўвесь забойным разгонам пры ягоным узначальваньні ў 30-х гадох арганізацыі пісьменьнікаў, нацыянальна падбітае ўжо, а пры ім яшчэ з большай тэрарыстычнай зацятасьцяй дабіванае навет ня толькі нацыянальна-творчага ў ёй, але й патэнцыяльна апазыцыйнага да рэжыму. Той Клімковіч і застаецца ў памяці беларускае грамадзкасьці ня пісьменьнікам, а прычасьнікам выгубленьня пісьменьнікаў. Ён, як партыйны бізуншчык, найбольш за іншых нявечыў літаратурнае асяродзьдзе ўярэмленьнем яго ў пераймальнасьць расейшчыны, афіцыйна выдаваную за найвышэйшы й абавязкавы ўзор для беларускіх пісьменьнікаў і сяньня трыманых на становішчы залежных ад той-жа расейшчыны пасынкаў.

Вось-жа таму, што арганізацыя пісьменьнікаў у БССР ня мае змогі выяўляць свой задзіночаны, непадлеглы чужой партыі голас — ейныя сябры не маглі прыйсьці на іншую магілу, трыманую пад забаронай і ў забыцьці. Якраз летась было 15 год з дня падступнага забойства беларускага драматарга Францішка Аляхновіча.

Нарадзіўся Аляхновіч у 1883 г. ў сям'і скрыпача ў беларускай Вільні. Выдатны Беларус, загублены бальшавікамі Язэп Лёсік называў Вільню калыскай нашага адраджэньня. Бо-ж там, у вадабранай расейскімі бальшавікамі ад Беларусі Вільні, на Лукішках якой таксама расейскім генэралам Мураўёвам быў павешаны выдатнейшы правадыр-абуджальнік незалежнае Беларусі Кастусь Каліноўскі, аднавіўся той рух, што прывёў да нашае нацыянальнае рэвалюцыі ў 1917-18 г. г.

У Вільні ў 1916 г., калі Беларусь была падзеленая фронтам на дзьве часткі, пачала выходзіць заступніца «Нашае Нівы» газэта «Гоман». Вакол яе гуртаваліся, каго клікала да працы нашае адраджэньне. Сярод гэтых людзей быў і Аляхновіч. Ён за сваю літаратурную працу быў двойчы вязьнем: сядзеў у віленскім вастрозе пры цары, а пасьля стаўся аднэй зь першых ахвяраў бальшавіцкага перасьледу.

Драматургія, тэатральная дзейнасьць зьявіліся прыродным прызначаньнем Аляхновіча. Віленская рачаіснасьць, далёкая мінуўшчына, народныя паданьні-лягенды былі крыніцаю, зь якое ён чэрпаў матар'ял для сваіх вельмі папулярных п'есаў, узбагачаючы беларускі рэпэртуар. Кірунак творчасьці вызначаўся ўсьвядомленьнем вылучнае ролі тэатральнага мастацтва ў развоі нашага адраджэньня. Вобраз беларускага адраджэнца стаецца цэнтральным пэрсанажам. Ён — сын нізінных народных гушчаў — ня толькі ўвасабляе нацыянальнае абуджэньне народу, але й праняты, як у драме «Базылішк», якой драматург адгукнуўся на падзеі 1917 г., гатовасьцяй аддаць жыцьцё за вызваленьне й незалежнасьць Бацькаўшчыны — «я для тваёй красы гатоў ісьці на мукі», каб народ пачаў «жыць сам для сябе». Для Аляхновічавага адраджэнца «лёс мой і Бацькаўшчыны маёй» становіць непадзельную еднасьць. Змагаючы варагоў, якія «за трыццаць гор, за трыццаць рэк», ён яшчэ больш мужнее ад адчуваньня, што ягоны прыклад памнажаецца ў народзе, што сам народ, кажучы словамі сьпяванага ім нацыянальнага гімну, выйшаў «на бой за славу і за волю», адабраную ў яго чужынцамі. За гэта Аляхновічавы п'есы трымаюць у рубрыцы нацыяналістычных і забароненых.

Наш першы гісторык літаратуры Максім Гарэцкі гэтак пісаў пра свайго су-

> «Анолькава здольны ён і ў драме і ў лёгкай камэдыі... У 1916-17 гадох Аляхновіч напружана працуе ў Вільні для беларускае культуры: супрацоўнічае ў газэце й выдавецтве, настаўнічае ў школе, ладзіць беларускія спэктаклі, арганізуе групу і шмат піша для беларускае сцэны... Пазьней ён працуе... як рэдактар «Беларускага жыцьця», «Беларускага звону», як найлепшы артысты на сцэне й як літаратар».

А калі ў часе нацыянальнае рэвалюцыі Менск стаўся ейным цэнтрам, Аляхновіч, паводля сьветчаньня Гарэцкага, — «нелегальна, зь небясьпекаю для жыцьця перайшоў фронт — і абарваны, босы, з ранамі на нагах, пасьля васьмёхдзённае падарожы прыйшоў у Менск», каб улучыцца ў стваральную нацыянальную працу. Побач з працаю над новымі п'есамі ён, як адзначаў Гарэцкі, — «паставіў свайго «Бутрыма Няміру» і так выканаў яго ролю, што адразу здабыў вялізарны посьпех. Менскі беларускі тэатр ажыў».

У лістападзе 1926 г. Аляхновіч настала прыяжджае гэтым разам у падсавецкі Менск, які ў тую параўнальна лагодную пару вабіў шмат каго з заходня-беларускае інтэлігенцыі. Аджа спадзяваньням драматурга на магчымасьці бесьперашкоднае беларускае культурнае працы ня было суджана спраўдзіцца, бо й тады неабазнаных з савецкай рачаіснасьцяй ідэялістых пры першым да яе дотыку хапалі ўчэпістыя кіпцюры ГПУ.

Аляхновічу былі прыдзялілі працу ў Другім, цяперашнім імя Якуба Коласа тэатры. Але неўзабаве драматурга зьвінавацілі ў польскім шпіянажы й засудзілі ў маскоўскім ГПУ на Лубянцы на дзесяць гадоў зьняволеньня ў салавецкіх канцэнтрацыйных лягерах. Пазьней былы савецкі вязень пісаў: «Не памаглі амнэстыя, не памаглі захады менскіх прыяцеляў. Не памагло абіваньне парогаў чырвоных вяльможаў няшчаснаю маткаю. Усе надзеі зьніклі».

Беларускі адраджэнец з Аляхновічавае «Няскончанае драмы» казаў: Вось-жа ўся штука ў тым, каб ня даць душы ў палон». Ня даў свае душы ў палон, застаўся духова нязломным і Аляхновіч наўсуперак фізычным і маральным пакутам, праз якія ён прайшоў. Гэта й кіравала ім пры пісаньні ведамых успамінаў «У кіпцюрах ГПУ», за якія ён адразу бярэцца, калі пашчасьціла выбавіцца з тых кіпцюроў і вярнуцца ў родную Вільню.

Але й тут ГПУ не давала пісьменьніку спакою. Былі пушчаныя ў ход розныя правакацыі, каб перашкодзіць зьяўленьню ў друку ўспамінаў былога савецкага вязьня, які апавядаў пра страшную праўду бальшавіцкае катоўні, пра пакутніцкі шлях бязь віны вінавачаных людзей, ператвараных у бясправўныя пад нумарамі істоты. Успаміны гучэлі абвінаваўчым актам супраць тыранічнай дыктатуры, якая засланялася шыльдаю ўлады работнікаў і сялянаў.

Каб адабраць голас у свае ахвяры, ГПУ праз падкупленых наймітаў напачатку ў друку абвесьціла Аляхновіча бальшавіцкім агентам, які прыкрываецца ўспамінамі. А калі гэта не дапамагло, дык пачалі зноў цьвердзіць, што яго ў Менск заслала польская дэфэнзыва. Было конча патрэбна, як пісаў аўтар успамінаў, — «апаганіць, запэцкаць, каб страціў у грамадзтве ўсялякі давер».

Аджа гэтым разам пісьменьнік пераМог. Ягоныя «У кіпцюрох ГПУ», пакульшто адзіныя ў беларускай літаратуры гэткія ўспаміны, зьявіліся ў друку ў шасьцёх мовах.

Зьвінавачаньнем у беларускім нацыяналізьме, а побач і ў польскім шпіянажы (дармо што першае адмаўляе другое) савецкі рэжым заўсёды карыстаўся, як прыхваткай, дзеля вынішчэньня беларускіх дзеячоў ды навет звычайных нацыянальна сьведамых сялянаў і работнікаў. З гэткімі ахвярамі сустрэўся ў маскоўскіх Бутырках і Аляхновіч. У ягоных успамінах чытаем: «...сустрэў двух земляцоў, родам зь Вільні, работнікаў шкляное гуты, былых грамадаўцаў. Зачараваныя міражом «сацыялістычнага будаўніцтва», яны перайшлі мяжу, пераконаныя, што знойдуць тут сваю другую — «работніцкую бацькаўшчыну», а знайшлі вастрог... Цяпер вочы іх расчыніліся, яны шкадавалі свайго кроку, клялі агітатараў, тужліва ўспаміналі родную Вільню».

Выменены ўвосень 1933 г. на Аляхновіча, як грамадзяніна польскай дзяржавы, Браніслаў Тарашкевіч праз колькі год загінуў, таксама зьвінавачаны ў тым-жа беларускім нацыяналізьме й польскім шпіянажы. Гэткі лёс напаткаў усіх правадыроў грамады, якую па выгубленьні ейных сяброў сяньня зь ліхадзейнай літасьцяй улучаюць у савецкае ўлоньне.

У дачыненьні да Аляхновіча помсьлівы бальшавізм не ўтаймаваўся. Увесну 1944 г. бальшавіцкія агенты, падступна пранікшы ў памешканьне пісьменьніка, застрэлілі яго на вочах жонкі. Гэтак адабралі жыцьцё ў чалавека, які жыў справаю свайго народу, аддаваў талент на дабро нацыянальнае культуры. І хіба таму, што нельга змайстраваць публічнага апраўданьня гэтае расправы — сам факт забойства драматурга трымаюць у тайніцы.

**Алесь Беразьняк**

---

Ні сюды ты мусіў-бы ехаць на добры лад. Там яно, дзе цябе зямля паіла й карміла сваімі сокамі, дзе цябе выхадзілі рукі тваіх бацькоў, дзе яшчэ ходзяць па зямлі сябры тваe маладосьці. Іх ужо ня шмат, мала ўцалела, але яны ёсьць і чакаюць цябе.

І хаця-ж ён добра ведаў, што ніхто там яго й не чакае, акрамя старых маці й бацькі, што ніводная душа, акрамя іх, ніколі й ня прыгадвае аб ягоным існаваньні, і што толькі гэтыя двое й ходаюцца дзённа й ночна аб ягоным шчасьці і ўдачах ды ўзносяць аб гэтым малітву Усявышняму, ён усё-ж хацеў цешыць сябе думкаю, што яго ня ўсе забылася. За нейкі час маркота па Менску сталася гэткай неадольнай, што ўжо ня было іншага наважаньня, як ехаць у Менск. Дарма, што думка аб забароне жыць там адпужвала ад неадкладнага ажыцьцяўленьня. Адно ўяўленьне аб магчымасьці ўбачыць места, пакінутае ўжо колькі год таму назад, сузіраць хоць кароткі час абамшэлыя сьцены сівых камяніцаў старога гораду, расцалаваць сваіх родных, а пасьля ўволю нахадзіцца роднымі вуліцамі й завулкамі, вымераць зноў крокамі знаёмую Слабаду ды выйсьці на Сухадольск, на сочныя лугі ўздоўж знаёмых зь дзяцінства берагоў, прайсьціся да Весялоўкі ды Кальварышак гэтак завалодала істотаю Алеся, што ўжо на наступны дзень ён ехаў цягніком назад, на поўнач, да месца доўгачаканых сустрэчаў.

### IV

Алесь Бутрымовіч першы раз пасьля колькігодняе разлукі з родным Менскам апынуўся зноў на ягоных вуліцах. І хаця цяпер аж ад самае Пярэспы паўз Старажоўку й далей па вуліцы Горкага да цэнтру гораду людзей вазіў трамвай, ён наважыўся ісьці пехатой. Гэта для таго, каб паўней схапіць абраз старога, так добра яму знаёмага, кажным завулачкам, хацінаю й дрэўцам, а разам і новага гораду, зьдзіўляючага яго колькімі вялікімі камяніцамі, што ўзвышаліся сярод безьлічы драўляных, пачарнеўшых ад часу й асеўшых у зямлю, хацінаў. Алесь ішоў былой Аляксандраўскай вуліцай, па якой ён калісь хлапчуком любіў падкатвацца на концы і за бязьбілетнасьць часта даставаў пугі ад важатых.

Вось і школьны будынак, у якім калісьці ён пачынаў свой школьны век. Даўно ўжо ня ўжываны пад школу, бо з вокан відаць былі карункавыя фіранкі жыхараў, ён здаўся Алесю зусім не такім велічным, якім ён калісьці ўяўляўся. Ён заглянуў у двор, і гэты здаўся яму цяпер малым і цесным. А вось і чырвоныя казармы, у якіх, даўно ўжо гэта было, чырвонаармеец вучыў яго іграць на балалайцы. Сюды-ж яго калісь прывялі былі да лекара запыніць кроў, калі яму аднойчы ў Сьцяпанавым садзе заехалі камнем у голаў і расьсеклі скуру да таго, што чырваньню залівала твар. Ён і цяпер яшчэ на гэтым месцы носіць рубец, схаваны валасамі. Казармы таксама выдаліся цяпер аблупленымі й аблезлымі, пашарэлымі ад часу й запушчанасьці. Праўда, паранейшаму каля дзьвярэй стаяў канваер і пільна сачыў, каб хто пабочны не ўвайшоў без патрэбы. Ягоны суровы, без адзінае адзнакі думкі, твар выдаваў у ім сібірака, прысланага на заходнія рубяжы сьцерагчы цэласьць імпэрскага абшару ад Балтыкі да Ціхага або Вялікага Акіяну.

Алесь мінуў яго з пачуцьцём няпрыязьні да чужое варты, хаця-ж і ведаў, што гэты вартавы не па сваёй волі тут і не сваю, асабістую службу нясе. Мінуўшы, ён уздыхнуў з палёгкаю, нібыта абыйшоў казённы дом. Ягоны зрок зноў прыцягнулі да сябе фіранкі драўляных дамкоў, за якімі хаваўся ад пабочнага вока таемны й непазнаны сьвет жыцьцёвых драмаў і трагэдыяў. Ён употай сям-там і прышчурваў вока, каб хоць на момант убачыць нешта па той бок карункавых фіранак. Аднак мільгне часам які-небудзь дзявочы твар, блісьне на момант блакітнымі або чарнявымі вачыма, прадэманструе сваю русую даўгую касу або страсяне сваёю падстрыжанаю, модна прычэсанаю галоўкаю ды зноў зьнікне ў суцеcнях паміж чатырох сьценаў дамка. Кажная зь іх на момант будзіла ў ім адчуваньне жывога жыцьця, ад якога ён ужо колькі гадоў быў адарваны сілоком чужою навалаю. Кажная сустраканая на вуліцы дзяўчына цяпер будзіла ў ім надзеі на магчымы зварот паўнаты жыцьцёвага шчасьця. Кажны дзяўчынім твар цяпер прыгадваў яму ні з чым незраўнаныя рысы беларускага тыпу, поўны пагоднасьці, мяккасьці, адпаведнай іх асабліваму самабытнаму акцэнту, які ўжо ад Смаленшчыны ў кірунку на Захад адразу вырозьніваў родныя прасторы ад маскоўскага абшару. Алесь заглядаў у вочы кажнай, нібыта хацеў вычытаць адзнаку даўняга знаёмства. Дзе каторыя, заўважыўшы ягоны цікавы зрок, апушчалі долу свае вочы, будзячы ў Алесю яшчэ больш замілаваньня й спагаднасьці да менскае дзявочае красы.

На рагу Міхайлаўскай і Аляксандраўскай ягоную ўвагу да прыгожага роду адцягнулі ўспаміны аб тым дні, калі ён стаяў вось тут на рагу ў 1918 г. і чакаў, пакуль пройдуць абозы нямецкае акупацыйнае арміі. Ішоў першы буйны сьнежанскі сьнег. Вялікія сьняжынкі клаліся на ягоны твар, зьвісалі камякамі з броваў, цяклі павекамі й засьцілі разглядаць зь нязвычнай цікавасьцяй гэтулькі шмат войска, падводаў, цёмнакарых коняй, што цягнулі жэрлы сталёвых ,бліскучых, як люстра, гарматаў. І хаця цяпер перад Алесям ляжала амаль бязьлюдная плошча вулічнага перакрыжаваньня й толькі час ад часу праскакваў паўз вуліцу іскрысты трамвай, ён жыва ўяўляў сабе мінулы абраз. От ён нібыта сяньня стаіць на рагу з вучнёўскім ранцам у руцэ і ўсё чакае й чакае. А абозы ўсё ідуць і ідуць. Ён ужо баіцца, што позьніцца ў школу. Настаўніца, пэўна-ж, ужо зрабіла пераклічку вучняў, а яму ўсё яшчэ замінае крочыць свёю дарогаю гэты нямецкі абоз. І трэба-ж было якраз натрапіць у такі час на гэтую навалу. Цікавасьць назіраньня ўвесь час чаргавалася з думкамі пра спазьненьне ў школу. І хоць да яе было рукою падаць, аднак не прайсьці было аж пакуль ня скончылася тое нечаканае ліха. Затое наглядзеўся ўпяршыню ў жыцьці на гэтулькі збройных людзей, што ўражаньня хапіла на доўга. Галоўка малога хлапца да сяньня ўтрымала бачаны жывы абраз размаху ваеннае машыны.

Алесь запыніўся на момант, агледзіўся на чатыры вуліцы, што тварылі перакрыжаваньне, і пераканаўся, што тут нічога

# Дзень Незалежнасьці ў Нью Ерку

✶ Партрэт Прэзыдэнта Айзэнгаўэра з аўтографам — падарунак Беларусам.

✶ Абвешчаньне Дня Беларускае Незалежнасьці ў штаце Нью-Ёрк.

✶ Абвешчаньне Дня Беларускае Незалежнасьці ў месьце Нью-Ёрку.

✶ Абвешчаньне Дня Беларускае Незалежнасьці ў Брукліне.

✶ Прывітаньні ад кіраўнікоў Рэспубліканскае й Дэмакратычнае партыяў.

✶ Прывітаньні ад міністра працы сп-ра Джэймса Мічэла.

✶ Прывітаньні ад міністэрства земляробства.

✶ Прывітаньні й лісты ад 23-х замежных пасольстваў у Вашынгтоне.

✶ Прывітаньні ад губэрнатараў 8-х амэрыканскіх штатаў.

✶ Прывітаньні ад 22-х сэнатараў, 37-х кангрэсмэнаў, 17-х амэрыканскіх арганізацыяў.

✶ Рэзалюцыя з дамаганьнем да амэрыканскага ўраду ўлучыць вызваленьне Беларусі ў праграму замежнае палітыкі ЗША і да амэрыканскае дэлегацыі ў Задзіночаных Нацыях паставіць на парадак дня Генэральнае Асамблеі разгляд бальшавіцкага генацыду на Беларусі.

### АРГАНІЗАТАРЫ

Удача бадай кажнае ўрачыстасьці й імпрэзы, асабліва гэткае, як угодкі незалежнасьці, калі вонкавая рэпрэзэнтацыя набывае асаблівага значаньня, залежыць у васноўным ад тае сваечасовае працы, якую арганізатары павінны выканаць у часе рыхтавальнага пэрыяду, што пачынаецца яшчэ за колькі месяцаў да самога сьвяткаваньня. Калі меркаваць паводля вынікаў сёлетняга абходу 42-х угодкаў Акту 25 сакавіка, рыхтавальнае працы была перавернута вялікая гара, што дала сябе адчуць толькі пасьля канчальных падсумаваньняў. А займалася гэтай працай Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня пры дапамозе колькіх асобаў збоку ды пры грашовым удзеле Акруговае ўправы БАЗА.

### З БОГАМ

У нядзелю 27 сакавіка Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап БАПЦ Уладыка Васіль, у саслужэньні мітрафорнага пратаярэя а. Хведара й пратаярэя а. Рамана адслужыў сьв. Літургію й Малебен Падзякі. У сваёй казані Ўладыка Васіль адзначыў, што трэба шчыра дзякаваць Усемагутнаму за гэны сьветлы час, калі нашая Бацькаўшчына, 42 гады таму, узьнялася йзноў да свайго незалежнага дзяржаўнага жыцьця. Беларусь набірае крыві й цела, гаварыў Уладыка Васіль, з кажным годам сьвет штораз больш успрыймае справу нашага вызвольнага змаганьня, лічыцца з намі й шануе нас. І ў гэтым — воля Божая, у гэтым зарука, што народ наш здабудзе сваю незалежнасьць.

На багаслужбе быў Прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык, які нядаўна прыбыў на колькі месяцаў у Амэрыку для ўдзелу ў чароднай сэсіі Рады БНР.

### ГОСЬЦІ НА ЎРАЧЫСТЫМ СХОДЗЕ

Папаўдні ў вадным з цэнтральных гатэляў Нью-Ёрку («Білтмор») адбыўся ўрачысты сход. Сьвяткаваньне ўгодкаў беларускае незалежнасьці між іншымі ўшанавалі сваім прыбыцьцём:

Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіяпіскап БАПЦ Уладыка Васіль;
Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіяпіскап Украінскае Экумэнічнае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы Ўладыка Богдан;
а. Ар. Р. С. Модак, старшыня Ўсеіндыйскае Фэдэрацыі Хрысьціянскіх Цэркваў;
а. К. К. Самсон, Індыя;
а. А. Вуйкіў, Украіна;
а. Р. Мельнічэнка, Украіна;
а. Х. Данілюк, Беларусь;
Прэзыдэнт Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Мікола Абрамчык;
Прэзыдэнт Украінскае Народнае Рэспублікі сп. С. Вытвыцкі;
сп. С. Т. Ма, кітайскі консуль;
сп. Фрэнсыс Дорн, кангрэсмэн зь Нью-Ёрку;
сп. Джон Б. Бэрн, асабісты прадстаўнік мэра места Нью-Ёрку;
сп. Клярэнс А. Манінг, прафэсар Калюмбійскага ўнівэрсытэту;
сп-чня Анджэля Ансольдзі, аддзел вонкавае сувязі мэроўства Нью-Ёрку;
сп. Ул. Душнык, Украінскі Кангрэсавы Камітэт;
сп-ня Г. Ротман;
праф. М. Чубаты, Украінскае Навуковае Т-ва імя Шэўчэнкі;
сп. Чарльз Альбэрт МакЛэйн, старшыня Амэрыканскага Т-ва Захаваньня Рэлігійнае, Патрыятычнае й Опэрнае Музыкі;
сп. М. Тэрпак, Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня;
др. Л. Артынскі, УГВР;
сп. Б. Навасардыян, генэральны сакратар Армянскае Рэвалюцыйнае Фэдэрацыі (партыя дашнакоў);
праф. В. Касарэвіч-Касаренка, Украіна;
др. Г. Лівач, Польшча;
сп. Русі Назар, Туркестанска-Амэрыканскае Задзіночаньне;
сп. Л. Дэмбадзэ, старшыня Грузінскага Нацыянальнага Задзіночаньня;
сп. Г. Накашыдзэ, Грузія;
сп. і сп-ня В. Глазкоў, Вярхоўнае Казацкае Прадстаўніцтва на Чужыне;
сп. А. Зубэнка, Украіна;
сп. С. Гапаян, Армянская Рэвалюцыйная Фэдэрацыя.

### ПРЫВІТАНЬНІ (ПІСЬМОВЫЯ)

Да сьвяткаваньня надыйшло шмат пісьмовых прывітаньняў. Прывітаньні прыслалі губэрнатары штатаў: Род-Айлэнду, Аляскі, Вашынгтону, Пэнсыльвэніі, Індыяны, Тэнэсы, Флярыды, Паўночнае Караліны, Калярада.

Губэрнатар штату Род-Айлэнд сп. Крыстофэр Дэль Сэсто напісаў у сваім прывітальным лісьце Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню:

**«Я адчуваю вялікую прыемнасьць, перадаючы свае асабістыя прывітаньні й прывітаньні ад жыхарства штату Род-Айлэнд з нагоды 42-х угодкаў абвашчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.**

**«Урачыстасьць, якую вы адзначаеце, блізкая сэрцу ўсіх амэрыканскіх грамадзянаў, бо незалежнасьць — бадай найбольш значэннае слова ў жыцьці нашага вольнага народу.**

**«Калі, ушаноўваючы незалежнасьць Беларусі, мы задумоўваемся на часіну, мы павінны памятаць таксама пра тысячы людзей, што ўсё яшчэ пад таталітарным панаваньнем, і маліцца за іхняе вызваленьне.**

**Жыхары беларускага паходжаньня выдатна спрычыніліся да прагрэсу Амэрыкі і ў гэты ўрачысты мамэст мы вітаем іх з гордасьцай і пашанай».**

У прывітальным пісьме ад Нацыянальнага Камітэту Рэспубліканскагае партыі Амэрыкі, падпісаным сэнатарам Мортанам, між іншага гаворыцца:

**«Я вітаю ваш высілак у падтрымальньні духу змаганьня за свабоду для беларускага народу, паняволенага камуністычнымі імпэрыялістымі... Камуністыя не падмануць нікога, хто чытае гісторыю. Расейская імпэрыя, кіраваная цяпер камуністымі, пашырылася ад царскіх часоў. Расейская імпэрыя за цара ў вялікай меры была адказная за Першую сусьветную вайну, і расейская імпэрыя пры камунізьме падтрымвала Гітлера ў ягоных намерах пачаць сусьветную вайну. Расейская імпэрыя пагражае Трэйцяй сусьветнай майной».**

У лісьце ад Дэмакратычнае партыі Амэрыкі галава партыі сп. Пол Батлер піша:

**«Нясупынны высілак беларускага народу, аднаго зь першых, што стаўся ахвярай камунізму, але й надалей змагаецца за сваю свабоду, павінен стацца крыніцай натхнення вольным і паняволеным народам сьвету... Я глыбака перакананы, што вашыя паняволеныя браты зьдзейсьняць ізноў свае лятуцеьні аб свабодзе ды здабудуць яе — сабе й сваім нашчадкам».**

Да дня беларускае Незалежнасьці былі атрыманыя таксама прывітаньні ад міністра працы сп-ра Джэймса Мічэла, ад міністэрства земляробства, з колькіх аддзелаў міністэрства замежных справаў, ад старшыні меставае рады Нью-Ёрку сп-ра Эйб Старка, ад 22-х сэнатараў, 37-х кангрэсмэнаў, 17-х амэрыканскіх арганізацыяў ды колькіх іншых грамадзкіх дзеячоў Амэрыкі.

Лісты й прывітаньні былі атрыманыя з Вашынгтону ад дзяржаўных пасольстваў наступных краёў: Аўстраліі, Аўстрыі, Балівіі, Віетнаму, Вялікабрытаніі, Ганы, Галяндыі, Гішпаніі, Індыі, Ірляндыі, Карэі, Лацьвіі, Лібану, Лібэрыі, Лясу, Маляі, Мэксыкі, Нарвэгіі, Саўдаўскае Арабіі, Судану, Францыі, Швэцыі, Эстоніі.

Пасол Судану меўся быць асабіста на сьвяткаваньні, аднак іншыя абавязкі перашкодзілі ягонаму намеру. Дэлегацыя арабскіх дзяржаваў у Задзіночаных Нацыях таксама прыслала прывітаньні, выказваючы салідарнасьць і веру, што «недалёкі дзень, калі Беларусь здабудзе сабе свабоду».

### ПРАМОЎЦЫ

Урачысты сход у гатэлі «Білтмор» адкрыў старшыня Галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. К. Мярляк

(Заканчэньне на 10-ай бачыне)



**Сьвяткаваньне ў Нью-Ёрку (гатэль Білтмор») 27 сакавіка 1960 г. 42-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі**

---

не зьмянілася за даўгі час. Усё тыя-ж абапал вулічных брукаў аднапавярховыя або двухпавярховыя прыгожыя, зь мэзанінамі і расьпісанымі на розныя ўзоры вакяніцамі на вокнах, хаця і пашарэўшыя ад часу, дамкі. Дзе-ня-дзе тыя-ж яшчэ з дарэвалюцыйнае спадчыны лічаныя камяніцы, якіх аднак усё больш было у бок Ніжняга Рынку. Пасьля-ж драўлянага паселішча на месцы выгарэўшых яшчэ за польскай акупацыяй кварталаў, за бальніцаю каменныя камяніцы выціснулі драўляныя забудаваньні.

На рагу Другога Сэмінарскага завулку й Аляксандраўскай ён зноў пабачыў чырвоны гмах свае колішняе сямігадовае школы. Цяпер ужо шыльда абвяшчала, што тут знаходзіцца школа-дзесяцігодка. Зноў у галаве з маланкавай хуткасьцяй пранесьліся ўспаміны пра ўлюбёных настаўнікаў. Успомніўся добры Беларус гісторык Каўпак, беларусавед Кузьма Дзям'янаў, які пакінуў глыбокі сьлед у сьведамасьці; прыгадаўся выхаванец павагі да старэйшых, добразычлівы выкладчык Паляк. У гэтым будынку Ксеня Ігнатава прывіла адчуваньне мастацкага слова. Тут у малое сэрца былі закладзеныя першыя пачаткі любасьці да роднае культуры, вялікага роднага слова Купалы, Коласа, Бядулі, Багдановіча, Цёткі, Гаруна. Адгэтуль пасьля Алесь панёс жар свае маладое душы ў кузьню маладых беларускіх асьветнікаў — Беларускі Тэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага. Прыемныя ўспаміны пра школу й раньняе юнацтва агарнулі душу пешахода з такою незраўнанаю сілаю, што ён ужо ня даў асаблівае ўвагі камяніцам былое Сэмінарыі насупраць Траецкай Гары. А якраз з гэтым месцам лучыліся найбагацейшыя ўспаміны пра прыгоды дзяцінства й маленства. На тым пляцы праходзілі летнія дні ў спартовых зацікаўленьнях і забавах, там лавіліся першыя птушаняткі, што звальваліся з гнёздаў да пары іхняе ўзмужнеласьці. Там каля вайсковага клюбу выраблялiся першыя зацікаўленьні тэатральнаю культураю й мастацкаю самадзейнасьцяй.

Адылі цяпер Алесяў пагляд сьціраваўся да высокага ўзгорку Траецкае Гары, на якой колісь у небазарныя дні ён удзельнічаў у вайсковых гульнях падлеткаў, калі пушчаліся ў ход каменьні, самаробныя шаблі, а галовы многіх удзельнікаў пазьней несьлі на сабе набітыя гузы або доўга незагойваныя шрамы. Алесь прыгадаў пра макабойцаў, старэйшых хлопцаў, сіламі якіх заўсёды ў канцы перамагалася варожая шайка «праціўніка».

Гэтак у палоне ўспамінаў бурнага мінулага маленства Алесь і дайшоў да Сьвіслачы. Тут пастаяў крыху на мосьце, цешачыся прыгадваньнем сваіх рыбацкіх прыгодаў на гэтай калісьці адзінай ведамай яму рацэ. Пасьля адарваў сябе ад сузіраньня родных водаў і неўзабаве апынуўся на Пляцы Волі. Зноў ягоны зрок запаланіла відовішча гэтак добра знаёмай яму Гадзіньнікавай вежы на колішняй Ратушы. О, колькі ўжо разоў у жыцьці раней ён чуў гэты звон, што адмяраў гадзіны, адыходзячы ў вечнасьць, і кажны раз пачуцьці пераносілі яго ў далёкую гісторыю роднага гораду. І цяпер гадзіньнік павольна, з тою-ж рытмічнасьцяй адбіў шостую гадзіну вечара. Людзі выліваліся з розных установаў і натоўпамі напаўнялі прасторы тратуараў.

«У гэты час можна будзе пабачыць шмат каго з знаёмых» — падумаў Алесь і праз Малы сквэрык падаўся да аднае з асяродкавых вуліцаў — на былую Губарнатарскую, цяпер Ленінскую. Пасьля дзённага дожджыку вуліца гэтая выдалася Алесю неяк асабліва ўтульнай, хоць і ўявілася вузейшай у параўнаньні з тэю, якую памятаў яшчэ зь дзяцінства на гэтым месцы. Твары незнаёмых здаваліся яму надзвычай ветлівымі. Шмат людзей чамусьці вельмі й вельмі нагадвалі знаёмых. Часам яму хацелася аж супыніцца, каб затрымаць на сабе пагляд пешахода й змусіць яго прыгадаць былое знаёмства. Але дарэмна, усе міналі яго з звычайнай пасьпешнасьцяй і ня выдавалі анічым ніякіх адзнакаў запазнаньня. «Ды не, гэта мне ўсё здаецца, проста падабенства твараў», — надыходзіла думка цьвярозае ацэны ўражаньняў Алесявае, прагнае на людзей і патрэбу сяброўства, душы. «Яны ўсе падобныя адзін на аднаго, бо, відаць, маё ўспрыманьне беларускага аблічча зацяняе мне індывідуальна-асабістыя рысы многіх зь іх. Пажыву больш у родным краю ня будзе так здавацца, што ўсе падобныя адзін да аднаго. Пачну зь цягам часу вастрэй вылучаць непаўторныя адзнакі кажнае асобы. А гэта ў мяне цяпер пэўна ад экзальтацыі пачуцьця радасьці спатканьня з усім родным».

### V.

Алесь павярнуўся да вітрыны крамы мастацкіх вырабаў і пачаў разглядаць шматкаляровыя арнамэнтаваныя паясы работы новых беларускіх майстроў. Ён ужо пачаў быў радавацца, што не перавялася яшчэ народная мастацкая традыцыя, і беларускі гэамэтрычны арнамэнт пасьля колькіх гадоў перасьледу зноў запанаваў на рэчах, робленых рукамі простых сялянак з Гомельшчыны, Случчыны й Меншчыны. Яго цешыла няўміручасьць народнага мастацкага духа. У момант гэтых думак на дальшым, адбітым шклом вітрыны, фоне Алесь убачыў высокую, выразна знаёмую постаць маладога чалавека. Фэтравы капялюш упрыгожваў ягоны самавіты голаў, а стройна падбітыя плячукі шэра-попельнага гарнітуру выгадна вылучалі ягоную фігуру сярод іншых таптальнікаў ходніку на іншым баку вуліцы. Алесь павярнуў твар туды, дзе йшоў гэты дзіўна-знаёмы яму чалавек. О, так, няма сумлеву, гэта ніхто іншы, як ягоны найлепшы сябра, Базыль Спалахоўскі. Ён павольнаю хадою чалавека, які ведаў сабе цану, уздоўж вітрынаў кіраваўся ў бок Алеся, вядучы пад руку маладую, чарнявую, у пярэстым убраньні жанчыну. Яна часінка па часінцы заглядала лісьліва ў ягоны твар і нібыта чытала там аб ягонай вернасьці сваёй жонцы. Яны гэтак сама спыніліся на іншым баку каля гадзіньнікавае вітрыны, і жанчына досыць доўга штосьць шчабятала, блізка нахіляючыся да ягонага пляча. Яна яму была толькі ледзь-ледзь вышэй пляча; ён пакорліва нахіляўся да яе, каб ня змушаць яе надрываць голас сярод шумлівага натоўпу гэтае неспакойнае рухлівае вуліцы.

Алесь пільна ўглядаўся ў постаць і твар Базыля, свайго колішняга сябры, і ледзь пазнаваў у ім таго самага, якім ён

# Дзень Незалежнасьці ў Нью Ерку

(Заканчэньне зь 9-ай бачыны)

На самым пачатку ён паказаў на партрэт Прэзыдэнта ЗША Айзэнгаўэра, паясьняючы, што гэта партрэт аўтаграфаваны Прэзыдэнтам для Беларусаў да іхнага Дня Незалежнасьці.

У сваёй уступной прамове прэлегент зьвярнуў увагу на некаторыя палітычныя парадоксы Заходняга сьвету ў дачыненьні да вызвольных рухаў паняволеных Масквой народаў ды на гэтым фоне адзначыў гэраічную наважанасьць творцаў Сакавіковага Акту. «Толькі цяпер, — гаварыў прамоўца, — пакаленьне пазьней, мы можам зразумець значэньне Акту 25 сакавіка й ацаніць імкненьне беларускіх дзяржаўных мужоў да аднаўленьня дэмакратыі на руінах таталітарнага рэжыму царскае Расеі ды іхны гэраізм у вабароне незалежнасьці Беларусі перад новай загрозай з боку расейскага імпэрыялістычнага камунізму».

Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык даў зыркі вобраз пэрманэнтнага змаганьня беларускага народу за сваю дзяржаву. Сваю прамову ён ілюстраваў цэлым радам фактаў зь гісторыі нашага вызвольнага руху. Прэзыдэнт расказаў пра першыя гады беларускага дзяржаўнага будаўніцтва, калі маладая беларуская Рэспубліка паступова замацоўвала пазыцыі на міжнародным грунце; калі (да канца 1924 г.) дыпляматычныя місіі й консуляты БНР дзеілі ў Бэрліне, Празе Чэскай, Гданску, Капэнгазе, Парыжы, Сафіі, Істамбуле, Летуве, Лацьвіі, Фінляндыі; калі замежныя пашпарты БНР візаваліся бадай усімі дзяржавамі сьвету, улучна з Задзіночанымі штатамі Паўночнае Амэрыкі.

Прэзыдэнт Абрамчык расказаў, як напружана й пасьпяхова праводзілася беларускае дзяржаўнае будаўніцтва да яго зьнішчальнага акцыю супраць гэтае справы павяла чырвоная Масква. Аднак, беларускі народ не пакарыўся; факты змаганьня й супраціву на працягу ўсіх 42-х гадоў выразна даводзяць, што дух свабоды застаўся нязломным аж да сяньняшніх дзён, бо й дасюль расейскія акупанты на Беларусі выяўляюць у лясох партызанаў; у сваіх радакцыях, ды ў партыі й камсамоле — «буржуазных нацыяналістых», а ў вёсках і калгасах — «сабатажнікаў». Сваю прамову Прэзыдэнт БНР закончыў гарачым заклікам верыць у канчальную перамогу змаганьня беларускага народу за свае неад'емныя правы на суверэннасьць.

У кароткіх прамовах Беларусаў віталі із сьвятам: асабісты прадстаўнік мэра Нью-Ёрку сп. Джон Бэрм (дастаўчаючы праклямацыю Дня Незалежнасьці ад мэра Р. Вагнэра), кангрэсмэн Фрэнсыс Дорн, Прэзыдэнт Украінскае Народнае Рэспублікі С. Вытвыцкі ды польскі прадстаўнік др. Г. Лівач, які, між іншага, сказаў, што Беларусы маюць багатую старажытную культуру ды што першы польскі кароль Уладыслаў Ягайла быў беларускага роду й гутарыў выключна пабеларуску на сваім каралеўскім двары ў Кракаве, польскае мовы зусім не ведаючы.

Кангрэсмэн Дорн сказаў, што калі пяць гадоў таму у Амэрыканскім Кангрэсе вельмі мала ведалі пра беларускі вызвольны рух, дых сяньня няма ўжо таго сэнатара ці кангрэсмэна, які-б пра гэтую справу ня быў паінфармаваны. Гэта найлепш паказвае, сказаў ён, якая вялікая праца была праробленая беларускай эміграцыяй Амэрыкі за апошнія пяць гадоў.

Кангрэсмэн Ф. Дорн заклікаў Беларусаў ЗША разбудоўваць далей беларускія школы, узгадоўваць у беларускім духу маладое пакаленьне, перахоўваць свае нацыянальныя традыцыі, мову, культуру, веру.

### РЭЗАЛЮЦЫЯ

**паданая Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем Амэрыкі (БАЗА) й прынятая аднагалосна на масавым сходзе з нагоды 42-х угодкаў Беларускае Незалежнасьці 27 сакавіка 1960 году ў гатэлі «Білтмор» у Нью-Ёрку.**

**ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО беларускі народ, адна зь лічных ахвяраў агрэсіі камуністычнае Расеі, гвалтам пазбаўлены свае нацыянальнае сувэрэннасьці, рэлігійнае, палітычнае, сацыяльнае, культурнае й эканамічнае свабоды, ды падданы цяпер нялюдзкаму палітычнаму рэжыму ўціску, тэрору, масавых дэпартацыяў, русыфікацыі, эканамічнага нявольніцтва й каляніяльнае эксплятацыі;**

**ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО, як выяўляе савецкі перапіс жыхарства 1959 г., Беларуская ССР за мінулыя 20 гадоў паказвае недалік 5.800.000 жыхароў, з чаго 2.000.000 прыпадае на ахвяры Другое сусьветнае вайны, рэшта — недалік 3.800.000 жыхароў, — гэта беспасярэдні або пасярэдні вынік пляновага нарадагубнае палітыкі чырвонага расейскага імпэрыялізму, праводжанае з мэтай вынішчэньня беларускага народу;**

**ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО сучасны ўрад Беларускае ССР і яго́ная дэлегацыя ў Задзіночаных Нацыях, будучы не дэмакратычна выбраным прадстаўніцтвам беларускага народу, а толькі выканальнікамі волі расейскае каляніяльнае адміністрацыі, ня будуць — дый ня могуць — заступаць і бараніць беларускага народу —**

**ПАСТАНОЎЛЕНА, што сход звярачаецца да Прэзыдэнта, Дзяржаўнага Сакратара (міністр замежных справаў — Рэд.) і да сяброў Амэрыканскага Кангрэсу з просьбай зрабіць усё магчымае,**

**1) Каб вызваленьне Беларусі й іншых паняволеных расейскім камунізмам краёў было ўведзена ў праграму амэрыканскае замежнае палітыкі ды ў вабмеркаваньне канфэрэнцыі на найвышэйшым узроўні;**

**2) Каб урад Задзіночаных Штатаў Амэрыкі не ўваходзіў у ніякія пагадненьні, якія даравалі-б былыя, сучасныя ц будучыя акты савецкае агрэсіі.**

**ПАСТАНОЎЛЕНА прасіць амэрыканскага прадстаўніка ў Задзіночаных Нацыях дастойнага Гэнры Кабот Лёджа ды ўсіх прадстаўнікоў народаў вольнага сьвету зьвярнуць увагу Генэральнае Асамблеі ЗН на факт масавага вынішчэньня беларускага народу, праводжанага ўрадам СССР на чале зь Мікітам Хрушчовам, абвінавачваючы яго ў яўным парушэньні Канвэнцыі ЗН ад 1948 г. у справе міжнароднага злачынства генацыду — з мэтай прыцягнуць урад СССР да адказнасьці ды забясьпечыць безбаронны беларускі народ ад далейшага выгубленьня.**

**ПАСТАНОЎЛЕНА, што мы й надалей будзем падтрымваць урад Задзіночаных Штатаў у яго́ных намаганьнях трывалага міру, забясьпечваючы свабоду й справядлівасьць усім людзём і народам сьвету.**

### КАНЦЭРТ

Выццам водгук на заклік кангрэсмэна Дорна захоўваць беларускую культуру была мастацкая частка ўрачыстага сходу. Нязвычайна мілае ўражаньне зрабілі дзеткі спадарства В. Кажаноў (Маргарытка — 5 гадоў і Юлька — 3 гады) дэклямацыяй трох вершаў. Хораша выступілі таксама два «вэтэраны» дэклямацыі Юлік Мярляк і Юрка Курыла.

У песеннай частцы выступілі сп-ня Л. Маркоўская, сп-чна К. Ярашэвіч і праф. Э. Зубковіч (акампаніямэнт). Сп-ня Л. Маркоўская выканала арыю з опэры «Усяслаў Чарадзей» (муз. М. Куліковіча, сл. Н. Арсеньневай) і вальс «Майскім сонцам» кампазытара Барысаўца. Сп-чна К. Ярашэвіч пра́пяяла «Калыханку» (муз. А. Карповіча) і «Ручаінку» (муз. Э. Зубковіч). Упярш ыню, і вельмі ўдала, маладыя сьпявачкі выступілі ў дуэце, выконваючы «Ой, ты край мой залаты» (муз. Э. Зубковіч, сл. Р. Крушыны) і раманс «Кволай краскай» (муз. Барысаўца, сл. Л. Геніюш).

Урачысты сход закончыўся беларускім нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Пасьля было прыняцьце: пачостка, гутаркі ды замацаваньне знаёмстваў і прыязьні.

Сябры Згуртаваньня Беларускае Моладзі распаўсюджвалі на сьвяткаваньні свае сьвежыя выданьні: «Беларускую Моладзь» № 5, «Як навучыцца чытаць пабеларуску» (у ангельскай мове) ды юбілейныя маркі Слуцкага Паўстаньня.

**А. Будзіч**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

# Крызыс беларускага савецкага тэатру

Сярод прапагандные словахвалы дасягненьняў і посьпехаў савецкага жыцьцяп ў розных галінах, у тым ліку й беларускага савецкага мастацтва, што асабліва робіцца трскучай у канцы й пачатку году (у сувязі із справаздачнымі тэрмінамі), у савецкім друку трапіцца іншы раз і здаровая аб'ектыўная думка, якая крытычна ставіцца да сучасных зьяваў беларускага жыцьця.

Гэтак у вадным з апошніх нумароў «Літаратуры і Мастацтва» (за 16. 1. 60) зьявіўся артыкул Я. Рамановіча «Думкі аб тэатры», які, ня гледзячы на імкненьні й старанні абыйсьці вострыя месцы, сьветчыць аб вельмі цяжкім становішчы ў беларускім савецкім тэатры. «Людзі выходзяць са спэктаклю абыякавымі, з такім выглядам, нібыта просяць прабачэньня за тое, што прыйшлі ў тэатр», — гаворыцца ў успомненым артыкуле. На сучасныя п'есы навет работнікі, дзе вядзецца сталая прапаганда, адмаўляюцца браць тэатральныя білеты:

— Не, не пайду!

— Чаму? Гэта-ж пра вас рабочых.

— Сусед па варштаце кажа, што ня цікава.

Крытык жаліцца, што больш заўважныя пастаноўкі ўзьнікаюць у часы юбілеяў, а ў будні тэатры запоўненыя «звычайнымі шэрымі спэктаклямі, якія вельмі мала даюць і сэрцу і розуму глядача».

Тут трэба яшчэ зрабіць папраўку аб'ектыўнага парадку, што навет і юбілейныя й сьвяточныя спэктаклі беларускіх савецкіх тэатраў у мастацкіх дачыненьнях нічым ад іншых не адрозьніваюцца, а толькі штучна, прапагандовым «бумам» узносяцца на вышыню дасягненьняў. Так, скажам, было амаль што з усімі п'есамі й пастаноўкамі, што ў юбілейныя даты 1957 і 1959 гг. (40-ая гадавіна Кастрычніка й 40-ая гадавіна БССР) былі прэміяваныя й расхваленыя, а пасьля сьвяточных дзён ператвараліся ў шэрыя й недасканалыя, а то й у зусім слабыя, хутка зьнятыя із сцэны спэктаклі. Дастаткова ўспомніць тут «Сьвятло з Усходу» П. Глебкі, «Дні нашага нараджаньня» І. Мележа, «У бітве вялікай» А. Маўзона, «Год зьдзяйсьненьня» П. Васілеўскага й іншыя.

Аўтар артыкулу ня хоча, ня можа шчыра сказаць нам, што падобнае становішча ёсьць ня толькі адзнакай апошніх год, але хранічна цягнецца аж ад 30-ых гадоў, калі былі нішчаныя здабыткі нацыянальнага беларускага мастацтва. Паймення гэтая прычына й была аснаўною й істотнаю, якая прывяла беларускую савецкую драматургію й тэатр у сьляпы завулак. З году ў год «Літаратура і Мастацтва» падае голас аб адставаньні, вялікіх цяжкасьцях, шэрасьці, прымітывізьме, адсутнасьці майстэрства (артыкулы й заўвагі Крапівы, Рамановіча, Шарахоўскага, Есакова й інш.). Ды і як ня крычаць тут, калі адна за адною беларускія савецкія п'есы церпяць няўдачы ў тэатрах і дыскрэдытуюцца ў вачох глядача. Варта прывесьці тут хоць-бы факты штогодніх правалаў беларускіх нацыянальных пастановак або іх адсутнасьць на прыбалтыцкіх тэатральных вёснах 1957, 1958 і 1959 году, на юбілейных фэстывалях 1957-58 году.

Хто вінаваты ў гэтым, што яшчэ ня так даўно слаўны беларускі тэатр, цяпер апынуўся каля разьбітага карыта? Тэатры вінавацяць драматургаў, драматургі рэжысараў і актораў. Толькі ніхто не адважваецца паказаць запраўднага віноўніка й злодзея — **савецкі рэжым, тэатральную палітыку бальшавікоў.** Але як не замоўчваць гэты факт, ён усё-ж такі прабіваецца скрозь ілжывую прапаганду натхненьня ад сучасное тэматыкі. Думкі крытыкаў і глядачаў, акажваецца, ідуць у мінулае: «Раней было лепш!» Дзе-ж драматургі, дзе рэжысуры? «Зьбяднела думка... Мала творчай вынаходлівасьці!»

Драматург К. Крапіва на нарадах свае сэкцыі выступае, як чалавек вельмі заклапочаны лёсам беларускага нацыянальнага тэатру, дзе працавалі таленавітыя рэжысары (Міровіч, Міцкевіч, Зараў і іншыя) і акторы (Крыловіч, Грыгоніс), жаліцца на адсутнасьць цяпер выхаваньня маладых беларускіх кадраў, абыякавасьць да беларускіх спэктакляў («Літаратура і Мастацтва» за 22. 3. 1958). Вельмі паказальны факт, што ўзноў адводзіць нас у мінулую дзейнасьць беларускага тэатру.

Крытык Рамановіч у вышэй названым артыкуле з захапленьнем арыентуе тэатральную грамадзкасьць на «не такую ўжо выдатную п'есу, як «Гута», зь якой ведамы беларускі рэжысар Міровіч зрабіў шэдэўр, якім захапляліся ў Беларусі, Украіне і ў Маскве». «Ці той цяпер рэзананс і маштаб», — пытае крытык.

(Заканчэньне на 11-ай бачыне)

### ЧАРГОВЫ НАСТУП РАСЕЙШЧЫНЫ

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

русыфікацыі. Як ведама, гэтая рэформа прадбачвала неабавязковасьць вывучэньня роднае мовы ў нацыянальных школах, праўдзівей дапушчаўся «свабодны выбар» **для вучняў і бацькоў. Яна** прадбачвала таксама й «свабоднае» прыняцьце гэтае рэформы нацыянальнымі рэспублікамі. Карыстаючыся гэтай «вольнасьцяй» выбару, Азэрбайджан і Латвія прынялі закон, што ў іхніх рэспубліках павінны быць абавязковымі дзьве мовы — родная й расейская. Іншыя нацыянальныя рэспублікі адразу прынялі прапанову Масквы, прадбачваючы, відавочна, непажаданыя вынікі... і запраўды, як аказалася, Азэрбайджан і Латвія сталіся «дзяржаўнымі зраднікамі». **Яны сталі на нацыяналістычны шлях».** У сувязі з гэтай «здрадай» у Азэрбайджане пасьпяшылі адхіліць ад дзейнасьці папярэдні ўрад і некаторых партыйных дзеячоў, прыняць новы закон аб **неабавязковасьці роднае мовы** ды наагул назваць папярэднюю пастанову «нацыяналістычнай» і г. д. Расейская-ж мова й для Азэрбайджану становіцца «другой роднай мовай».

Такім чынам усюды навісае цяпер цень жудаснае расейшчыны й дэнацыяналізацыі. Затое Хрушчоў за межамі Савецкага Саюзу ўсюды ўзьвялічае Расею й расейскі народ, «гэраічнае мінулае» Расеі.

**П. Залужны**

---

яго ведаў колькі гадоў таму назад. Нешта ўжо фанабэрыстае адчуваўся ў ягонай самавітасьці. Ён стаў важным і горда нёс высака свой задзірысты галаў. Літаратурныя посьпехі за апошнія гады зрабілі яго ўжо чыноўнікам літаратурнага адзьдзелу дзяржаўнага выдавецтва. Становішча яго абавязвала. Алесь ведаў аб гэтым, але ён нiяк ня мог думаць, што лепшы сябра міне нагоду сустрэцца з тым, якому давяраў калісь свае лепшыя юнацкія пачуцьці. У галаве Алеся зноў паўсталі жывымі іхныя начныя заседжаньні да раніцы, гарачыя развагі пра лёс роднае літаратуры. «Няўжо ён ня выдасьць сваю радасьць з прычыны такое сустрэчы? Гэта-ж здавалася, было шчырае, даверлівае сэрца, поўнае патрэбы сяброўскае лучнасьці. Пэўна-ж, ён адразу ўхмыльнецца й пойдзе мне насустрач з шырокай адкрытай усьмешкай на вуснах», — думаў Алесь.

Ён зь нецярплівасьцяй моманту, каб іх погляды сустрэліся. І гэта здарылася. За часінку Базыль адараваўся ад гадзіньнікавае вітрыны й скіраваў зрок на супроцьлежны бок вуліцы. Відаць сямейная пара надумала перайсьці вуліцу да іншых крамных вокан. Яны ўжо намерваліся ступіць з свайго тратуару на каменны брук, як Базылёвы вочы раптам напаткалі пільны Алесяў зірк. На момант абодвы застылі ў нерашучым чаканьні. Застыглы ад зьдзіўленьня твар Спалахоўскага ў першы момант выдаў нязвычнае хваляваньне ад нечаканага спатканьня. Відаць, у чалавека прабудзіліся былі на момант спогады пра колішнія вечары шчырых гаворак, калі маладое сэрца знаходзіла сабе патрэбную духовую асалоду ў беспасярэдніх ураджаньнях ад тагачаснага літаратурнага жыцьця. Пэўна-ж, цяпер яно ня мае такое нагоды шчырасных бяседаў аб усім, што на душы ляжыць. Але гэтае першае рэагаваньне было глыбака захавана выпрацаваным жыцьцём умоўным рэфлексам перасьцярогі. Яно яму й падказала зацінуць далей свае беспасярэднія пачуцьці, закідаць іх знадворнай абыякавасьцю, выставіць напоўерх уяўнае непазнаваньне. За момант ягоны твар выдаваў зьбянтэжанасьць, за якою наступіла знадворная ўраўнаважанасьць. У той момант, калі Алесь пачынаў ужо быў да адкрытай вясёласьці вачэй дадаваць шырокую ўсьмешку вуснаў, што вось-вось гатовы былі выгукнуць Базылёва імя, і з расчыненымі рукамі зьбірацца рушыць насустрач сябру, Базыль стрымаў ужо закінуты на брук крок сваё правае нагі, павольна й неяк нібыта вінавата адвёў вочы ў бок. Ён штосьці ціха шапнуў на вушы сваёй жонцы, і яны ўжо абодвы выразна адмовіліся ад свайго намеру йсьці на Алесяў бок. Замест гэтага яны шпарчэй закрочылі ўздоўж свайго-ж тратуару, не аглядаючыся назад, нібыта адчуваючы на сабе ўсьлед дакараючы зрок Алеся. І муцісь доўга яшчэ ён сьвідраваў ім плечы й галаў, бо нешта-ж ужо аж подбегам яны дапялі першага рогу вуліцы й маланкава зьвярнулі на Захараўскую.

У Алесявых вачох раптам пацямнела. Яму проста ня верылася, што гэта магло здарыцца.

Горка і моташна зрабілася раптоўна на сэрцы. «Вось яно як сустракаюць сябры сваіх таварышоў, колішніх выгнанцаў. Адвярнуўся той, за каго раней, здавалася, голаў паклаў-бы, ручаючыся за вернасьць сяброўству», — агарталі Алесяву галаву ліхія думкі. — «Спужаўся, што гаворка з выгнанцам можа пашкодзіць ягонай рэпутацыі. Збаяўся, каб хто не заўважыў і не давёў начальству. Службовая кар'ера вышэй за ўсе чалавечыя прыхільнасьці. Як-жа, ён мусіць быць ідэялягічна чыстым й вытрыманы, а дотык да ідэйна-пракажонага можа яшчэ, чаго добрага, натварыць бяды. Як-бы чаго ня вышла. Эх ты, агідны век, творца салтыкоў-шчэдрынскіх прамудрых пячкуроў і келбаў. Як горка жыць на гэтым сьвеце. Усе няшчасныя рабы рабаўласьніцкай улады! Усе шпіёны, кажны шпіёніць за іншым і ад шпіёнаў няма ратунку. Вось ён плён вялікае ідэі вызваленьня чалавецтва ад ланцугоў заняволеньня чалавекам. Трапілі ў такую няволю грамады, што ўжо й ратунку няма чалавечым ясакасьцям. Канец чалавеку ў гэтай ненавіснай нявольніцкай сыстэме!» — абагуліў Алесь свае гнеўныя высновы з гэтага нешчасьлівага здарэньня ў ягоным звароце.

«імкнуўся ўсімі столкамі душы да спатканьня з роднымі берагамі. А яны абярнуліся найгоршымі чужымі пустэльнямі, у якіх і запраўды чалавека ўдзень ізь сьвечкай ня знойдзеш. Двуногіх — безьліч, а добрае душы — ані адзнакі. Прайшлі часы, калі Пушкін сам наведаў Пушкіна ў выгнаньні. Цяпер ня то што ў выгнаньні, але ў родным горадзе нат былога выгнанца цураюцца, як агню, каб самому не абсмаліцца. Небясьпечная хвароба — палітычны выгнанец. На ўсё жыцьцё, відаць, нясе ён у сабе шкодныя бацылы крамолы. От запалохалі ўсіх, дык запалохалі. Хто гэта мог падумаць, што сябра ня хоча бачыць сябру, калі той збочыў быў часова ў бядзе. Так, так, няпрыязна сустрэлі мяне тыя, на каго пакладаў надзеі, зь кім першы раз за доўгія гады хацеў пагаварыць душа ў душу. Абяздушыліся родныя берагі, перасталі грэць самотнага й знудзелага па бацькаўшчыне выгнанца».

«Зь кім цяпер пагаворыш, ты, усім чужы й нікому непатрэбны ў месьце свайго маленства. Каму раскажаш тое, што цемраю агартае цяпер душу й сэрца. Толькі й засталіся адны бацькі старыя ўва ўсім горадзе, якім можна расказаць гэта. А па-за гэтым — ніводнае сяброўскае душы ўва ўсім колькісоттысячным горадзе. Такая ўжо, відаць, наканавана доля выгнанцу зь Беларусі, што ён мусіць век блукаць, як няпрытомны ў вадзіноце й зь нязжытым сумам.

### VI.

Ня ведаў Алесь таго, што рабілася на душы Базыля Спалахоўскага, пасьля таго, як той спалоханым зайцам уцякаў з поля бойкі ад выявы сяброўскіх пачуцьцяў. А можа, каб ведаў, і не праклінаў-бы гэтак сваю горкую долю й не наракаўбы на няпрыглядны лёс віртанца ў родны кут. Заўчаснасьць суровых высноваў яму зробіцца зразумелай толькі пазьней. А гэтым разам ягоныя вочы ўжо не глядзелі больш на людзей. Паглыблены ў свае развагі, ён сунуўся хмараю сярод натоўпу й павольна прапіскаўся ў ім да тае-ж Захараўскай. Ля рогу ён зьвярнуў налева й пакрочыў ходнікам, бліжэй да сьцены, у вадваротны Спалахоўскаму бок.

**Далей будзе**

# Мой удзел у археалягічнай экспэдыцыі

Археалёгія дае ключ для разуменьня старажытных культураў. У Эўропе, Афрыцы, Азіі, Амэрыцы археалёгі адкрылі загінутыя культуры, якія некалі красавалі ў сіле й прыгастве, але якія ўканцы агнём і мечам былі вынішчаныя. Тысячагодзьдзямі ляжалі яны закрытыя зямлёю, забытыя ўсімі людзьмі.

Амаль заўсёды адкапаныя археалёгамі помнікі прыносілі чалавецтву новыя веды аб гэтых культурах, больш дакладныя, чымся сьветчаньні старажытных гісторыкаў ці падарожнікаў, якія жылі шмат бліжэй да тых часоў.

Гісторыя старажытнасьці Беларусі, мала дасьледаваная, нярэдка хвальшаваная або вельмі тэндэнцыйна насьвятляная расейскімі й польскімі навукоўцамі, чакала на сваіх дасьледчыкаў.

Гэта разумелі нашыя нацыянальныя лідэры й навукоўцы. І ў пару 20-х гадоў, калі на момант здавалася, што для беларускіх навукоўцаў настала мажлівасьць самім вывучаць свой край, Інстытут Беларускае Культуры (пазьней рэарганізаваны ў Беларускую Акадэмію Навук) прызначыў вялікія сродкі на вывучэньне беларускіх архіваў, на археалягічныя раскопкі.

Увесну 1928 году я пачула, што ўлетку адбудзецца археалягічная экспэдыцыя. Навуковыя працаўнікі Інбелкульту Канстанцін Палікарповіч, Аляксандар Ляўданскі й Сяргей Дубінскі пасылаліся на раскопкі стаянкі палеаліту каля сяла Бердыжа Чачэрскага раёну, а таксама на раскопкі некаторых гарадзішчаў і курганоў на Сожы й Дняпры.

Да гэтае экспэдыцыі рыхтаваліся й мае сябры з унівэрсытэту — Сяргей Шутаў, Мікола Ўлашчык і Алесь Каваленя. Кажны з гэтых хлапцоў меў ужо дасьветчаньне ў археалёгіі й навет невялікія друкаваныя працы. Праўда, Сяргей быў студэнт-мэдык, але ўвесь свой вольны час аддаваў археалёгіі. На летніх вакацыях, разам із Міколам і Алесем — студэнтамі-гісторыкамі, вандраваў ён пехатою па Беларусі, занатоўваючы курганы, гарадзішчы для ўкладаньня археалягічнае карты, ці прымаў удзел у археалягічных раскопках. Іхныя апавяданьні аб папярэдніх экспэдыцыях захаплялі мяне, і я мела вялікае жаданьне паехаць у экспэдыцыю.

Экспэдыцыя набліжалася. Трэба было штось рабіць, каб трапіць у яе. З навуковых працаўнікоў, што яе ачольвалі й ад якіх залежыў мой удзел, я ведала асабіста толькі Сяргея Дубінскага. У 1926—1927 годзе група студэнтаў пад ягоным кіраўніцтвам укладала бібліяграфічную картатэку з археалёгіі. Некаторы час у гэтай групе працавала й я.

Мы працавалі ў невялікім пакоі на другім паверсе Дзяржаўнае Бібліятэкі. Пакой мясьціўся за заляй для навукоўцаў і студэнтаў-дыплёмнікаў. Часта, скончыўшы працу, мы не сьпяшаліся разыходзіцца. Іншы раз далучаўся да нас хтось із дыплёмнікаў. Усе мы расьлі й фармаваліся духова ў пару жорсткіх гістарычных канфліктаў. Шмат пытаньняў хвалявала нас. Там пачула я праўдзівы неафіцыйны пагляд праф. Пічэты на марксізм. Казалі, што ў васяродзьдзі блізкіх людзей ён выказаўся: «Марксізм стаўся ў нас догмай. А дзе дагматызм — там нішчыцца навука. Нашая гістарычная навука пад пагрозай». «Ці-ж толькі навука пад пагрозай? — разважалі мы. — Нашае жыцьцё, нашае нацыянальнае існаваньне пад пагрозай. Рэальная вартасьць жыцьця падмяняецца камуністычнай дэклямацыяй. Ці пераможа нацыянальны пачатак, ці задушыцца ў лябірынце бальшавіцкага цынізму?»

Дубінскі часта заставаўся «пасядзець» з намі таксама, але пакуль тэма была не археалягічная, ён больш маўчаў. Ён быў чалавек гадоў сарака. Маленькі, шчуплы, вельмі блізказрочны, глядзеў ён на сьвет задуменна, праз тоўстыя шкельцы акуляраў. Няраз здавалася, што глядзіць ён на цябе й не пазнае, быццам жыве ён у іншым сьвеце. Аднак, калі хто пытаўся ў яго аб чымсь з археалёгіі, ягоны твар пачынаў сьвяціцца. Тлумачачы, ён выцягваў зь кішэні чарапкі, крамні. «Хадзячы музэй», — жартавалі мы паміж сабою, але ставіліся да яго з пашанаю. Мы адчувалі, што ён вельмі самотны й цешыцца, калі хто із студэнтаў адведае яго.

Ён меў невялікі пакоік, завалены кніжкамі й археалягічнымі выкапнямі. Першае ўражаньне ад пакою было, што ў ім няма ніякага парадку, і на ўсім ляжыць тоўсты пласт пылу. Але, калі аднойчы мы, дзяўчаты-студэнткі, ветліва прапанавалі навесьці крыху парадак, Дубінскі разгневаўся.

— Бяда, калі жанчына зьявіцца ў хаце, — выгаварваў ён нам. — Далей парадку яна нічога ня бачыць. І ў той дзень мы даведаліся, што, ня гледзячы на знадворную хаатычнасьць і пыл, у пакоі кажная рэч, кажны чарапок мелі сваё непарушнае месца.

Мы бачылі ў яго на палічках Віргілія, Гарацыя, Авідзія й ведалі, што ён меў звычай у хвіліны адпачынку чытаць старажытных аўтараў. Ягоныя дасканалыя веды з лацінскае мовы, ягоную дабрату іншы раз і выкарыстоўвалі.

Памятаю, для сэмінара я працавала над тэмай аб гандлёвых дачыненьнях Літвы із Заходняй Эўропай у пачатку XV стагодзьдзя. Трэба было перачытаць умовы, напісаныя палацінску.

— Я зусім заблыталася з «Liber Transitus», — скардзілася я Дубінскаму з надзеяй, што ён ператлумачыць мне тэкст.

Я не памылілася. Дубінскі дапамог мне. І цяпер я пастанавіла таксама прасіць яго дапамагчы мне трапіць у экспэдыцыю.

Лягчэй за ўсё было спаткаць Дубінскага ў Дзяржаўнай Бібліятэцы. Я накіравалася туды. Мне пашанцавала. Я ўбачыла яго ў залі для навукоўцаў. Ён, як і заўсёды, чытаў, нізка схіліўшыся над кніжкай, і не заўважваў нікога. Я ўзяла кніжку таксама, села за стол побач і чакала, пакуль ён ня скончыў чытаць.

Зь бібліятэкі мы выйшлі разам.

— Я хачу з вамі пагаварыць, —сказала я. — Вельмі важная справа для мяне.

— Ізноў лацінскі тэкст? — усьміхнуўся ён.

— Не, археалягічная экспэдыцыя, — із запалам сказала я. — Я хачу ў яе трапіць, і толькі вы можаце мне ў гэтым дапамагчы.

Дубінскі некаторы час нічога не адказваў ,і сэрца маё замерла ад думкі, што ён адмовіць.

— Ці ня будзе гэта для вас зацяжка? — нарэшце запытаўся ён.

— Я абсалютна пэўная ў сабе, і ні працы, ні гарачыні, ні дажджу — нічога не баюся, — сьпяшалася я запэўніць яго.

— Усё роўна, іншы раз вы будзеце адчуваць сябе вельмі стомленай... Выгодаў ніякіх... Спыняемся мы па сялянскіх хатах...

— Гэта я ўсё чула ад хлапцоў, — перабіла я яго. — І, ведаеце, ніколі ня думаеш аб цяжкасьцях, калі запраўды чым-небудзь цікавішся.

— Ваш удзел залежыць ня толькі ад мяне, але добра, я пагавару аб вас із Палікарповічам і Ляўданскім, — паабяцаў ён.

За некалькі дзён Дубінскі паведаміў мяне, каб я зьбіралася.

У экспэдыцыю мы выяжджалі зь Менску на Буда-Кашалёва вечаровым цягніком. Спаткаліся ўсе на станцыі. Ня было з намі толькі аднаго. Янкі Калодкіна, сябры, здаецца, Бабруйскага Акруговага Краязнаўчага Таварыства. Ён далучыўся да нас пазьней, недзе ў дарозе.

У той вечар я пазнаёмілася із Палікарповічам і Ляўданскім. Я бачыла іх і раней на паседжаньнях Археалягічнае Камісіі Інбелкульту, слухала іхныя рэфэраты.

Людзі кажуць, што аблічча чалавека — гэта адбітак ягонага характару. Мне гэта асабліва прыгадалася, калі я ў той вечар спаткалася ізь Ляўданскім.

Ён быў высокі, мускулісты, ізь зьлёгку пакручастымі валасамі на галаве, пасаджанай на грубай шыі й плячох. Калі ён гаварыў ці голасна сьмяяўся, здавалася, што ён стаіць крыху адкінуўшыся назад, моцна ўпёршыся нагамі ў зямлю, і трымае цэлы сьвет за лейцы.

Палікарповіч рабіў ўражаньне чалавека вельмі стрыманага. Голас ягоны гучэў ціха, але сказы былі павольныя, абдуманыя. Падчас экспэдыцыі ён быў нястомны ў працы, але ўсю сваю энэргію аддаваў вылучна навуковым досьледам, ніколі ня дбаючы аб практычны бок працы, які цалкам ляжаў на Ляўданскім.

«Якія яны розныя», — часта думала я аб іх.

Ляўданскі выдаваўся мне добрым старэйшым сябрам, хоць іншы раз рэчы, аб якіх ён гаварыў, мне не падабаліся.

Аднойчы ён спытаўся ў мяне:

— Вы ведаеце Ластоўскага?

— Ведаю. Ён і ягоная жонка блізкія знаёмыя нашай сям'і.

— Што вы думаеце аб ім?

— Маю да яго вялікую пашану, — сказала я.

Я бачыла, як твар Ляўданскага спахмурнеў.

— А я іншае думкі аб ім, — сказаў ён адрывіста.

Ляўданскі пераехаў на працу ў Менск із Смаленскага Унівэрсытэту. Ён быў яшчэ маладым навукоўцам. На Смаленшчыне ён прымаў удзел у раскопках гарадзішчаў і курганоў, друкаваўся ў «Научных Известиях Смоленского Государственного Университета» і выдаў аб сваіх досьледах асобную кніжку. У ягоных навуковых высновах адчуваліся прарасейскія канцэпцыі. Гэтыя прарасейскія сымпатыі можна было вычуць у ім у жыцьці, хоць ворагам беларушчыны ён тады ня быў. Нажаль, пазьней аб ім гэтага сказаць ня можна было.

Працуючы ў Беларускім Дзяржаўным Музэі, Ляўданскі сутыкнуўся із Вацлавам Ластоўскім. Ластоўскі, адзін зь лідэраў беларускага адраджэнскага руху, прасякнуты ідэямі вялікага прошлага свайго краю, бескампрамісны вораг усяго «прамаскоўскага», зь Ляўданскім працаваў беспасярэдня як дырэктар музэю. Паміж імі скла́ліся адразу няпрыхільныя дачыненьні.

Ластоўскі быў ідэялісты, але Ляўданскі ня бачыў яго такім. Ён уважаў Ластоўскага за фанатыка, амбітнага самалюбцу, зацікаўленага толькі ў дыскрымінацыі яго, Ляўданскага, як навукоўца.

Кажны чалавек, атручаны падазронасьцю, робіцца небясьпечным. Незадаваленьне супраць Ластоўскага абярнулася ў Ляўданскага ў незадаваленьне супраць усяго нацыянальнага, беларускага. З часам у Ляўданскага разьвілася халодная цяжкая нянавісьць наагул да ўсяго беларускага. У той-жа час ён бачыў вялікую моц нашых навукоўцаў і разумеў, што яна можа быць атакаванай толькі праз абвінавачваньні. І ўжо ад 1929 году ён не прапускаў нічога, што-б магло разбурыць беларускую нацыянальную навуку, навет фантастычных даносаў. Гэта стала ягонай амбіцыяй, ягоным задаваленьнем, ягоным асабістым абавязкам.

У 1930 годзе Ластоўскі быў арыштаваны, вывезены, пасьля чаго сьлед па ім загінуў. Ляўданскі застаўся ў Беларусі. І ў гэтым трагэдыя не асабістасьцяў, а нашай нацыі.

У Буда-Кашалёва мы прыехалі позным раньнем. Адсюль нанялі вазы, бо чыгункі да месца палеалітычнай стаянкі ня было. Дзень выдаўся гарачы. Вельмі часта мы спыняліся каля вясковых студняў, паілі коні, пілі самі. Мы ўсе моцна запаліліся ў той дзень і адчувалі сябе зморанымі гарачынёю; усе, апрача Палікарповіча.

— Ня варта піць шмат вады. Гэта выклікае большую смагу, — раіў ён нам.

Палікарповіч у дарозе ня піў вады. Толькі яшчэ на станцыі, калі мы сьнедалі, заказаў ён шклянку вельмі моцнай гарбаты. Пазьней, у экспэдыцыі, ён штодня асобна для сябе гатаваў такую гарбату. Мне заўсёды здавалася, што цёмная скура на ягоным твары й вузкія шчыльна сьціснутыя вусны набылі чырвона-burштыновае адценьне гэтае моцна згатаванае гарбаты.

Палікарповіч ня быў гаваркім, як Ляўданскі, але калі ён аб чымсь апавядаў, яго было вельмі цікава слухаць.

Неяк ужо пасьля раскопак у раёне Сожу, калі мы плылі параплавам ад Чачэрску на Гомель, я засталася позна на палубе. Прырода заўсёды хвалявала маё выабражэньне, і я, хоць чулася зморанай пасьля дня працы, не хацела йсьці ў каюту. Застаўся на палубе й Палікарповіч.

Мы глядзелі на раку, абапёршыся на парэнчы палубы. Зацягнутае хмарамі неба амаль не адбівалася ў вадзе. Начную цемень і ціш парушаў толькі шум вады ад руху параплава. Я прызвычаілася, што Палікарповіч маўклівы, і ўздрыгнулася, ад нечаканасьці, калі ён загаварыў.

— Чалавек заўсёды сьведама ці нясьведама ў пошуках праўды, у пошуках адказу, у чым сутнасьць ягонага існаваньня.

Чулася нейкая напружанасьць у ягоным звычайна ціхім голасе, і гэта мяне зьдзівіла. Я павярнулася да яго тварам, але ён працягваў гаварыць, гледзячы на раку.

— Адных гэтае шуканьне прыводзіць да ведаў, у другіх прыймае дзіўныя формы.

Раптам ён павярнуўся да мяне так, што цяпер мы былі твар да твару.

— Вы ведаеце, што па гэтых прыгожых берагох захаваліся хлыстоўскія абшчыны? — сказаў ён.

— Не, — адказала я. — Я навет добра ня ведаю, які іхны догмат.

— У пошуках праўды таксама, — сказаў ён.

Я паглядзела на яго зь недаверам: «Ці не жартуе ён?» — падумала я. Не, ён не жартаваў, ягоны голас заставаўся сур'ёзным.

Ад яго пачула я тады, што хлыстоўскія абшчыны ці караблі паўсталі ў Маскоўшчыне ў сярэдзіне 17-га стагодзьдзя, што ў 18-м стагодзьдзі некаторыя зь іх, таксама, як і стараверы, уцякалі ў Беларусь ад перасьледу маскоўскіх уладаў, што праз стагодзьдзі жывуць хлыстоўцы, ці хрыстоўцы, як яны самі сябе завуць, паміж нашымі людзьмі адасоблена. У часе «радзеньняў» бегаюць яны па коле, б'юць цела дубцамі (хлыстамі), каб выгнаць ізь яго нячыстую сілу, даходзяць да экстазу...

Я слухала ягонае апавяданьне, углядалася ў цёмныя берагі, і ўсё здавалася мне нерэальным, палохаючым. Ад неба, ад зямлі, ад вады, навет ад голасу Палікарповіча, пацягнуліся да мяне халодныя далоні страху.

Я доўга не магла заснуць у тую ноч. «Чаму шуканьне прыгаства й праўды ў чалавека часта набывае збочаныя формы?» — думала я й не знаходзіла адказу.

Гэта Палікарповіч адкрыў палеалітычную стаянку каля Бердыжа. Бердыская стаянка зьяўляецца першай у часе й найбольш значнай спасярод палеалітычных стаянак Беларусі. У вадней із сваіх пазьнейшых працаў аб гэтай стаянцы Палікарповіч зазначае, што яна «й да гэтага часу ня можа ўважацца за дастаткова вывучаную. Раскопваўся ўвесь час па ўмовах заляганьня стаянкі ня цэнтар яе, а пэрыфэрыя».

Пад кіраўніцтвам Палікарповіча на гэтай стаянцы праводзіліся раскопкі ад 1926 да 1929 году кажнае лета, а таксама ў 1938 і 1939 гг.

Ён адносіць гэтую стаянку да стадыі пазьнейшага ці верхняга палеаліту (канец ледавіковае эпохі, 30—20 тысяч гадоў да нашае эры). На ягоную думку, тут існаваў даўгі час людзкі пасёлак, бо была знойдзена вялікая колькасьць касьцей мамантаў і іншых жывёлаў, а паміж імі крамнёвыя канцы для дзідаў, разцы, нажы, зробленыя першабытным чалавекам.

Адкрыцьцё палеаліту ў Беларусі мела вялізарнае навуковае значэньне й было сэнсацыяй таго часу. За вынікамі раскопак сачылі, імі цікавіліся ўва ўсім сьвеце. Аб рэштках гэтае стаянкі, аб ейнае фаўне, аб гэалягічных умовах знаходжаньня яе цяпер ёсьць вялікая колькасьць друкаваных працаў, якія прыносяць новыя веды аб першых кроках жыцьця чалавека ў нашым краі й наагул на зямлі.

У тое лета, на час раскопак, мы спыніліся блізка стаянкі ў невялікай вёсцы Падлужнае. Аглядаючыся назад, я бачу чыстую хату нашых гаспадароў, лаўку каля вакна, на якой я спала, вялікі стол у куце, заўсёды засланы белым саматканым абрусам, і шырокую пяшчаную вуліцу, па якой я перад сьнеданьнем сьпяшалася на возера памыцца, а пазьней з усімі йшла на працу.

Стаянка знаходзілася высока на берагавой тэрасе р. Сожа, на правы бок невялікае лагчыны, каля выхаду гэтае лагчыны да ракі. Зь верху, дзе мы працавалі, было далёка відаць увесь краявід.

Дзялянка стаянкі, дасьледаваная намі ў 1928 годзе, мела 30 кв. мэтраў. Спачатку зьнялі верхнія пласты пяску, у якіх ня было сьлядоў рэшткаў. Усю дзялянку разьбілі на панумараваныя квадраты. Кажны браў асобны квадрат і вельмі асьцярожна, уважліва ачышчаў рэшткі ад пяску невялічкімі пэндзалямі й шуфлікамі. Усё, што знаходзілі, фатаграфавалі, занатоўвалі на плянс, паказваючы нумар квадрата й глыбіню заляганьня. Глыбіня заляганьня рэшткаў была значная й у некаторых мясцох даходзіла да 5-ці ці 6-ці мэтраў.

Адкапалі мы тады каля 500 цэлых і паламаных ці разьбітых костак жывёлаў. Як і ў папярэдніх экспэдыцыях, гэта былі галоўна косьці мамантаў, а таксама косьці быка, дзікага каня, пячорнага мядзьведзя, вялікага ваўка. Косьці дзівілі сваімі памерамі, асабліва канцавіны, біўні й чарапы мамантаў.

Ізноў на стаянцы знайшлі каменныя прылады й некалькі вугольчыкаў ад вогнішча. Усё гэта сьветчыла аб чалавеку, які тут жыў тысячы гадоў назад, паляваў на мамантаў, апрацоўваў сваю здабычу прымітыўнымі каменнымі нажамі, скрабкамі, разцамі. Нат шліфаваньня каменя чалавек тады яшчэ ня ведаў. Ня ведаў ён і глінянага начыньня.

У першы дзень на раскопках хлапцы падклалі ў мой квадрат шчарнелы гліняны чарапок і вельмі цешыліся, калі я, не распазнаўшы падману, паказала яго Палікарповічу.

У часе раскопак наведвалі нас краяведы й карэспандэнты з Бабруйску, Гомелю, Віцебску.

У часе раскопак праца вельмі захапляе, і, хоць працаваць даводзілася ад раньня да вечара, ніхто ня думаў аб зморанасьці. Мы сьпяшаліся скончыць раскопкі, пакуль стаялі цёплыя сухія дні. Ужо праз тыдзень верхні пласт заляганьня рэшткаў быў ачышчаным. Па ўсёй дзялянцы грувасьціліся чыстыя, высахлыя, выбеленыя тысячагодзьдзямі косьці. Дзіўна разіў кантраст паміж гэтай вялічэзнай грудай касьцей і жывым храраством беларускага лета. Але ў гэтым кутку ля Сожа, дзе сярод забалочаных лугоў захавалася шмат гарадзішчаў, дзе ўсьцяж пад сачыстым зялёным мурагом можна бачыць курганы, насыпаныя стагодзьдзямі таму нашымі продкамі над сваімі нябожчыкамі, дзе ў мове й звычаях вясковых людзей жыве водгук былога, — усё апавядае аб неперарыўным бясконцым жыцьці, якое заўсёды ўзьнімаецца над жыцьцём зьмерлых.

Памятаю, у купальскі вечар гаспадыня сказала нам, што хлапцы й дзяўчаты зь вёсак «хораша гуляюць ля Сожа». Мы пастанавілі пайсьці за вёску, на край лагчыны, каб пабачыць. Прыйшлі туды, калі сьцямнела.

Перад намі далёка ўнізе, уздоўж ракі, высака шугалі й віхрыліся чырвоныя языкі вогнішчаў. Яны падалі бліскучымі плямамі на чорную паверхню ракі, выхоплівалі блізка сябе зь цемені зялёнае ўзьбярэжжа, постаці людзей, дзяўчатаў зь вянкамі над вадой. У цішы ночы чуліся далёкія людзкія галасы, сьмех, купальскія песьні. Словы песьняў даходзілі ня ўсе, губляліся ў далячыні, але мы іх ведалі.

Малюнак, што бачылі вочы, гіпнатызаваў. Не хацелася гаварыць, а толькі слухаць ды глядзець на жывое паданьне із сівое старажытнасьці.

Мы заставаліся над лагчынаю доўга, пакуль ня згасьлі вогнішчы. Ідучы дамоў, размаўлялі ціха, быццам баяліся парушыць таямнічыя чары купальскае ночы.

У тры ці чатыры тыдні скончылі мы працу на стаянцы, але Падлужнае не пакінулі. Стуль хадзілі мы па ваколіцах, укладаючы археалягічную карту, раскапалі некалькі курганоў каля Сожа насупраць Чачэрску, зрабілі пробныя раскопкі аднаго гарадзішча. Усё знойдзенае на раскопках запакавалі й адаслалі ў Менск.

У тое лета археалёгі ўва ўсёй Беларусі зрабілі нямала. Па Сожы, Дняпры, Дзьвіне й Сьвіслачы было дасьледавана шмат стаянак, 7 селішчаў, 42 гарадзішчы, 128 курганоў. Быў сабраны вялізарны навуковы матар'ял. Археалягічны аддзел Беларускага Дзяржаўнага Музэю ўзбагаціўся экспанатамі з жыцьця ў Беларусі ў пару палеаліту, нэаліту, бронзавага пэрыяду й пачатку зялезнага.

Ня можна пярэчыць, што й у вапошнія дзесяцігодзьдзі не вядуцца досьледы помнікаў культуры, квітнеўшай некалі на Беларусі. Але цяпер скарбы нашае гісторыі вывозяцца. У «Літаратура і Мастацтва» (№ 75 — 1401 за 1959 г.) у нататцы «Раскопкі на Навагрудзкай зямлі» кандыдат гістарычных навук Ф. Гурэвіч зазначае: «Па «ўраджайнасьці» гэты год незвычайны... Як ніколі за апошнія тры гады мы вязём у Ленінград больш 2000 знаходак».

Узбагачаецца Ленінградзкі музэй! А ці-ж гэта пацеха для нас, Беларусаў?

**Н. Саковіч**

# Крызыс баларускага савецкага тэатру

(Заканчэньне зь 10-ай бачыны

«Кажнае слова ў творы было накіраванае ў сэрца гледача, кажная думка непакоіла яго мозг, кажны абраз — зрок. Глядач жыў у тэатры і ў спэктаклі разам з акторамі, а ня быў абыякавым сузіральнікам».

Гэта добра сказана. Нажаль, толькі крытык узноў-жа не хацеў, ці ня мог падаць тлумачэньняў аб гэтай ужо забытай «Гуце». Не падаў, перш за ўсё, што ён арыентуе нас на твор, на якім доўгі час ляжала **партыйнае табу,** таму што аўтар ягоны Кобец фігураваў у сьпіску наццэмаў — «ворагаў беларускага народу». Яшчэ ў 1955 годзе друк, рыхтуючыся да дэкады беларускага мастацтва ў Маскве, рэгабілітаваў толькі назоў п'есы, хаваючы яе аўтара. Парадаксальная зьява, характэрная для савецкай палітыкі!

Ня высьвятліў крытык і таго, што «Гута», ня гледзячы на пастаноўку яе ў БДТ-І (цяпер тэатр імя Янкі Купалы) у 1930 г., калі падымаліся пытаньні індустрыяльнай тэматыкі, была яшчэ цалкам у традыцыях 20-ых гадоў, традыцыях нацыянальнага адраджэньня, што яна (п'еса) і спэктакль пайменна з гэтых пазыцыяў выходзілі й да разьвязаньня работніцкага пытаньня. Усё было ахварбавана ў рамантычныя адценьні й лятуценьні, у якіх гэтак утульна й лёгка было чуцца выдатнаму дзеячу беларускага тэатру, артыстаму Крыловічу. Тады яшчэ магчыма было наіўнае ўяўленьне аб «невялікай гуце, якая жыве й дзеіць нейдзе на беларускай зямлі.» Цяпер панцыце аб індустрыяльным руху, работніцкай думцы й практыцы настолькі «зматарыялізавалася», набыло такіх ганебных рысаў, што не дарма работнікі кажуць: «Не пайду!» І ня йдуць, бо сучасны беларускі тэатр ня можа паказаць **праўды й шчырасьці,** якая была-б зусім не на карысьць савецкага ладу.

У тым і ёсьць галоўнае, істотнае й асноўнае, што беларускі тэатр у БССР цяпер згубіў свой апрычоны сваяасаблівы твар, асавеціўся, абрусеў, інтэрнацыяналізаваўся. Вось у чым прычына таго зацяглага хранічнага крызысу, у якім ужо трэць веку знаходзіцца беларускі савецкі тэатр і зь якога яму няма і ня будзе выхаду. Трыумфы, шэдэўры, слава мінула разам з нацыянальнай свабодай. Ім не расьцьвісьці ў умовах партыйнага ціску й паняволеньня.

Нажаль, такой праўдзівай думкі аб тэатры беларускія савецкія крытыкі выказаць ня могуць, але, думаю, што, хоць і пад сподам, яна ў іх тоіцца.

**М. Кулікoвіч**

*Замест фэльетону*

# „Важная хвіга“ Ядвігіна Ш. у наш час у Амэрыцы

А што, каб табе «кары» сваёй не займець і век па «бусах» душыцца, мая ты кветачка! Каб табе дух там заняло, мая ты ягадка, — усьціхла, нябось, спакарнела! Ня шкодзіць, ня шкодзіць! Але што я бяды набралася, пакуль гэтага, мае вы кветачкі, дабілася, што я стыду, злосьці й сьлёз глынула? За супакой думачкі ейнай, нявесткі, значыцца, як памрэ ўжо яна, гэтыя сьлёзы ахвяроўваю, хоць і ня хутка шчэ тэе будзе... Бо як жа-ж! Падумайце самі! Гэткае, шануючы Бога й людзей, шчанё, што яшчэ й малако на губах не абсохла (хоць гарэлку з гасьціма до-о-бра цягне), будзе пад мой нос, сьвякрыві нос, мае кветачкі, хвігу падтыкаць? Няма што казаць, усьцешыў мяне сынок, усьцешыў — чаго на старасьць прычакалася! А ўсё, бывала, прыставаў да мяне: «мамка, мамка, вазьму Агатку. Хоць маладая, але спрытная, на машынцы б'е й мову чужую ведае, і ня курыць (але, ня курыць — як з коміна смаліць!) і дзяўчына, як трэба, зграбная, і грошы дарма не раськідае, а ў «банку» кладзе. Але, кажнае пятніцы, кажа, першым чынам у банку бяжыць... А падумаеш, чаго там усьцяж па нейкую банку лётаць? Мала, вунь, пустых банкаў у шафе й на паліцы панастаўляна? Што-ж, кажу, бяры, кажу, сынок, мая ягадка, хоць сабе й Агатку. Па мне што? Ня я, а ты, Сымонка — дзіцятка, будзеш зь ёй жыць. Я ўжо старая, нядужая, вады вам не замучу...

Спрытная? Праўда, што спрытная, — спрытна, мае вы кветачкі, матчын нос хвігаю падцерла! А спытайцеся за што! Вось паслухайце, мае вы ягадкі.

— Спачатку, як толькі прывёз Сымонка Агатку зь вясельля таго ў хату... А трэ сказаць, што нялюдзкае й вясельле яна (бо-ж ня Сымонка) згуляць надумала: падумайце самі, мае вы ягадкі — хаты ёй замала, хоць аж тры «румы» маем і каморку на дадатак, дык захацелася ў нейкім «Палацы» вясельце гуляць! Наняла галю, гасьцей наспрашала чалавек сто — п'юць, ядуць, гуляюць за чужыя грошы, стыднікі, і хоць бы што! Музыкаў — Агатка, значыцца — наняла, з трубамі, з гаршкамі: бьюць, гудуць, равуць, аж я ўжо думала, галованька мая бедная трэсьне! Ды нічога, даў Божанька сілы, вытрывала.

Дык вось, як прывёз яе Сымонка да нас, ішло ўсё спачатку й ціха й складна. Раніцой яна, бывала, наставіўшы каву, пабяжыць у пякарню, булкі сьвежай купіць, Сымонку пабудзіць, ложак засьцеле... Ну, і падыйдзеш да яго падаўнейшаму, мае вы кветачкі, коўдру падцягнуць падушкі паўзьбіваць, бо як блін іх Агатка, значыцца, прыцісьне — ведама, маладая скуль ёй умець? Угледзіць гэта Агатка й зараз мае вы ягадкі, на мяне й накінецца: «пашто, мамка, чапаеш, хто-ж гэта сяньня так ложкі сьцеле»? І пойдзе й пойдзе сыпаць! А то часам сынок як пойдзе на працу ды замарудзіць увечары, а Агатка раней за яго да хаты прыбяжыць, дык зараз — тыц да печы, стравы чабохне ў місу: «На, кажа, мамка, зьеш крыху, на Сымонку не чакаючы. Ты-ж старая, можа млосна зрабіцца, а я палячу на вуліцу Сымонку пераймаць. Нешта позьніцца ён сяньня...» А сама — да люстэрка: губы памалюе, нос мукой прысыпле, паліто зноў на плечы — і да дзьвярэй. «Што-ж, кажу, ты нявестачка, каб цябе трасца мая ты ягадка, такая ўважная на маю старасьць? Абыйдуся без твае ласкі» — ды бразь ёй страву пад нос! Праўда, першыя часы, бывала, нічога не адкажа й пабяжыць. А іншым зноў разам здаралася, што на працу ня йдзе, дык прыліпне, Сымонкі чакаючы, увечары да акна й што ні кажы, ня чуе, углядаецца. А я ўжо й голасу ня маю, з голаду саслабеўшы. Чакаю, чакаю, мае вы ягадкі, калі-ж яна мне той стравы ліне, аж злосьць ужо мяне добра забірае і як толькі адарвецца яна нарэшце ад акна, Сымонку здалёк угледзеўшы, — ну й дам ёй тады дыхту! Бо як-жа, мае вы ягадкі? Голадам трымаць старую матку, мужа маладога чакаючы! Яна мо й есьці баіцца, ведама, сяньняшнім часам, усе — і дзяўчаты і жанкі ценянькія, быццам век ня еўшы, выглядаць хочуць, а ты — хоць зубы на паліцу кладзі! Ну й тыцнула я ёй раз хвігу пад нос — адну-аднюсеньку — а яна, мае вы ягадкі, зачырванелася, ды — мах па хвізе, хоць, жалься Божа, якая там і хвіга была? Я ёй тады другую, трэйцюю, аж і яна ўрэшце мне тыц пад нос хвігу, і якую! Ведама вучоная, на машынцы б'е й мову чужую ведае. Махнула й я па хвізе, ды не папала. А што яна махане, то якраз урэжа. Як пайшлі гэтак мы частавацца, мае вы ягадкі, дык частаваліся, аж пакуль Сымонка не вярнуўся й не расьцягнуў нас. З таго часу, мае вы ягадкі, амаль ня кажны вечар — пайшлі хвігі, аж рукі сабе паадбівалі, асабліва, калі Сымонка з працы, бывала, прыпозьніцца... За страву, за падушкі, за целявіжан. Бо не дае мне, мае вы кветачкі, нявестачка паглядзець, што я хачу, кароўкі там, конікі, старыну прыпомніць, а ўсё нейкіх прыдукаў глядзіць, што нагавіцамі трасуць ды галёкаюць.

Не магла сьцярпець я гэткай паняверкі, дай, думаю, схаджу да дохтура аднаго знаёмага, што яшчэ майго нябожчыка на той сьвет выпраўляў, пажалюся ды папрашу якое сьпірыны на нявестачку. Ён лекі знае, можа й дапаможа. Праўда, ісьці прыйшлося далёка, бо баюся я, мае вы ягадкі, «бусаў» гэтых. На сваіх нагах, хоць старых, а пэўней, куды трэба дойдзеш... Ды неяк зацягнулася, добра, што сьпяшацца ня было куды: нашыя маладыя ў госьці паехаўшы былі аж на два дні, бо якраз пад восень гэта ўжо было, на сьвятога Лебярдзея.

Прыйшла... Расказала яму ўсё. Ну, кажа, выслухаўшы мяне дохтур, ня маю я ні сьпірыны, ні рыцыны на тваю, бабка, хваробу, але раду дам: ня лезь ні да ложкаў, ні да печы, а лепш пасядзі сабе ў цяпле, рукавіцы павяжы ці панчохі, пэўне-ж умееш, а то ў царкву схадзі, памаліся, і не перашкаджай маладым. З гутаркі твае бачу, дый знаючы абое, ведаю, што яны табе, старой, хлеба не пашкадуюць. Добра, кажу, паночку, мая ты ягадка, хай і так будзе. Але, як ня маеш на маю нявестку сьпірыны, дык мо ўкол які знойдзецца? Усё лепш, як нічога. Хоць ты, выбачай, і дохтур, а ўсё-ж мо й патрапіш яе вылячыць? Не, сьмяецца дохтур, я, бабка, і ўколу для цябе ня маю. Ідзі й папрабуй пажыць, як я раю. А як-жа будзе з гэтымі хвігамі, кажу, — я па ейных не пападу, баба вёрткая, а яна мае хвігі таўчэ й таўчэ? Добра, падумаўшы, кажа дохтур, на гэта я й бязь лекаў знайду раду — давай руку! Узяў гэта ён маю правую руку, мае вы кветачкі, круціў, круціў мае старыя пальцы, думала, што ўжо хіба паломіць іх, але сагнуў нейктакі ў кулак і пытае: — «Што гэта?» Калі гляну, ягадкі мае, — хвіга! Ды й то не адна, а дзьве вялізныя хвігі з аднаго кулака злажыў, далі-пан, хвігі! Я й кажу: «хвігі, панок, дахтурок, мая ты кветачка».

Ну і добра, кажа, нясі ты гэтыя хвігі дадому й пачастуй нявестку, скажы, дохтар прапісаў. А сам сьмяецца. Хай пасьмее ўдарыць па дохтаравых леках! Але помні, як раскруціш пальцы ды сама зложыш — будзе табе па ўсім. Хай таўчэ тады, колькі хоча, я ўжо нічым табе не параджу.

Пайшла я. Іду, паглядаю ўсё на рукі. Як гляну на хвігі дохтуравыя, аж уцеха мяне, мае мы ягадкі, бярэ. Вучонымі хвігамі, думаю, ну й пачастую я сваю вучоную! Праўда, спачатку балелі пальцы, гэтак пакручаныя, несьці й нявыгада вялікая, але пасьля скрэплі яны й кулак неяк-такі данесла да хаты. Аж і мае маладыя ўжо ўдома. Нявестка целявіжан круціць, Сымонка сядзіць, курыць, і дзьве кумы ля яго прымасьціліся, гукаюць... Я — барждэй да нявесткі. Так і так, кажу, дохтур табе, мая ты ягадка, лекі на тваеноравы прыслаў — хвічкі ізь дзьве! Папрабуй-жа ўдарыць па дохтуравых хвігах! І тыц ёй кулак пад нос. Праўда, зьбялела яна, як палатно, ведама, пры чужых людзях, аж губы задрыжалі. Але ўдарыць ня ўдарыла. Я й давай ёй тыцкаць раз-по-раз. Падбег Сымонка бараніць, я й яму — тыц. Умяшаліся кумы — наце й вам! Шум тут узьняўся, суседзі зьбегліся, марыканцы, «воца мотар» пытаюцца. Я й іх хвігкаю пачаставала. Іншы зарагатаў, іншы пакрыўдзіўся, але крануць не пасьмелі. Толькі, мае вы кветачкі, нядоўга я цешылася. Частуючы суседзяў, зачапілася, каб яго агонь, за тапчан, грымнула — і хвігі раскруціліся!

З таго часу ня лезу я ў вочы маладым, але й нявестка баіцца мяне, як нячыстае сілы, каб зноў не пайшла да дохтура па лекі на яе, мае вы ягадкі, па хвігі.

**Пераапрацавала Н. Арсеньнева**

*Зь беларускага жыцьця*

### У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

19 сакавіка 1960 г. у Інстытуце адбылася чарговая зборка. Інж. Гарошка прачытаў рэфэрат на тэму «Тэхналёгія дрэва, лясная гаспадарка й прамысловасьць лесу у БССР». Рэфэрат складаўся зь дзьвёх частак. У першай дакладчык вельмі цікава й падрабязна падаў гісторыю тэхналёгіі дрэва, сучаснае становішча дрэваапрацоўчае й дрэвахэмічнае прамысловасьцяў і пэрспэктывы гэтых галінаў вытворчасьці. У другой частцы разглядалася лясная гаспадарка, прамысловасьць на лясной сыравіне й ейныя пэрспэктывы на Беларусі.

Аналізуючы сучаснае палажэньне ляснае гаспадаркі БССР й сыстэму органаў кіраваньня гэтай галінай, дакладчык давёў пагубнасьць сяньняшняга становішча гэтае галіны. Асабліва зьнішчальнымі для нашых лясоў сяньня ёсьць г. зв. «канцэнтрацыйныя лесанарыхтоўкі», у выніку якіх лясы Беларусі цягла нішчацца. Вельмі цікавыя разьлікі й пагляды падаў дакладчык на будучыню ляснoе гаспадаркі ў Вольнай Беларусі.

Прыкладам, выкарыстоўваючы толькі прырост нашага лесу, у галінах прамысловасьці зьвязаных зь лясной сыравінай магло-б быць затруднена каля 3-х мільёнаў людзёў.

Гэты цікавы й зьмястоўны рэфэрат выклікаў працяглую дыскусію.

### САКАВІКОВАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў СЫДНЭЙ (АЎСТРАЛІЯ)

26-га сакавіка сёлета Беларусы Сыднэю сабраліся ў доме сп. Лужынскага, каб урачыста адзначыць сваё нацыянальнае сьвята.

З уступным словам выступіў старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі Др. Я. Малецкі.

Між іншага, прысутныя ўставаньнем ушанавалі памяць беларускіх дзеячоў, надаўна памерлых на эміграцыі: сьв. пам. Рагулі й сьв. пам. Сытога, якім прамоўца пасьвяціў шмат увагі.

Пасьля афіцыяльнае часткі прысутныя за багатым сталом, падрыхтаваным спадарствам Лужынскімі, праводзілі гутаркі-успаміны ды слухалі беларускія песьні з плітак. І толькі позны вечар зьвесьціў усіх разыходзіцца дамоў.

За ўдалы вечар належыцца шчырая падзяка спадарству Лужынскім, якія, не шкадуючы сваёй працы, амаль усё зарганізавалі самі.

**Б.**



# Зьнішчаньне лясоў - народнага багацьця

Шчодрая прырода надзяліла нашую Бацькаўшчыну вялізарнымі багацьцямі. У даўнія часы Беларусь была краінай дрымотных лясоў, прыгожых дуброваў, пералескаў, багатых сенажацяў, якія разам з лясамі вялікімі прасторамі аблямоўвалі ціхія рэкі й вазёры. Лясы былі вернымі вартаўнікамі шматлікіх рэчак і вазёраў ад абмяленьня. У тыя часы да 40 працэнтаў усёй тэрыторыі нашай Бацькаўшчыны знаходзілася пад лясамі.

Нельга сказаць, што лясы раўнамерна пакрываюць усю тэрыторыю Беларусі. Самая высокая лясістасьць была на Палесьсі. Яшчэ й цяпер у Жыткавіцкім і Тураўскім раёне пад лясамі знаходзіцца больш 50 працэнтаў тэрыторыі. Ня меншая насычанасьць лясамі трывае ў Бягомельскім, Асіпавіцкім, Расонскім раёнах. Затое ў паўдзённых раёнах Меншчыны, Віцебшчыны й на ўсходняй частцы Магілеўскай і Гомельскай вобласьцяў лясістасьць скарацілася да 10—15 працэнтаў.

Сасновыя бары займаюць першае месца. Іх налічваецца 60 працэнтаў усёй лясной плошчы. Стромкая й выгоністая хвоя расьце на лёгкіх пяшчаных глебах, праўда, якасьць драўніны на гэтых глебах ня высокая. Самую каштоўную хваёвую драўніну даюць бары на суглінiстых і супешчаных грунтах. Хвоі там дасягаюць 30—35 мэтраў вышыні. Дрэва моцна прасмолена, зь невялікім слоем абалоні. Сосны на такіх грунтах высока расцэньваюцца й ідуць на лепшыя вырабы дошчак і іншых частак на будоўлях. Найбольшыя хваёвыя бары знаходзяцца на Гомельшчыне й Меншчыне.

На поўначы Беларусі сканцэнтраваныя яловыя лясы, які перамешваюцца зь ліставымі пародамі. У сярэдняй паласе рэспублікі знаходзяцца мяшаныя ялова-дубова-грабовыя лясы, пры чым дуб пападаецца ў бальшыні ўва ўсходняй частцы. На Палесьсі значна распаўсюджаныя шыракалістоўныя лясы з дубам і грабам.

Паводля афіцыйных дадзеных пад лясамі засталося толькі 25 працэнтаў усёй тэрыторыі рэспублікі. Зьнішчэньне лясоў Беларусі пачалося яшчэ ў другой палове мінулага стагодзьдзя, калі ўласьнікі лясоў — абшарнікі, пазбаўленыя дармовай працы прыгоннага сялянства, шукалі сяродкаў да вясёлага йснаваньня. Аднак самымі шырокімі памерамі зьнішчаліся лясы ў пачатку гэтага стагодзьдзя. Абшарнікі не абмяжоўваліся шырокім жыцьцём у межах краіны, яны шукалі ўцехаў за мяжою ў буйных цэнтрах Эўропы, на модных курортах. За вясёлае жыцьцё прышлося расплачвацца сасновымі барамі й дубравамі, а то й цэлымі маёнткамі.

Войны й акупацыі былі ня малой прычынай да вынішчэньня народнага багацьця Беларусі. Акупанты ўсё лепшае цягнулі да сябе: таварная сасна й дуб на клёпку быў асабліва каштоўным. Гэтыя пароды вывозіліся эшалонамі.

Маскоўскія ўладары з асаблівай прагнасьцяй накінуліся на лясы Беларусі. У дваццатыя годы й першыя дзьве пяцігодкі бязьлітасна нішчыліся астаткі лясных багацьцяў на Беларусі. Блізасьць заходніх краінаў і высокія цэны на лясныя матар'ялы спрыялі барварству маскоўскай улады. Эшалоны драўніны найвышэйшых гатункаў узмоцнена вывозіліся зь Беларусі на замежныя рынкі. Савецкай уладзе патрэбна была замежная валюта.

Не адставала ад Масквы й Польшча. Уладары лясоў у Заходняй Беларусі ня менш шпарка нішчылі лясныя багацьці на шматлікіх «тартаках». Высокаякасны тавар шырокім струменем плыў на захад.

Рабаўніцкае гаспадараньне Масквы над ляснымі багацьцямі Беларусі давяло да таго, што ў рэспубліцы было зьнішчана лясоў на 25 гадоў наперад. Вялікія суднаходныя рэкі на Беларусі абмялелі, а меншыя рачушкі й вазёры зусім высахлі. Толькі тады Масква агледзелася. Была выдана адумысловая пастанова, згодна якой па абодвых бакох буйных рэк (Нёман, Дзьвіна, Дняпро, Сож, Прыпяць) устаноўлена на 20 кілёмэтраў ахоўная паласа, на якой было забаронена высякаць лес.

Сярод буйных лясных масываў спрадвеку на Беларусі выдзялялася Белавеская пушча, якая знаходзіцца на сумежных раёнах Берасьцейскай і Гарадзенскай вобласьцяў. Нейкім шчасьцем гэта непаўторная пушча ня была цалкам зьнішчана войнамі й акупацыямі. Вялічэзная й своеасаблівая Белавеская пушча ў шмат якіх мясьцінах захавала выгляд першабытнага лесу. Пушча перапоўнена разнастайнымі пэйзажамі. Шматвяковыя дубовыя дубровы перамешваюцца із старадрэвінамі іншых лясныхародаў. Якіх дрэваў тут ня сустрэнеш?! Апрача ліпы, ясеня, клёну, вязу, грабу, якія сустракаюцца ў лясох Беларусі, паасобнымі экзэмплярамі сустракаюцца лістоўніца, тыся, зімовы дуб і іншыя пароды, якія даўно ўжо вывяліся ў лясох Беларусі.

Царом жывёльнага сьвету зьяўляецца зубр, які на волі застаўся аж з 18 стагодзьдзя толькі ў Белавескай пушчы. У 1955 годзе ў пушчы налічвалася толькі 27 зуброў. Сто гадоў назад іх было тут 1900 галоў.

Аднак і гэты высокакаштоўны народны скарб у палітычных мэтах маскоўскія ўладары падзялілі з камуністычнай Польшчай. Падзел адбыўся бяз згоды й ведама запраўднага гаспадара багацьцяў краіны — Беларускага народу.

**В. Б.**



## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не звароччваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.